Першая
кніга
празаіка

# МАКСІМ КЛІМКОВІЧ



# МЯЖА ПА ДАЛЯГЛЯДЗЕ

**Аповесці, дэтэктыўны раман**



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

# Фабіян

**1. Фабіян вяртаецца з вайны ў бязлюдны горад. Вечаровы госць**

Сонца покуль што не зайшло, але ў лесе, за колькі крокаў ад дарогі, было сутонліва. Вываратні, кусты ядлоўцу, валуны яшчэ пазнаваліся, але паспелі набыць ірэальнасць, змянілі колеры. Набліжаўся час, калі іхнія няпэўныя абрысы ў трохі загусцелым змроку маглі здацца каму пачварамі, каму ворагамі...

Фабіян не зважаў на іх. Ён глядзеў на дарогу і слухаў, як чвякае раскіслы глей пад капытамі каня. Колькі можна глядзець на адное і тое ж: на камяні, ядловец і вываратні?

Дарога змянялася, шырэла. Набліжала да горада. Конь ішоў роўна, нібыта і не было доўгай дарогі ззаду. Фабіян ехаў адзін. На павароце конь злёгку падкінуў, і тады калатнуліся ў перамёце пісталеты. Фабіян паправіў капялюш і злёгку сціснуў шпорамі бакі каня, той паслухмяна паскорыў хаду.

Лес скончыўся і адно нагадваў аб сабе ціхім шапаценнем за спінай, покуль яно дарэшты не злілося са свістам ветру. Наперадзе была пустка, парослая высокай травой і рэдкім кустоўем. Дарога габлялася ў ёй, але была ўжо без патрэбы — горад закрываў частку далягляду. Конь без прынукі перайшоў у галоп. Фабіян прыўзняўся ў страмёнах.

Праз туманны, сутонлівы паўзмрок горад выдаваў нязменным, якім быў у ранейшыя гады. Толькі не хапала адной дэталі, каб ажывіць яго, і яна не адразу кідалася ў вочы, яе адсутнасць надавала няўцямную трывогу — над комінамі не было дыму.

Чым бліжэй, тым большай рабілася адасобленасць дамоў, знікала цэлае горада, і ў той жа час ноч спалучала, аб'ядноўвала муры, латала праваленыя дахі, праломленыя шыбіны.

Створкі гарадской брамы ляжалі на зямлі, трохцалёвыя брусы былі патрушчаны ядрамі, а сталёвыя палосы абшыўкі звіваліся ў спіралі. Фабіян не стрымліваў каня, і той імчаў па вуліцах пустога горада. Брук пад дамамі быў закіданы чарапкамі дахавіцы, абвугленымі кавалкамі драўніны, патрушчанай мэбляй, нейкімі ашмёткамі. Але ўсё гэта ўжо грунтоўна зляжалася, прыбілася дажджамі, пакрывалася цвіллю, і таму нават само пытанне — ці жыве хто ў гэтым заняпадзе? — было дарэмнае: горад стаяў пусты, без людзей.

У тарцы пукатай плошчы, акрэсленай вузкімі, на тры акны, спічастымі дамкамі, мясціўся сярэдніх памераў палац. Ягоны курданёр замыкала каваная агароджа. Брама была наросхрыст. Але сцежкі роўна пакрываў гравер. Вялікі кветнік моцна парос былльнёгам, тырчалі леташнія стамбуры. У па-вераснёўску густой зеляніне пракідваліся познія кветкі. Палац у вільготных плямах пасля працяглых дажджоў усё адно глядзеўся прыстойна, толькі збоч партала ў муры ўбілася ядро, і ад яго сцякалі на ганак намаляваныя ржой струмяні. У астатнім усеагульнае разбурэнне не кранула палац. Вокны, як і належыць, шчыльна закрывалі аканіцы.

Фабіян саскочыў з каня, правёў яго пару кругоў вакол кветніка, затым адкінуў завалу з дзвярэй стайні. Там было прахалодна і гулка чуліся ўдары капытоў. Фабіян падвёў каня да сцяны, распусціў падпругу, конь супакоіўся, але ўсё яшчэ пераступаў з нагі на нагу. Торба з аўсом вісела на дашчанай загарадцы. Фабіян перавесіў яе на конскую шыю. Адразу ж пачулася хрумканне.

Завала на дзверы стайні паставілася не адразу, набрынялы брус не заходзіў у пазы.

Фабіян з перамётам на плячы падаўся да партала, доўгі ключ, навязаны на вяроўку, сціскаў у руцэ. З замком таксама давялося пакорпацца. Нарэшце шчоўкнула спружына, і Фабіян адчыніў невялікую фортку ў парадных дзвярах. Пад нагамі шамацела салома. Фабіян рухаўся ўпэўнена, нібыта і не было цёмна. На другім паверсе ён зайшоў у невялікі пакой, расхінуў акно і папіхнуў аканіцы. Чэзлыя рэшткі святла зрушылі цемру. Над спічастымі дахамі камяніц узвышаўся пастаўлены на стромай гары каралеўскі замак. Чытаўся адзін ягоны сілуэт з вышчарбленымі праломамі ў геаметрычна дакладных абрысах муроў. Фабіян апусціў на падлогу перамёт і выцягнуў крэсіва.

Гарэлі свечы ў жырандолях, займалася полымя на складзеных кастром у каміне дровах. Фабіян стаяў перад люстэркам, упраўленым у цяжкую барочную раму. Ён стомлена прымружыў вочы. Доўгія, да плячэй, валасы пазбіваліся ў пасмы і злёгку віліся толькі на канцах. Святлейшае за попельныя валасы шчаціннe гусцела на падбароддзі і кантраставала са скурай. Твар трыццацігадовага мужчыны выдаваў штучна старэйшым, і недарэчна глядзеліся густыя зморшчынкі, што разыходзіліся ад рагоў вачэй. Усё гэта былі знакі не старэння, а стомы, і тыдзень-другі спакойнага жыцця знішчыў бы іх.

Фабіян распусціў матузы каўняра і сеў на невысокую канапу побач са столікам. У запыленай вазе ляжалі скарлючаныя, падсохлыя цукаты, побач стаялі дзве закаркаваныя і залітыя воскам бутэлькі з віном. Фабіян адшпіліў адну шпору, счысціў масянджовай зорачкай воск і выбіў корак, віно пырснула на мармуровую паверхню століка. Ён закінуў ногі на канапу, сам прываліўся да сцяны і адпіў проста з рыльца, зашчаміў бутэльку між падушак, закінуў рукі за галаву

і знерухомеў. Вецер парыпваў аканіцамі, і полымя ў каміне то кранала камяні, то адхілялася ў пакой.

Фабіян прымружыў вочы.

Колер чыстага, без аблокаў неба гусцеў, набываў лёгкае барвовае адценне. Цёплы, як на сярэдзіну верасня, вецер панаваў ва ўтульным, трохі абцяжараным ляпнінай пакоі.

Ён яшчэ адпіў з рыльца і прыслухаўся. У загуслай да звону цішыні ледзь чутна праступаў гук. Падковы білі ў камень. Пошчак набліжаўся. Фабіян няспешна ўстаў, падышоў да акна. У пустым горадзе немагчыма было зразумець, адкуль дасягаў гук. Пошчак крышыўся аб каменныя сцены, вяртаўся рэхам.

На плошчу, заштрыхаваную доўгімі ценямі суправцьлеглых дамоў, выехаў коннік, спыніўся перад брамай. Ногі каня патаналі ў ценю, але ж вершнік яшчэ быў асветлены сонцам. Выцвілы, запырсканы глеем, але ўсё адно відаць, што дарагі, плашч вольна ахутваў незнаёмца і прыкрываў каня. Раз-пораз успыхвалі камяні на патускнелых засцежках. Вершнік прыўзняўся, ускінуў у прывітанні руку і крыкнуў:

— Вечар добры! Хай дапамагае пану Бог і ўлада!

Голас запаланіў плошчу, яшчэ раз грымнуў, адбіты дальнімі камяніцамі. Такія галасы пачуеш на вайне, калі крычаць: «Шаблі напагатоў! За веру і караля! Наперад!»

Фабіян счакаў, покуль сціхне рэха.

— Добры вечар. Стайня на завале. Зараз выйду.

Незнаёмец ужо вадзіў каня за аброць вакол кветніка. Фабіян махнуў яму рукой і пайшоў адкідаць завалу.

— Я хацеў... — пачаў незнаёмец.

— Пагаворым потым, як зойдзем у дом. Каня можна паставіць вось тут.

Фабіянаў конь заіржаў і падаўся назад, калі паўз яго праходзіў незнаёмец.

— Нічога, спакойна,— Фабіянава рука легла на грыву,— авёс у скрыні, а сена ў суседняй загародцы, я чакаю на двары.

Яны ўдвух, гаспадар наперадзе, госць ззаду, узняліся сходамі на другі паверх. Салома, разасланая на паркеце, прыцішала крокі.

Толькі ў пакоі Фабіян як след разгледзеў госця. Той моўчкі складаў у кут перамёты і незразумелыя, перавязаныя канатамі пакункі, развешваў на экране перад камінам свой доўгі плашч. Твар меў такі, што адразу ж забываўся, варта было на хвіліну адвярнуцца, і толькі доўгія валасы рабілі яго прывабным. Вопратка дарагая, але не дапасаваная — тут не пасавалі адна дэталь да другой: скураная паляўнічая куртка і шыкоўныя ядвабныя нагавіцы са шматлікімі матузкамі, завязанымі бантам. Пад усім гэтым даўно не мазаныя, парэпаныя боты з высокімі халявамі. Торс сцягвала партупея, абцяжараная доўгай шабляй. Нарэшце незнаёмец выпрастаўся, павярнуўся да Фабіяна:

— Аўгуст Паняверскі, капітан каралеўскай конніцы, гэта ў былым, а зараз проста падданы караля, вяртаюся ў свой маёнтак,— і схіліў галаву.

— Фабіян Жаковіч, харунжы гетманскага войска, вярнуўся ў свой пусты палац, ні слуг, ні нават проста людзей у горадзе, відаць, тое ж самае і ў маёнтку, так што нам давядзецца самім займацца вячэрай і засцілаць ложкі нанач.

Аўгуст трохі звузіў вочы:

— Дык мы ваявалі па розныя бакі, я за караля, а пан за гетмана. Можа, мне лепш пайсці?

— Не варта. Лепш вып'ем за сустрэчу і за знаёмства,— Фабіян падаў закаркаваную бутэльку,— келіхі не ведаю дзе шукаць, давядзецца піць з рыльца.

Аўгуст садраў воск пярсцёнкам і выбіў корак:

— За знаёмства, хаця, можа, дзе і сустракаліся да таго пад час бою.

— Не думаю, бо наўрад ці глядзелі б зараз адзін на аднаго. За знаёмства.

Яны адпілі віна і селі па розныя бакі століка. Аўгуст развязаў адзін з пакункаў і паклаў на стол вялікі кус смажанага мяса і бохан хлеба, выцягнуў з-за халявы нож, паклаў яго побач:

— Я нарадзіўся ў гэтым горадзе. А тут нагода. Нельга было не заехаць, не паглядзець. Але ж гэтыя пустыя вуліцы, ніводнага чалавека. Мне нават сталася страшна. Хаця, чаго за вайну не пабачыў. Пасля бою на полі забітыя, параненыя — і не страшна, жахліва, але страху няма. А тут тыя ж вуліцы, дамы, якія сто разоў бачыў, а страшна. І так мне хацелася, каб адзін чалавек знайшоўся на ўвесь горад. Тут паміж дамоў акно мільганула, а ў ім святло. Пан калі вярнуўся?

— Як вярнуўся, то адразу і падпаліў гэтыя дровы ў каміне. Сёння ўвечары. Мяне таксама ўразіла пустэча. Праўда, нечаканай яе не назаву. Я ўжо трэці дзень не сустракаю людзей. Думаў, і сёння давядзецца быць самому. Але пана прывабіў горад.

— Што ж, вайна скончылася, людзі вернуцца. Пан не адзін застаўся на свеце.

— Што, тады вып'ем за перамогу? — Фабіян прыўзняў бутэльку.

Аўгуст глянуў яму ў вочы:

— Пан ваяваў за гетмана і прапануе выпіць за перамогу караля?

— Я прапаную выпіць за перамогу. Яшчэ наконт маёй шчырасці могуць быць сумненні, але чаму пан не хоча выпіць за яе?

— Я не казаў, што не хачу. Але ж гетмана разбілі...

— Усё правільна. Гетмана няма. Толькі ці падобны я да пераможанага? — Фабіян адкроіў сабе кавалак мяса. — Я нікому не здрадзіў і жывы вярнуўся дадо-

му. Мой палац не разрабаваны. Можа, перамаглі тыя, хто загінуў? Хай сабе і за караля. Ці той, хто здрадзіў і не наважыўся вярнуцца?

— За перамогу!

Яны сутыкнуліся бутэлькамі і адпілі па добрым глытку.

— Сапраўды,— Аўгуст закінуў нагу на нагу,— мы сядзім за адным сталом, да таго ж у пана я ў гасцях. Панскі палац не закранула вайна, а яшчэ невядома, што сталася з маім маёнткам. Розніца толькі ў тым, хто каму прысягаў на вернасць. Галоўнае, ніхто з нас не здрадзіў. Перамаглі мы, тыя, хто вярнуўся. А з палацам сапраўды пашанцавала. Цэлы год не быць дома, а вярнуцца, і ўсё так, нібыта толькі ўчора паехаў, нават віно неадкаркаванае стаіць на стале. Нават шкло ў вокнах не пабітае і не пакрадзенае. Напэўна, усю дарогу дадому толькі і думак было: да якой ступені разбураны палац, колькі грошай давядзецца аддаць на рапарацыю. А самая радасць была, як ён некрануты стаў перад вачыма.

— Я за ўсю дарогу дадому нават ані разу не падумаў, што з маім палацам што-небудзь здарылася. Якім я яго чакаў пабачыць, такім і пабачыў, шкада, што кветнік парос быльнёгам, але так я сабе і ўяўляў,— Фабіян расхвальваўся, кожнае слова было паспешлівым, відаць, яму даўно карцела выгаварыцца, толькі не было перад кім. Ён змоўк і глянуў у вочы Аўгусту, ці слухае ён.

Аўгуст глядзеў зацікаўлена:

— Я зайздрошчу панскай упэўненасці. Але ж гэта, мне здаецца, звычайная рэч на вайне. Пасля кожнага бою думаеш: «І як я толькі застаўся жывы? Гэта ж выпадак. Не падсунься сябра пад шаблю, не спатыкніся варожы конь, то не яны — вораг і сябра, а я ляжаў бы ў магіле». І так кожнага разу. Покуль не пачынаеш лічыць сябе зачараваным і ад кулі, і ад шаблі. А

ўсё вельмі проста — калі цябе самога заб'юць, то не будзе каму разважаць пра зачараванасць. Бо той сябра, той вораг таксама лічылі сябе зачараванымі, толькі не паспелі страціць у гэта веру, так хутка пайшлі з гэтага свету.

— Я і наконт таго, што застануся жывым, не сумняваўся. Вось і сяджу тут, п'ю віно. А адкуль мы ведаем, можа, і сябра, і вораг перад самай смерцю, за імгненне да смяротнага ўдару, страцілі веру ў сваю зачараванасць. А куля, што мелася толькі параніць, прайшла на далонь бліжэй, праз сэрца. Але ж я загаварыўся, мо пан хоча спаць з дарогі, а я прымушаю яго слухаць балбатню, якая цікава мне аднаму? У суседнім пакоі стаіць ложак.

— Спаць? Дзякую, не,— Аўгуст дапытліва глянуў на Фабіяна,— вось калі пан жадае адпачыць? Мне цікава слухаць і выгодна сядзець. Да таго ж мы не дапілі віно.

— Добра,— Фабіян устаў, падышоў да каміна і працягваў, стоячы спіной да Аўгуста: — Я хачу расказаць адну гісторыю, як доказ таго, што я не маню наконт палаца, а таксама наконт уласнага жыцця, колькі разоў я хацеў яе расказаць і кожны раз адумваўся. Не, блізкім людзям яе ведаць не трэба. Мне карцела спыніць каго на вуліцы, у дарозе і расказаць,— але ж тады мяне палічылі б вар'ятам. А зараз ёсць доказ — мой палац — ацалелы сярод разбурэння. Пан згодны выслухаць?

— Так.

Фабіян азірнуўся. Яму падалося, што Аўгуст змяніўся за гэты час у нейкай дробязі, якую не адразу і заўважыш. Не то фарбы яго адзення сталіся больш зыркімі, не то пярсцёнак апынуўся на другім пальцы, але на якім быў раней — Фабіян так і не здолеў успомніць. Тады ён сеў на канапу, паклаў далоні на кант стала і пачаў расказваць.

**2. Гісторыя, якую расказаў Фабіян Жаковіч. Пра каханне і смерць**

Так мне карцела расказаць гэтую гісторыю, увесь час, з таго моманту, як яна адбылася. Апошнія дні было невыносна, аднак мяне стрымлівала тое, што расказаць — гэта сурочыць. І вось сёння я нарэшце пабачыў свой палац і адчуў — галоўнае засталося ззаду, сталася па ўсім. Смерць на вайне і разарэнне мінулі мяне. Мінулі таму, што я не расказваў, не сурочыў. І самы жах — няма каму расказаць, нельга давесці, што гэта не выпадковасць, [redacted] я сам, сам зрабіў...

Пачалося ўсё з жанчыны, як і большасць гісторый у гэтым свеце. Дакладней, з дзяўчыны, бо і я тады быў яшчэ юнаком. А скончылася дванаццаць год таму. Жахліва — магу кідацца такімі лічбамі. Але ж, што зробіш, расказваць гісторыі з уласнага жыцця падарожным — таксама прыкмета старэння.

Яе імя — Марына. Мы жылі ў суседніх маёнтках. Бачыліся раз на тыдзень, як нашыя бацькі з’язджаліся ў госці. Мо таму, што ў нас не было другога выбару ці, можа, так было наканавана, але ж мы пакахалі адно аднаго. Я не стану апісваць яе партрэт, бо гэта марная трата часу. Няхай пан прыгадае сваю першую каханку і возьме яе партрэт за ўзор — так яму будзе лягчэй разумець мяне.

Марына была адзіным маім госцем на дні нараджэння — першым, які я памятаю. З таго часу ўсе настолькі звыклі бачыць нас разам, што нашае каханне нікому не кінулася ў вочы. Мы спакойна і без аніякіх перашкод праводзілі цэлыя дні разам і нават паспелі дамовіцца, што ажэнімся. Адно баяліся сказаць бацькам, бо ў іх наконт гэтага былі іншыя планы.

За сваім каханнем мы страцілі апошнюю асцярожнасць, нават паспявалі цалавацца ў прысутнасці яе маці, калі тая на хвілінку адварочвалася да акна. Такое, вядома, не магло добра скончыцца.

Аднойчы надвячоркам яе ж маці і заспела нас у альтанцы. Не ведаю, як доўга яна назірала за намі, толькі гукнула Марыну тады, калі мы ўжо сядзелі вельмі прыстойна, адно што абняўшыся, і лянва цалаваліся. Марына падхапілася, паспела мне прашаптаць: «Да заўтра» — і пабегла за маці, якая павольна ішла да палаца.

Самае дзіўнае, але я не асэнсаваў гэтага здарэння ў той дзень. Назаўтра, як быццам бы нічога і не адбылося, я пасля абеду паехаў да Марыны. Мяне нават не пусцілі ў дом. Давялося вяртацца і расказваць усё ад пачатку свайму бацьку.

Назаўтра раніцай мы паехалі разам. Яго прапусцілі, мяне не. Добрых паўдня я прастаяў пад Марыніным акном. Шчыльна ссунутыя фіранкі не варухнуліся. Раптам адчыніліся невялікія дзверы чорнага ўвахода, і на ганак таропка выйшла нейкая дзеўка, паклала пад сцяну складзеную ўдвая паперку, махнула мне рукой і вярнулася. Я на ўсялякі выпадак счакаў, потым падняў паперку, зайшоў у парк і разгарнуў яе.

«Фабіян,— пісала Марына,— заўтра я разам з маці перабіраюся ў горад. Як будзем праязджаць карчму за мястэчкам, я ўдам, што страціла прытомнасць. Прыдумай што-небудзь, каб мы пабачыліся сам-насам». Яшчэ там былі пацалункі, абяцанкі, якія маюць цікавасць толькі для мяне і наўрад ці хвалююць пана.

План склаўся адразу. Трэба было неадкладна скакаць у мястэчка, знайсці там лекара і класці перад ім на стол манеты да таго часу, покуль ён не згадзіцца выпадкова апынуцца недалёка ад карэты, калі Марына страціць прытомнасць. Потым ён павінен дапамагчы перанесці Марыну ў загадзя куплены мной пакой у карчме і сказаць, што ёй нельга кранацца з месца пару дзён, што хвароба вельмі складаная і сам ён не бярэцца лячыць, а таму трэба самой маці ехаць у горад да лекара князя, бо толькі той зможа дапамагчы ў

гэтай хваробе, толькі ў яго ёсць патрэбныя лекі, але ён вельмі важны чалавек, і таму толькі асабістае запрашэнне пані прымусіць яго паехаць. А каб княскі лекар ведаў, што трэба браць з сабой, ён напіша яму запіску, вядома, на лаціне, якую сама маці і перадасць з рук у рукі. За Марынай дагледзіць пакаёўка. А мой пакой будзе, вядома, сумежным з Марыніным.

Нарэшце на ганак выйшаў бацька. Ён сказаў, што Марыніна маці не мае нічога супраць мяне асабіста, але не хоча, каб яе дачка болей сустракалася са мной, бо гэта зашкодзіць і майму, і яе далейшаму жыццю. Яна просіць прабачэння за апошнія два дні, калі загадала не пускаць мяне ў свой дом. Але спадзяецца, што я зразумею яе, і запрашае мяне наведаць яе ў любы час, пасля таго як вернецца з горада, каб мець магчымасць пагаварыць са мной асабіста. Што вінаваціць у здарэнні адну сябе, а ніяк не мяне з Марынай.

Я сказаў бацьку, што сам не лічу тое здарэнне чым-небудзь сур'ёзным. Але ў мяне моцна падпсаваны настрой, і я хацеў бы пабыць адзін колькі дзён, з'ездзіць у мястэчка, да касцёла, пахадзіць на паляванне. Відаць, пасля Марынінага ліста нельга было падумаць, што я збіраюся канчаць жыццё самагубствам з-за няшчаснага кахання.

— Так з імі і трэба, з бабамі,— нечакана груба сказаў бацька,— нашто яны яшчэ існуюць, толькі на гэта,— сказаў і аддаў мне свой кашалёк, поўны грошай.— Трымай, пагуляеш. Шкода, абяцаў не пускаць цябе ў горад. Але і тут пагуляць можна няблага. Глядзі, каб маці не даведалася ні пра Марыну, ні пра грошы. Мы дамовіліся маўчаць. Маўчы і ты.

Дома мне хутка падрыхтавалі стрэльбы, пісталеты, і я разам са слугой, з парай сабак паехаў нібыта ў паляўнічы домік на лясное возера. Слугу я без тлумачэнняў сагнаў з каня перад самым лесам, пакінуў яму сабак, стрэльбы і загадаў тры дні не казаць носа ў па-

лацы. А сам з двума коньмі, з кашальком, поўным грошай, скіраваў у мястэчка.

Лекара я купіў хутка і нечакана для сябе танна. Але ўсё адно да карчмы дабраўся толькі ў прысмерку. Стаяла яна ды, напэўна, і цяпер стаіць у даволі-такі злавесным месцы — за мяжой мястэчка, на скрыжаванні трох дарог, у яловым лесе.

У двары мітусіліся людзі, запрагалі коней, ладавалі фурманкі. Гучала сварка, адны прасіліся, каб іх падвезлі, другія адмаўлялі. Усё рабілася раздражнёна, не было відаць усмешак, не чулася жартаў. У дальнім куце двара стаяла карэта без коней. На падножцы сядзеў перапуджаны фурман, а побач прываліўся да кола безуважны да ўсяго карчмар. Відаць, ён што мог зрабіць, каб затрымаць людзей, зрабіў, а таму лічыў дарэмным лішні раз скаланаць паветра. Я ўехаў у двор, адна за адной з яго пачалі выязджаць фурманкі.

— Куды ўсіх гоніць пад ноч? — спытаў я ў карчмара.

— А хіба пану не казалі ў мястэчку? Гэта ж добрых паўгода пройдзе, покуль хто наважыцца зноў спыніцца ў мяне. Каб такое здарылася, ды ў мяне!.. Вось я пану раскажу, то і ён паедзе, ён паедзе, а мне заставацца, кінуў бы ўсё, каб не баяўся, што пакрадуць. Гэта ж пры пустой хаце разам з дзецьмі і жонкай у пуні начаваць,— карчмар ажно заплакаў.

— Дык што тут здарылася? — не вытрымаў я.

— Нарабіў тут адзін,— спуджаны фурман устаў,— заехаў сёння малады шляхціц, не раўнуючы такі, як пан, сядзеў за сталом, нічога не еў, адно віно піў і нож у руках круціў, вочы шалёныя ў яго былі. А потым раптам пры ўсіх шах і той нож сабе ў горла. Відаць, жылу перабіў, то і кроў струмянём праз увесь стол, на талеркі, на келіхі. Адразу сканаў. Цёплы яшчэ ў сваім пакоі ляжыць. Тут якраз войт з мястэчка быў, то ён у рэчах нябожчыка паперы знайшоў, пад-

пісаныя князем. Вось і загадаў мерцвяка тут трымаць, а сам да князя ў горад паімчаў даведацца, што рабіць.

— А ты чаго застаўся? — я вагаўся, злазіць мне з каня ці не.

— Як мой пан, так і я,— фурман прымусіў сябе гаварыць спакойна,— ён як крыкі пачуў, то выйшаў з пакоя, паглядзеў, што той шляхціц ужо нежывы, і назад. Я заходжу, пытаюся, ці закладаць коней, бо ўсе людзі сабраліся гуртом ехаць — не так страшна ўночы, як па адным. А ён і кажа: «Дурні, мне тут спакайней, бо калі яны пазбягалі, то сюды ад жаху і ніводны злодзей не залезе. Самае бяспечнае — тут сядзець, а не ўночы па дарогах цёгацца». А нябожчык у яго якраз за сцяной ляжыць,— фурман змоўк і глядзеў, якое ўражанне выклікаў у мяне.

Я выехаў за браму і спыніўся на дарозе, самым моцным жаданнем было як мага хутчэй паехаць адсюль. Здавалася, нібыта мне на твар, на кавалак мяса, што падносіў да вуснаў, пырснула чалавечая кроў. Нізкае сонца афарбавала жвір дарогі чырванню.

«Паехаць можна,— падумаў я. — А калі з раніцы я не паспею да прыходу лекара, той не знойдзе мяне і вернецца дадому? Але ж не гэта самае страшнае. Вось калі прыедзе Марына, яе занясуць у карчму, а там яна даведаецца, што нейкі малады шляхціц, падобны да мяне, парануў сабе горла нажом. А мяне побач не будзе. Ці не вырашыць яна, што гэта быў я? Але застаўся ж начаваць гаспадар спуджанага фурмана, а ў яго, напэўна, справа менш пільная за маю».

Я зноў заехаў на двор.

— Паслухай,— сказаў я карчмару,— мне трэба два пакоі на два дні.

— Пан жартуе, а мне не да жартаў. Нашто два? Хіба што для коней, тады чаму не тры?

— Вось грошы наперад.

Карчмар сціснуў манету.

— Два пакоі? І ўсё?

— Не зусім, пакінь рэшту сабе. Заўтра зробіш яшчэ адну справу. — Я саскочыў з каня. — І змый усю кроў у ядальні! Заўтра сюды прыедуць жанчыны і заплоцяць табе за другі пакой яшчэ.

Я прытрымаў карчмара за крысо лапсардака і растлумачыў, што мне ад яго трэба.

### 3. У гісторыі з'яўляецца другі Фабіян

Я сядзеў за доўгім сталом пад нізкай, успёртай на драўляныя слупы столлю ядальні. Гарэлі ўторкнутыя ў рыльцы бутэлек дзве свечкі. Падлога і стол былі яшчэ мокрыя, у рэдкіх падсохлых плямах. Карчмар пастараўся, каб змыць кроў, пахла воцатам. Сам карчмар разам з сям'ёй і фурманам перабраліся спаць у пуню.

Я сядзеў адзін перад квартай віна. Есці я не мог, хоць нават і не снедаў у той дзень. Піў віно — галава ад яго рабілася адно больш цвярозай. Перада мной быў пакой нябожчыка. Я пазбягаў глядзець на дзверы, бо кожны раз, як міжволі мой позірк спыняўся на іх, рабілася страшна, і страх не знікаў, як я адводзіў позірк, а мацнеў з кожнай хвілінай. І вось, калі я нарэшце падумаў, што гісторыя пра смелага гаспадара, расказаная фурманам, звычайная байка і нікога ў карчме, акрамя мяне і нябожчыка, няма,— дзверы адчыніліся.

Гаспадар фурмана з першага позірку падаўся мне чалавекам незвычайным. Ён, відаць, таксама не клаўся яшчэ спаць гэтай ноччу, ды і не мог я яго пабудзіць, бо сядзеў да гэтага ціха, кожны мой рух дадаваў мне страху. На ім было багатае, але без упрыгожванняў, адзенне. Доўгія боты складкамі ссунуліся ніжэй каленяў. Твар гладка паголены. Цёмныя, з сівізной валасы даходзілі да карункавага каўняра. Незвы-

чайнымі былі яго паводзіны. Ён не павітаўся, нават не кінуў якой-небудзь нязначнай фразы, падышоў і сеў насупраць мяне. З добраю чвэрць гадзіны мы сядзелі моўчкі, а можа, гэта цягнулася і пару хвілін, бо ноччу, калі не спіш, час доўжыцца не так, як удзень.

— Страшна, хлопча? — нарэшце спытаў ён бясколерным голасам.

— Не больш, чым на могілках,— адказаў я.

— Можаш і мне казаць «ты», зараз не той час і не тыя абставіны, каб захоўваць этыкет. Як тваё імя?

— Фабіян.

— Мяне таксама завуць Фабіян. Дзіўны збег абставін. Ці не так?

— Я першы раз сустракаюся з чалавекам, які носіць маё імя.

— Я таксама. Хлопча, а табе, калі ўжо згадаліся могілкі, не страшна ўбачыць на надгробку ўласныя імя, род, год нараджэння, а год смерці — у будучым часе?

— Калі апошняя дата не сённяшні дзень, то як-небудзь перажыў бы.

— А калі сённяшні?

— Вядома, пачую сябе ніякавата, як і кожны чалавек.

— Кожны чалавек. Кожны не азначае — разумны. А ён,— Фабіян паказаў цераз плячо на нябожчыкавы дзверы,— убачыў такі надгробак, у думках, вядома, але вельмі дакладна, і адразу нож у шыю. Ягоныя фантазіі не разышліся са справай.

— Дзіўная ў нас размова. Нябожчык якраз не баяўся смерці, бо добраахвотна сустрэўся з ёю. Баяліся тыя, хто паўцякаў, бо не хацелі заставацца побач са смерцю.

— Не са смерцю, а з нябожчыкам. Гэта страх штурхнуў іх на сапраўдную небяспеку — апынуцца ноччу на дарозе ў лесе, там страшна. Рабаўнікі, звя-

ры,— іх варта баяцца, гэта сапраўдная пагроза. А тут баяцца чаго?

— Зайздрошчу чалавеку, які не верыць у замагільны свет, для якога ведзьмакі, прывіды не існуюць. Бо, шчыра кажучы, мне страшна і зараз, каб не пільная справа, я аддаў бы перавагу начной дарозе ў лесе. Баяцца ўсе, толькі смялейшыя не дазваляюць заўважыць гэтага,— я так і не змог прымусіць сябе сказаць яму «ты».

— Я не казаў, што прывідаў не існуе. Я сам іх бачыў на ўласныя вочы, нават датыкаўся рукамі. Цёплыя і падобныя да нас саміх. Я проста іх не баюся. Вось чаго можна баяцца ў гэтай карчме? Таго, што раптам адчыняцца дзверы і з іх выйдзе мярцвяк? Тыя, што паўцякалі, баяліся менавіта гэтага. Ну і цудоўна, хай выходзіць. Што ▮ таго? Да доказаў неўміручасці душы дадасца доказ неўміручасці цела. Застанецца толькі радавацца. Адно, на жаль, ён не выйдзе — ляжыць, як і мы будзем некалі ляжаць.

Мяне ўразіла, як ён спакойна і мімаходзь згадаў пра прывідаў. «Яшчэ не хапала праседзець ноч за сталом у кампаніі скажонага»,— падумаў я.

— Не варта мяне браць за вар'ята,— ён прысунуўся бліжэй да стала,— вар'яцеюць ад жаху, а я не баюся, я навучыўся не баяцца, бо зразумеў прыроду замагільнага свету. Гэта нялёгка мне далося, каштавала жыцця, не мне, вядома. Я не баюся ўсёй гэтай брыды таму, што ведаю, дзе, калі і чаму яна з'яўляецца. Толькі дурань можа казаць, што жахаў наогул не існуе. Бо адкуль тады ўзяліся словы, якімі мы іх называем? Усё, што можна назваць словам — існуе. Покуль няма рэчы — няма і слова. А калі ёсць слова — то некалі ж была і рэч. Ноч яшчэ доўгая, а ты, хлопча, наўрад ці збіраешся спаць. То я хачу зрабіць добрую справу — навучыць і цябе не баяцца. Гэта занадта проста, каб ты паверыў адразу. Таму лепш раска-

жу сваю гісторыю ад пачатку, як я сам дайшоў да ўсяго. І калі ты паверыш у яе — значыцца, навучыўся. Ты згодны слухаць?

— Ноч доўгая, і я сапраўды не збіраюся спаць.

— З чаго ж усё пачалося? — намысліўся Фабіян.— Пачалося ўсё з таго, як я навучыўся баяцца. А было гэта так...

**4. Гісторыя, расказаная Фабіяну Жаковічу ў карчме ноччу за некалькі крокаў ад нябожчыка**

— Мы тады жылі ў маёнтку. Я, маці і бацька. Я быў малы і нічога не баяўся. У мяне яшчэ быў дзед — бацька маці. Жыў ён недалёка ад нас, у суседнім маёнтку, за лесам. Бацькі пазбягалі гаварыць пра яго. Ды і ён сам ніколі не прыязджаў да нас. Затое слугі любілі расказваць пра яго розныя дзіўныя гісторыі. Казалі, што ён выгнаў усіх сваіх слуг, акрамя аднаго, былога загоншчыка і ведзьмака, што ён загадаў закласці цэглай усе вокны ў сваім палацы і выходзіў пагуляць у парк толькі ноччу. Казалі, што часам з дзедавага палаца чуліся музыка і галасы гасцей. Хоць як хто гэта мог чуць — не ведаю, бо ўсе стараліся абыходзіць дзедаў палац здалёк. Але ж мяне гэтая балбатня адно забаўляла — дзед на кожнае свята, а то і без дай прычыны дасылаў мне са сваім адзіным слугой падарункі і кожны раз тыя, аб якіх я марыў, нібыта ведаў мае жаданні.

У нас заўсёды хто-небудзь ды гасцяваў. Звычайна бацькавыя сябры. Ён вельмі любіў ловы. Часам браў з сабой і мяне, садзіў перад сабой на каня, і тады мы ўжо не ўдзельнічалі ў паляванні, а толькі назіралі. У мяне не было ні братоў, ні сясцёр, і я звык бавіць час або з маці, або ў кампаніі дарослых мужчын з бацькам. Мне дома не ставілі ніякіх перашкод: я свабодна заходзіў да бацькоў, нават калі яны былі з гасцямі.

Аднойчы, калі мы вячэралі, маці раптам устала і сказала, што дрэнна пачувае сябе. Я добра памятаю, як яна падышла да мяне, схілілася і пацалавала, рукі ў яе былі халодныя і дрыжэлі. У дзвярах яе хіснула, яна прывалілася да шула і спачувальна ўсміхнулася. Бацька падбег да яе, і яны разам выйшлі з залы.

Назаўтра мяне ніхто не пабудзіў. Я прачнуўся сам, доўга ляжаў, прыслухоўваўся. Было ціха... Нарэшце я ўстаў і крадком выйшаў у калідор.

За непрыбраным сталом у зале сядзеў бацька. Слугі выглядалі з-за дзвярэй. Я заўважыў, як сцяўся бацька, ледзь пачуў мае крокі. Я падышоў. Ён глянуў мне ў вочы. Накруціў на палец доўгі матуз каўнера, ірвануў яго ўніз.

— Твая маці памерла,— ён кінуў адарваны матуз на стол, узяў мяне за руку, і мы пайшлі ў спальню.

Моцна пахла воцатам і духмянай соллю. Ложак быў завешаны вэлюмам. Маці ляжала паверх коўдры і, здавалася, сама трымала ў руках свечку. Раптам пакой хіснуўся, сцены выгнуліся, агеньчык свечкі расплыўся і стаў прамяністым. Я плакаў. Бацька ўзяў мяне за плечы і вывеў з пакоя.

Усю ноч мы прастаялі ў капліцы каля труны. Я ўжо не плакаў, толькі шаптаў малітвы. Паступова аплывалі, плавіліся свечкі, іх няпэўнае, мігатлівае святло змяняла абрысы капліцы, і толькі блізкі да іх твар маці заставаўся нязменным.

— Тата,— шэптам пазваў я,— тата...

Бацька паклаў далонь на малітоўнік і глянуў уніз.

— ?

— Тата, а мама назаўсёды памерла?

— Так.

Я глядзеў на маці, на яе нерухомы твар і толькі тут канчаткова ўсвядоміў, што яна памерла, што сёння апошні дзень, калі мы разам. Успомніліся і пацалунак і спачувальная ўсмешка.

Я сцяўся і глянуў на бацьку. Раптам ягоны твар падаўся мне нежывым — прыкрытыя вочы і нерухомыя вусны. Іх твары сталі падобнымі ў цьмяным святле свечак, набылі аднолькавасць — твар маці і бацькаў твар. Але гэта не ўсё, яны зраўняліся з мармуровымі тварамі стодаў надгробкаў, што стаялі ў нішах па сценах капліцы. Мне раптам сталася страшна, страшна за бацьку, што ён памрэ таксама, што гэты выраз на ягоным твары стане заўсёдным.

— Тата, тата,— я крануў ягоную руку,— тата, а ты не памрэш?

Ён павольна расплюшчыў вочы.

На пахаванне дзед не прыехаў. Адно прыслаў слугу з вялікім кашом кветак.

Пасля смерці маці бацька болей не склікаў да сябе сяброў, і ўвесь вольны час мы праводзілі разам. Толькі страх не пакідаў мяне. І за сталом, і на паляванні, і перад камінам, калі мы ўвечары чыталі ўголас кнігу, я заўсёды мімаволі заўважаў на ягоным твары той, што запомніўся мне ў капліцы, выраз. Прыкрытыя вочы, бяскроўныя вусны. І тады мяне зноў агортваў страх за бацькава жыццё. Гэта перайшло з часам у нейкае вар'яцтва. Я спускаўся сходамі, і раптам у галаве з'яўлялася фраза: «Калі я саступлю з апошняй прыступкі левай нагой, то бацька памрэ». І я стаяў на сярэдзіне сходаў і падлічваў, з якой нагі мне трэба ступіць зараз. Я чытаў кнігу, і самі сабой складваліся словы: «Калі я не дачытаю старонку, а ў бібліятэку нехта зойдзе, то бацька памрэ». І я ліхаманкава дачытваў старонку. Але ж лавіў сябе на тым, што не разумею сэнсу прачытанага, забываюся словы, а гэта зноў азначала смерць. Я бег да бацькі, каб упэўніцца, што ён жывы. Але ж адразу заўважаў выраз твару з капліцы, і страх мацнеў. Нарэшце мае прыхамаці і забабоны ператварыліся ў сістэму, я не мог зрабіць кроку, які б не быў звязаны з бацькавым жыццём.

На ўлік браліся колькасць прыступак, надвор'е назаўтра, наступлю ці не наступлю на шчыліну ў плітах падлогі, калі зраблю крок з заплюшчанымі вачыма, ці прачнуся да світанку. Я вар'яцеў. Мяне не ўратоўвала нават тое, што бацька нарэшце зноў пачаў цікавіцца жыццём. Мяне ўвесь час праследаваў той нежывы, мармуровы твар.

Праз некалькі год бацька ажаніўся другі раз. На той час мой страх завалодаў мной. Я ўжо не мог спаць начамі. Бацька дзяліў час паміж мной і мачахай. А мне ўсё здавалася, калі мы не разам, то з ім абавязкова нешта здарыцца.

Мачаха была добрай жанчынай. Яна нават любіла мяне, толькі лічыла сваім святым абавязкам выхоўваць. Са сценаў зніклі карціны, на якіх было аголенае цела. Ключ ад бібліятэкі яна трымала ў сябе. Адзіная кніга, да якой я меў вольны доступ,— Біблія. Мне забаранялася ўваходзіць нават да бацькі, папярэдне не пагрукаўшы ў дзверы. З маіх страхаў яна адкрыта смяялася, бо меркавала, што так я ад іх хутчэй пазбаўлюся.

Неяк ноччу я раптоўна прачнуўся. Страх зноў авалодаў мною. Я пачаў маліцца. Я прасіў Бога, каб ён лепш забраў маё жыццё, але каб жыў бацька, бо я не магу трываць далей. Я маліў, але ў той жа час яшчэ адзін голас гучаў у маёй душы. Ён гаварыў: «Няўжо ты сапраўды верыш у тое, аб чым моліш Бога? Ты ж хочаш жыць сам, гэта бацька табе замінае жыць спакойна. Ты жадаеш толькі адзін раз перажыць ягоную смерць, а не перажываць яе на працягу гадоў кожнае імгненне. Няўжо ты думаеш, Бог не разбярэцца, чаго ты жадаеш сапраўды, не зразумее, што ўласнае жыццё і спакой табе даражэй? Ён разбярэцца і пазбавіць цябе пакут».

А я працягваў маліць Бога, я маліў яго не слухаць гэты голас, а зазірнуць мне ў душу, бо там жа ёсць

тое, што я не магу выказаць словамі, не магу ж я жадаць бацькавай смерці дзеля ўласнага спакою. Я маліў, а голас працягваў: «Ну, добра, зазірне Бог у тваю душу і што там пабачыць? Жаданне жыць самому. Вось і здзейсніць усё згодна твайму жаданню. Малі, малі!» І тут я зразумеў — гэты голас мае рацыю. І не закрыю я ад Бога душу. Не магу я шчыра жадаць уласнай смерці.

Я далей не мог стрымліваць свой страх, я страціў над ім уладу. Мяне пачало калаціць. Я выбег з пакоя, спальня была ў другім крыле. Я бег бязгучна па цёплым наваскаваным паркеце. За паваротам калідор перарэзала палоса святла. У кабінеце за сталом сядзеў бацька і нешта пісаў.

— Тата,— я аббег стол і стаў побач з бацькам.

— Табе зноў страшна? — ён абняў мяне.

Перад намі на стале ляжаў чысты, адно са старанна выведзеным тытулам, аркуш паперы. Завіткі літар перашкаджалі чытаць. І я прачытаў уголас, па складах тытул, выведзены буйнымі літарамі — «Тастамент». Вольнай рукой бацька перавярнуў аркуш.

— Тата, ты не памрэш?

— Я магу адказаць толькі за сябе самога. Памерла маці, калі-небудзь памру і я, а прыйдзе час — не стане і цябе. Нам усім даў жыццё Бог, і ён вырашае, калі яго забраць. Ніхто не можа ведаць дзень смерці.

— Тата,— я хацеў сказаць, што не ведаю, але адчуваю смерць, як адчуваюць другія надыход навальніцы, але мне пераняло дыханне.— Тата, нашто тады тастамент? Мне страшна.

— Ідзі спаць, я пасяджу каля цябе, покуль заснеш.

Я ляжаў у ложку, а бацька сядзеў побач і трымаў маю руку. Ён нешта расказваў. Павольна кружляў пакой перад вачыма. Мяне як пагойдвала. Неўпрыкмет я заснуў.

Сніліся тры пачварна агромністыя люстраныя ша-

ры, яны каціліся палацавымі пераходамі. Я ўцякаў ад іх, ускокваў на падваконні, яны міналі. Я бег, і зноўку шары грукацелі за мной. Вокны зніклі, а я імчаўся паўз гладкія, суцэльныя сцены да зашклёных дзвярэй у канцы пераходу. Нарэшце я дабег, азірнуўся. Шароў не было відаць, але яны ўжо грукацелі за паваротам. Я з усяе моцы таргануў за бліскучую бронзавую ручку. Дзверы былі зачынены. За шклом стаяў бацька з пісталетам у руцэ. Я крычаў яму, каб адамкнуў дзверы. Ён паказаў на мігі, што не чуе, узняў руку з пісталетам і навёў яе на мяне. Толькі пісталет ён трымаў руляй да сябе, паклаўшы на курок вялікі палец. Я крыкнуў яму, каб перавярнуў пісталет. Бацька заплюшчыў вочы і стрэліў.

Адразу за стрэлам падаліся дзверы. Бацька нерухома ляжаў на падлозе. Я кінуўся да яго, схапіў за плечы. Ён быў каменны — на падлозе ляжаў мармуровы стод і сціскаў у руцэ мармуровы ж пісталет. За спіной загрукацела. Я азірнуўся. Люстраныя шары адзін за адным выкочваліся з-за павароту. Яны біліся аб блізкія сцены, трушчылі атынкоўку, уздзіралі паркет, падміналі мэблю. Я кінуўся да акна, ірвануў фіранкі, аконны праём быў закладзены цэглай. Першы шар раструшчыў дзверы і спыніўся, у ім адбіваліся сцены, падлога, столь, мэбля. Не было толькі мяне самога. Другі шар ударыў у першы. Пакой здрыгануўся, і кандэлябр упаў са стала на падлогу. Запанавала цемра, я сцяўся ў чаканні трэцяга ўдару, але ён так і не прагучаў — усталявалася ціша.

Я паспрабаваў намацаць сцены, але іх не было, захісталася і знікла з-пад ног падлога. Я адчуў, як паступова знікае маё цела. Я зліўся з цемрай, сам стаў ёй.

Вярнуліся адчуванні. Але ж адчуваў я ўсё нараз: і палац, і поле, парк і пачварныя шары, адчуваў усё, што бачыў калі-небудзь у жыцці, дзе бываў. Толькі

было яно ўнутры мяне і нічога не заставалася звонку, звонку ўсяго быў я сам без цела і без руху. Я адчуваў і самога сябе, які ляжаў на ложку і спаў. Мне не было страшна — наадварот, з'явілася пачуццё аб'ёму і спакою маёй існасці ў гэтым аб'ёме...

У тую ноч памёр бацька, яго знайшлі раніцай нежывога за сталом у кабінеце. На аркушы паперы ён так і не дапісаў нічога. Адзін тытул — «Тастамент» і некранутая бель унізе.

Я надзіва лёгка перажыў смерць бацькі. Нават пахаванне мне не запомнілася. Памятаю толькі, як мы стаялі побач з мачахай і яна плакала. Я тады падумаў: «Я не магу яе суцяшаць, бо кожны з нас плача па розных людзях. Яна страціла мужа, я бацьку, а гэта не адзін і той жа чалавек. Я люблю бацьку, а да яе мужа не маю ніякага дачынення».

Мой сон аб люстраных шарах болей не вяртаўся. Але з таго часу я пачаў баяцца цемры.

Мы засталіся ўдваіх з мачахай. Жыць з ёй было невыносна. Яна закінула ўсе справы, акрамя адной — майго выхавання. Да нас перасталі заязджаць у госці нават суседзі. Чым больш нуднымі былі мае настаўнікі, тым больш яны падабаліся ёй.

Асабліва яе чамусьці бянтэжыла прысутнасць у доме жанчын. Сабе самой яна пакінула толькі адну пакаёўку, ды і тая была старэйшая за майго ніколі мной не бачанага дзеда. Астатнюю працу выконвалі выключна мужчыны.

Карціны з аголенымі жанчынамі, якія ў свой час прыдбала мая маці і якія мачаха яшчэ пры бацькавым жыцці загадала зняць са сценаў, яна ж пасля смерці пераслала дзеду як памяць аб ягонай дачцэ. Тое ж адбылося і з падазронымі, на яе погляд, кнігамі з бібліятэкі. Так я дажыў да шаснаццаці год і не тое каб хаця раз пабачыў аголеную дзяўчыну, а нават не размаўляў сам-насам з апранутай. Якія толькі монст-

ры не маляваліся замест іх майму ўяўленню, асабліва ў снах. Я не мог дачакацца, калі ж нарэшце змагу зрабіцца паўнапраўным уладальнікам сваёй часткі спадчыны і пачну ладзіць сваё жыццё, як мне падабаецца.

Праўда, нельга сказаць, каб мачаха мяне не любіла, можа, нават залішне. Гэтым і тлумачылася яе жаданне няспынна сачыць за маім выхаваннем.

У той дзень, калі мне споўнілася шаснаццаць, пасля святочнай вячэры мы сядзелі з мачахай у зале, яна чытала ўголас нейкую страшэнна нудную кнігу.

Я не слухаў, я глядзеў, як змяняе колеры сонца ў вітражах. Раптам дзверы ў залу расхінуліся, і зайшоў дзедаў слуга — былы загоншчык і вядзьмак, за ім убегла старая пакаёўка.

— Я яму казала, што пані і паніч занятыя, што сюды нельга...

Мачаха спыніла яе ўзмахам рукі.

— Спадзяюся, гэтаму ўварванню ёсць дастаткова важкае тлумачэнне,— яна грэбліва зірнула на нядаўна начышчаныя, але запырсканыя свежым глеем боты загоншчыка.

— Паніч, дзед памірае, наказваў прыехаць неадкладна. Каня я прывёў,— ён нават не паглядзеў на мачаху, звяртаўся да мяне, і толькі.

— Вяртайся, я загадаю закласці карэту, і мы прыедзем пазней разам,— мачаха ўзяла са стала званочак.

— Наказана, каб паніч прыехаў адзін, неадкладна,— дзедаў слуга нават не павярнуў галавы, ён працягваў глядзець мне ў вочы.

Мачасе нават заняло мову ад такога нахабства.

— Пачакай у двары,— сказаў я,— зараз паедзем.

Я развітаўся з мачахай, сам нацягнуў боты з высокімі халявамі, надзеў бацькаву паляўнічую куртку. На дварэ было сутонліва і зімна. Конь для мяне стаяў

пад самай балюстрадай ганка. Адразу з парэнчаў я скочыў у сядло.

Спачатку мяне кідала з боку ў бок, але калі мы мінулі агароджу парку, забытае ўменне аднавілася. Я прыўзняўся ў страмёнах і нагнаў праважатага. Мы скакалі поруч, баючыся адстаць на вузкай, раскіслай ад працяглых дажджоў дарозе, бо пырскі гразі ляцелі далёка назад. Дарога ішла лесам, і нам даводзілася прыгінацца, каб не зачапіць нізкія галіны дрэў.

Лес, які, здавалася, будзе цягнуцца бясконца, нечакана застаўся ззаду. Над чорнымі хмарамі дрэў парку вымалёўваўся цямнейшы ад неба дзедаў палац.

Дзверы былі наросхрыст, за імі асвятлялі анфіладу залаў рэдкія свечкі. Слуга запаліў кандэлябр ад бліжэйшай, і мы пачалі ўздымацца пакручастымі сходамі. Потым былі пераходы, яшчэ нейкія прыступкі, спачатку трохі ўніз, потым наверх. Нарэшце недзе ў мезаніне мы спыніліся. Слуга адчыніў дзверы, прапусціў мяне наперад.

— Тут,— сказаў ён, дзьмухнуў на свечкі, адступіў крок і бязгучна растварыўся ў цемры.

Да пакоя больш пасавала назва — зала, калі б не ложак, адгароджаны шырмай. Святло ад прыкрытага экранам каміна выразна асвятляла толькі столь, усё астатняе заставалася бясколерным. Але чамусьці падумалася, што сцены драпіраваны менавіта чырвонай мануфактурай з залатым цісненнем.

— Я думаў, ты прыедзеш пазней,— прагучаў спакойны, адно што з прысвістам голас з-за шырмы.

Я падышоў да дзеда. Цела яго патанала ў пярыне, і таму коўдра здавалася роўна рассеченай проста па ложку. У пульхкіх падушках твар выдаваў плоскай маскай.

— Вось ты які,— дзедаў голас гучаў роўна, але вусны рухаліся неадпаведна гукам.— Ты адзіны, каго я не мог уявіць сабе ў думках, адзіны, хто жыў па-за

маім уяўленнем да гэтага часу. А яны ўсе, нават мёртвыя, тут, я чую іхнія галасы. Іхнія твары на маёй памяці змяніліся ад немаўлёнка да чэрапа ў грабоўцы. А я зараз іх бачу нязменнымі, якія яны ёсць. Добра, што цёмна і я не магу разгледзець твой твар. Я не хачу, каб ты далучыўся да іх. Хай яны далучаюцца да цябе. Сядай. Я ўжо не адчуваю свайго цела. Толькі вочы і язык слухаюцца мяне. Пасядзі побач. Мне засталося мала часу.

— Слуга паехаў па ксяндза? — я сеў на край ложка.

— Так, толькі ён не паспее. Ксяндзы і лекары заўжды позняцца, і толькі смерць прыходзіць раней, чым трэба. Не перабівай мяне, паспееш нагаварыцца, а я ўжо не. Ты мне павінен сказаць толькі — так ці не. А цяпер слухай. Усё, што я маю, хачу пакінуць табе, чуеш, усё, што маю, гэта не толькі грошы і маёнтак. Калі думаеш, закладзеныя вокны можна прабіць зноў — памыляешся. Няхай у іх будзе шкло, толькі ты ўсё адно будзеш памятаць іх каменнымі. Чуеш, ці згодны ты стаць маім нашчадкам? Ці згодны ты ўзяць усё, што я маю? Я таксама раней жыў, як і другія, як думаеш жыць і ты, але ж бачыш, што сталася са мной, з маім палацам, гэта як смерць — ніхто не думае паміраць, а паміраюць. Так і з тымі вокнамі: што можа быць закладзена цэглай, у рэшце рэшт будзе закладзена. Ды што вокны — драбяза, проста яны кідаюцца ў вочы, а ўсё астатняе? Яно ж таксама пяройдзе да цябе. Я нічога не хаваю, глядзі, нават сваю смерць. Падумай і адкажы. Ці згодны ты стаць нашчадкам, прыняць у спадчыну ўсё, што я маю? Падумай!

— Зараз,— я прымружыў вочы, не думалася, у вушах гучалі словы: «грошы, незалежнасць», дзявочыя постаці вымалёўваліся скрозь смугу.— Я падумаў: так, згодны.

— Добра,— дзед заплюшчыў вочы,— цяпер ты тут гаспадар. Паварушы вугалле ў каміне: накруці гадзіннік на камінnай паліцы.

Абкладзены паліраваным чорным мармурам камін патыхаў сухім цяплом. Вугалле ледзь прабівалася чырванню праз попел. Я падклаў дровы. Агонь хутка ўскараскаўся па іх і асвятліў пакой. Бліснуў вызалачаны скульптурны гадзіннік, адбіўся ў ідэальна гладкай паверхні камінnай паліцы. Цёплы ключ ляжаў побач. Суха захрабусцела пружына. Гадзіннік раптам уздрыгнуў, і загучала незнаёмая мінорная мелодыя.

— Якая гадзіна? — спытаў я.

— Ты гаспадар, на якую паставіш, такая і будзе,— прагучала ў пакоі.

— Поўнач,— адзначыў я і не стаў датыкацца стрэлак,— час ценяў.

Мелодыя не канчалася, паўтор ішоў за паўторам.

Я зноў сеў на ложак. Дзед маўчаў. Пасля зыркага агню каміна вочы зноў прызвычаіліся да змроку за шырмай.

— Дзеду,— няголасна аклікнуў я. Ён маўчаў. Я ўстаў, нахіліўся і пацалаваў у лоб нябожчыка — майго дзеда.

Мне раптам сталася задушліва. Я падбег да акна, расхінуў фіранкі. За імі слаліся роўныя рады цэглы ў плямах раствору. У коміне засвістаў вецер, зарыпелі дзверы, калыхнулася тканіна шырмы. Граў гадзіннік. Я адчуў, як скура ў мяне халадзее.

Камінныя шчыпцы выслізгвалі з рук. Нарэшце я здолеў сціснуць імі галаўню і выбег з пакоя на калідор. Сходы. Забітыя крыжом дзверы. Пераходы. Страх штурхаў мяне ў спіну. Я ніяк не мог знайсці выхаду. Жарынкі, падхопленыя скразняком, раз-пораз зрываліся з галаўні. Сцены то сціскалі мяне з бакоў, то адступалі ў цемру. Палац поўніўся гукам маіх крокаў. Раптам у твар плесканула свежым паветрам, і ў кан-

цы анфілады бліснуў месяц. Я выбег на ганак, шпурнуў шчыпцы з галаўнёй на каменныя пліты і прашаптаў: «Выбачай, дзед, я не магу зараз застацца з табой, мне страшна, зразумей і выбачай, я прыеду да цябе заўтра з раніцы, я зраблю ўсё як трэба, ты ж ведаеш, выбачай, мне страшна». Ледзь чутна ў глыбіні палаца граў заведзены маёй рукой гадзіннік.

Я адвязаў каня, ускочыў у сядло і паімчаў. Конь сам скіраваў у ледзь бачны ў месячным святле прагал між кустоў шыпшыны. Здзічэлы парк змяніўся лесам. Чвякала пад капытамі глеба. Страх усё болей апаноўваў мяне. Згадваліся страшныя гісторыі пра начныя балотныя агеньчыкі, што заманьваюць у багну.

Каб супакоіцца, я пачаў уяўляць, што зраблю, як атрымаю грошы. Як уладкую палац, якія ў мяне будуць жанчыны і госці. Але ў святочныя думкі зноў урываліся пачвары і жахі, прыгажуні ператвараліся ў хімер, у гасцей адрасталі іклы, і яны ўжо гналіся за мной па маім шыкоўным палацы, а вецер гасіў свечкі, блыталіся, перасякаліся калідоры, а выйсця не было. Урэшце я адчыняў дзверы, але за імі была цагляная кладка.

Лес падступіўся бліжэй, звузіў дарогу да шырыні калідора. Я разумеў, што па часе, колькі скачу, даўно павінен быць дома, што збіўся з дарогі і пакінуў свой палац недзе ўбаку, але страх не даваў спыніць каня і агледзецца. Я імчаў у вільготнай цемрадзі і суцяшаў сябе, што кожная дарога прыводзіць куды-небудзь.

### 5. Дарога прыводзіць у зачараваны палац

Калідор дарогі замігцеў няпэўным святлом, нарэшце сталіся бачнымі кропелькі імжыстага дажджу, які церушыў невядома адкуль і куды: не то зверху ўніз, не то знізу ўверх, а хутчэй за ўсё проста вісеў у паветры.

Дарогу наперадзе перагароджвалі сталы, над якімі ўзнятыя кандэлябрамі матляліся агеньчыкі свечак. Насустрач мне ўжо беглі, пакінуўшы свае крэслы, людзі ў плашчах, было чутна, як патрэсквалі іх паходні, ад іх разам з дымам адляталі маленькія жарынкі. Конь спыніўся сам, і першы, хто дабег да мяне, схапіў яго за аброць, конь тузануўся, але трымалі моцна.

— Віват пану,— крычалі астатнія,— паніч проста так не праедзе. Сёння свята! Гаспадыня запрашае!

З-пад плашча ўзнік высокі, каляровага шкла келіх, у яго з усхліпваннем палілося віно.

— Пан павінен выпіць за гаспадыню!

Раптам усе разам сціхлі. Той, хто трымаў каня, сціснуў між пальцаў шкляную ножку і ўзняў руку. Келіх загайдаўся перада мной. Я перахапіў яго, наблізіў да вачэй, пукатае шкло сказіла мае рысы, я пакруціў ножку, адбітак мяняўся, але заставаўся на месцы. «У кулі келіха адбіваецца ўвесь свет, увесь свет, акрамя неба»,— знянацку падумалася мне.

— Віват гаспадыні! — скалануўся лес.

— А што за свята?

— Сёння дзень нараджэння.

Я перакуліў келіх. У ім была напаўналіўка, напаўвіно, як гатавала маці. Я працягнуў пусты келіх.

— Разбіць. Разбіць,— адгукнулася цемра.

Я кінуў высока ўверх, як у гульні «На каго Бог пашле». Шкло знікла без гуку. Страх не тое каб адступіў, ён сцяўся.

Паходні расступіліся. Я бачыў толькі абрысы таго, хто вёў майго каня за аброць. Доўгі плашч з капюшонам хаваў яго. Я сказаў, што згубіў дарогу, і спытаў, ці далёка мая сядзіба.

— Пану няма чаго непакоіцца,— адказаў ён і нават не павярнуўся,— сёння палац маёй гаспадыні — палац пана, ён і так ужо дома, а раніцай згубленая дарога адшукаецца.

Лес падаўся ў бакі — і на высокім пагорку я ўбачыў палац. У высокіх венецыянскіх вокнах плавілася святло. Палац стаяў адзін, нідзе побач не было ні стайні, ні гаспадарчых прыбудоў, толькі побач з парадным ганкам, уздоўж сцяны, цягнуўся доўгі, пусты, апілаваны на чатыры канты брус, на які звычайна навязваюць коней.

Пасля напаўцёмных калідораў зыркае святло залы разанула па вачах. Пасярэдзіне залы на казетцы напаўляжала гаспадыня. Што гэта яна, а не хто іншы, сумненняў не было, госці сядзелі вакол яе, да таго ж яна была адзінай жанчынай у гэтай зале.

З твару яна мела год дваццаць, не болей, але на той розум здавалася недасягальна дарослай і прывабнай. Сукню яна мела наколькі магчыма адкрытую, але са шчыльнага ядвабу, непранікальнага для зроку. Яна прыўзняла руку для пацалунку.

— Вітаю пана Фабіяна, спадзяюся, мае слугі не залішне назалялі з запрашэннем. Калі ў пана пільная справа, то ён можа ехаць, затрымліваць сілай не буду, але пакрыўджуся — напэўна.

— Панна ведае маё імя?

— Сорам не ведаць уласных суседзяў. Келіх пану Фабіяну!

— Дзякую, я застаюся. Мне няёмка, па-першае, я не ведаю імя панны, а яна ведае маё, па-другое, я без падарунка, а трапіў на дзень нараджэння...

— Калі гэта так непакоіць пана, то стан рэчаў лёгка выправіць, да таго ж адным чынам. Няхай пан падорыць мне імя, якое пажадае. Сапраўды, калі я сёння нарадзілася, то павінны ж мне даць імя. Я чакаю...

— Я падумаю, падарунак не павінен быць танным: панна, панна... панна... Марта.

— А зараз, мне здаецца, трэба пакінуць казаць пан, панна. Ты не супраць, Фабіян?

— Калі атрымаецца перамагчы страх, Марта.

— Тады цудоўна. Шкада, я ведаю тваё імя і не магу зрабіць такі ж шыкоўны падарунак. Марта... Марта — мне вельмі і вельмі спадабалася. Дзякуй табе. Прашу шаноўных гасцей не сумаваць, а лепей згуляць у што-небудзь, хаця б у карты або ў косці. Я ж мушу паказаць Фабіяну мой палац. Бо на сёння ж гэта і ягоны палац. А ўласнасць трэба агледзець. Давай пачнём з гэтай залы.

— А датыкацца рукамі можна? — спытаў я.

— Калі будзе нельга, я скажу.

Я агледзеў без фіранак венецыянскія вокны, столь, памаляваную ў аблокі. Госці заставаліся сядзець нерухома, толькі вачыма сачылі за кожным маім рухам. Я падышоў да сцяны, супрацьлеглай вокнам. Яна была задрапіравана зноў-такі непранікальным для зроку чырвоным у залатое цісненне ядвабам, хвалі тканіны ішлі ад столі і да падлогі. Я прыўзняў край драпіроўкі і зазірнуў за яе. Пад ёй было люстра, суцэльнае, без аніводнага стыку люстра ўва ўсю сцяну. Марта кранула маё плячо.

— Гэта якраз той выпадак, калі датыкацца рукамі не варта, выбачай, я проста не жадаю, каб сёння было дзве імянінніцы. Я і так дастаткова шчаслівая, каб памнажаць шчасце ўдвая, закрый люстра, усё адно ў ім не ўбачыш нічога, акрамя таго, што можна пабачыць у зале. Не будзем марнаваць час. Яшчэ трэба агледзець шмат з таго, чаго ты ніколі не бачыў. Пайшлі ў другую залу. Нашто глядзець у люстэрка? Усёй цікавасці — пабачыць уласны твар. Толькі на гэта люстэркі і існуюць. Усё астатняе можна сузіраць у арыгінале. Апусці заслону. Няўжо мой твар для цябе менш цікавы за твой уласны, так магу і пакрыўдзіцца.

Усё ў гэтай зале выдавала мне здаўна знаёмым. Так, нібыта нехта насцягваў сюды па частках рэчы, архітэктурныя дэталі, некалі бачаныя мной. Рэльефы карнізаў, парцалянавыя каларыферы, жырандолі былі

рыхтык як у мяне дома. Я пазнаваў твары гасцей — гэты некалі прыязджаў да бацькі, але ж з таго часу мінулі гады, а твар застаўся нязменным, той нагадваў паляўнічага з карціны ў маім пакоі, не толькі твар, але і вопратка на ім была акурат з той жа карціны. Але ж, можа, і яго перастрэлі на дарозе, як вяртаўся з палявання? Бо наўрад ці ён так апрануўся, каб ехаць у госці.

Мы мінулі маўклівых гасцей. Над дзвярыма вісела ўжо згаданая мной карціна, тая ж самая з паляўнічым, нават фарба лушчылася на ёй у тых жа месцах.

— Хадзем, не затрымлівайся,— Марта ўзяла мяне за руку і прачыніла дзверы.

У другой, напаўцёмнай зале быў усяго зэдлік, а на ім свяча ў танным гліняным падсвечніку, шкляны глечык з малаком і недапітая шклянка. Ні карцін, ні вокнаў. Белыя, матавыя паверхні сцен і столі. Адно невялікія дзверы ў супрацьлеглай нам сцяне.

Я маўчаў. Марта падышла да зэдліка, прысела на кукішкі:

— Гэта мая любімая зала, а сёння яна і твая. Хочаш, пап'ём малака?

Не паспеў я адказаць, як Марта паднесла шклянку.

У мяне ў дзяцінстве была такая ж самая шклянка, я чамусьці вельмі любіў яе, нават клаў да сябе ў ложак нанач. Але аднойчы яна пабілася, і ніхто не змог знайсці мне такую ж.

— Пі, Фабіян, адсюль піла толькі я, бачыш адбітак вуснаў? Папі і ты.

Малако было ні цёплым, ні халодным, затое густым і саланаватым.

— Дзякуй,— я паставіў шклянку на зэдлік і прамакнуў насоўкай вусны.

— Гэта любімая зала, а ёсць яшчэ і любімы пакой, хочаш, пакажу? Астатняе нецікава. Нашыя палацы

падобны адзін да аднаго, яны могуць быць больш ці менш шыкоўнымі, затое такога пакоя няма ні ў цябе і ні ў кога. Аб ім можна толькі марыць. Пайшлі.

За маленькімі дзвярыма строма ўздымаліся сходы. Наверсе мігцелі паліраваныя панелі.

— Цяжка жыць сіратой? — раптам спытала Марта.— Хаця які ж ты сірата, у цябе ёсць дзед.

— Больш няма, ён памёр гэтай ноччу, я вяртаюся ад яго.

— Выбачай, Фабіян, я не ведала. Мне думалася, што ён будзе жыць вечна. А як жа тады сённяшні дзень? Я адчувала — робіцца нешта не тое, гэта як правал. А потым усё сталася зноў, як раней. Ён пакінуў табе ў спадчыну ўсё, што меў? І ты згадзіўся? Я ўсё разумею, Фабіян, можаш ні аб чым не прасіць, мы не вернемся да гасцей. Я пашлю да іх перадаць. Яны сыдуць. Усё будзе, як ты жадаеш. Ты ж не забыўся? Сёння ты тут гаспадар.

За дзвярыма я ступіў на нешта мяккае і, як падалося, жывое, ускрыкнуў. Уся падлога была адным вялікім, суцэльным ложкам.

— Гэта мая спальня, а сёння і твая,— Марта абхапіла маю шыю рукамі.— Фабіян, выбачай, я не здагадвалася, Фабіян,— і пачала цалаваць мой твар.

Мяне ахапіла гарачыня, я дакрануўся сваімі да яе вуснаў, але не ведаў, што рабіць далей. Марта яшчэ мацней прыціснулася да мяне. Аднымі пальцамі, асцярожна, так; нібыта яна магла не адчуць, я шукаў засцежку сукні, але не знаходзіў — сукня была суцэльнай. Тады я навобмацак ссунуў сукню спачатку з аднаго, потым з другога пляча.

Марта расчапіла абдымкі, зрабіла крок назад, накрыж абхапіла свае плечы і пасунула сукню ўніз. Затрашчалі ніткі. Сукня аб'ехала на коўдру пад нагамі.

Я спадзяваўся першы раз у жыцці ўбачыць аголеную жанчыну, але застыў, гарачыня перакулілася хо-

ладам, я не мог варухнуцца ад жаху, што памнажаўся з кожным імгненнем.

Рукі, шыя, плечы ў Марты засталіся тымі ж, што і раней, жывымі, сапраўднымі, але ўсё, што да гэтага павінна была хаваць вопратка, не існавала наогул. Пад сукняй было пуста. Я згледзеў нават свой цень, ён ляжаў на коўдры, якраз там, дзе была Марта.

Яна перахапіла мой позірк і глянула ўніз. Жахлівы крык скалануў паветра і згас у мяккай падлозе. Я кінуўся прэч. Адным скачком пераляцеў сходы, у напаўцёмнай зале зачапіў зэдлік. За спіной ценькнула разбітае шкло, і я апынуўся пад намаляванымі на столі аблокамі. Са спальні дасягаў плач.

Госці ўжо не сядзелі, яны стаялі шчыльнымі шэрагамі перад выйсцем. Я з жахам глядзеў на іх і тут заўважыў, што вочы ў іх набрынялі чырванню, а пазногці падаўжэлі і загнуліся пазурамі-кіпцямі. Усе адначасна зрабілі крок мне насустрач. Палац уздрыгнуў, і зазвінелі келіхі на стале. Я адступіў убок і прыціснуўся да ядвабнай заслоны.

У залу ўбегла Марта, яна прытрымлівала скрыжаванымі рукамі сукню на плячах.

— Фабіян, спыніся, не рабі глупства, нашто табе яны, я ж казала, толькі пажадай, і іх тут не будзе!

Госці няўмольна набліжаліся.

Я сціснуў у кулак матэрыю заслоны і павіс на ёй. Над галавой хруснула, і заслона звалілася. Я прыціснуўся да сцяны і адчуў спіной шкло люстра.

Марта адразу ж змянілася з твару, так, нібыта яшчэ большы жах, чым яна і яе госці, з'явіўся за маёй спіной. Я азірнуўся: у суцэльным люстры быў мой адбітак на фоне лесу — ні Марты, ні пачварных гасцей, ні нават самой залы, я пачуў шум лістоты, і майго твару крануўся раптоўны холад вольнага паветра. Тады я ўсё зразумеў і крыкнуў:

— Няма! Вас няма!

Я адчуў, як захісталіся вакол мяне нябачныя ў люстры сцены.

— Няма! Я прыдумаў вас! Вы мой жах! Я больш не баюся, і вас ужо няма!

Я азірнуўся. Раставалі ў паветры госці, Марта, рабіліся празрыстымі і знікалі сцены, драбілася і асыпалася за спіной люстра.

Нарэшце застаўся толькі скрышаны падмурак.

— Я не баюся, мне не страшна, нельга баяцца таго, чаго няма. Бо калі я баюся — яно ёсць, а я не баюся, нічога не баюся,— як заклён, паўтараў я.

І сапраўды, спакой агарнуў мяне. З вышыні пагорка было добра і далёка відаць. Я сеў на каня. За лесам, ледзь не на самым даляглядзе свяціліся вокны майго палаца.

**6. Фабіян Жаковіч вяртаецца да размовы ў карчме**

Вось і ўсё, хлопча. Гэтая замова і сёння са мной. Дапамагае ад рознай д'ябальшчыны лепш за малітоўнік. А верыць у тое, што нечага няма,— звычайнае глупства. Гэта не вера, а бязвер'е. Сёння няма — заўтра ёсць. Няма тут — можа, чакае цябе за рогам? А вось верыць у нешта — зусім іншае. Вера мае моц. А страх — гэта вера. І чым большы страх, тым мацнейшая вера. Толькі ўсяму ёсць мяжа. Спачатку страх — як лёгкае казытанне, далей — болей. Страх спараджае страх. Ён палоніць свядомасць, завалодвае целам. І калі нічога, акрамя страху, не застаецца — ён робіцца адзінай рэальнасцю. Ператварае рэчы ў пачвар. Пакоі поўняцца прывідамі, адчыняюцца дамавіны, і ўстаюць мерцвякі.

А мы больш за ўсё баімся за сваё жыццё. Вось і цягнуцца пачвары да нашых горлаў, сціскаюць пальцы. Смерць або страта прытомнасці таго, хто баяўся,

вось і знікае страх, знікае тая моц, што спарадзіла пачвар. І яны рассыпаюцца ў пыл, з якога паўсталі, да таго часу, покуль нехта другі сваім страхам не выкліча іх [redacted] нябыту.

Часам кажуць — чалавек прадчуваў сваю смерць. Лухта, наперад ведае адзін Бог. А чалавек сваім страхам забівае сябе.

Пра якія толькі жахі ні расказваюць, але ўсе яны пазнавальныя, яны складаюцца з усяго, што нас атачае, бо нельга ўявіць сабе, чаго ніколі не бачыў. Як атрымалася ў мяне з Мартай. А калі я ведаю, што ўсе мае жахі — гэта я сам, маё ўяўленне, няхай іх нават і можна памацаць рукамі, то чаго мне баяцца. Я іх стварыў, я іх і знішчу адным намаганнем волі.

Калі б тое ж самае я мог зрабіць з варожымі войскамі, з забойцамі і злодзеямі! Але іх мусіш баяцца, мусіш набываць замкі, вазіць з сабой пісталеты, ваяваць. Так што, хлопча, не бойся ніякай д'ябальшчыны, яна падуладная тваёй волі. У свеце і так хапае жахаў, каб яшчэ самому памнажаць іх. Кладзіся спаць і не давай страху апанаваць тваёй душой.

Дабранач. І да пабачэння, бо заўтра на світанку мушу ехаць. Спадзяюся сустрэцца калі-небудзь, каб даведацца, ці прыдалася мая навука.

**7. Фабіян Жаковіч працягвае расказваць сваю гіторыю пра тое, чым скончыў папярэдні расказчык**

Мы развіталіся і разышліся па пакоях. Заснуць я ўсё адно не мог, ляжаў і думаў, шукаў хібы ў разважаннях свайго субяседніка, шукаў і не знаходзіў. Наадварот, кожная страшная гісторыя, што мне згадвалася, знаходзіла сваё тлумачэнне. Кожная сустрэча з д'ябальшчынай абрыва-

лася, калі знікаў страх. Людзей або знаходзілі нежывымі, або яны трацілі прытомнасць, або паспявалі дабегчы да жытла, да людзей, і жахі заставаліся за дзвярыма.

Жахі заўсёды з'яўляліся чалавеку сам-насам, калі ён не мог суладаць са сваім страхам. Нарэшце я канчаткова паверыў у расказанае і спакойна заснуў.

Прачнуўся я рана. Але майго суседа ўжо не было. Неўзабаве прыйшоў лекар. Я для пэўнасці даў яму яшчэ адну манету і выправіў на дарогу, каб лепш цікаваў, чым надакучаў сваёй прысутнасцю.

Пачуліся крыкі фурмана, грукат колаў. Фурман яшчэ раз крыкнуў, і грукат сціх. За акном прабег карчмар. Мне не было відаць, што рабілася на дарозе. Я прыціснуўся да сцяны і пачаў маліць Бога, каб мой план здзейсніўся.

Скора галасы пачуліся за дзвярыма. Нешта ўсхвалявана казала Марыніна маці, ёй адказваў лекар, але слоў разабраць было нельга. Забразгацеў ключ, і галасы пачуліся ўжо з-за сцяны. Час цягнуўся невыносна марудна.

Нарэшце зноў крыкнуў фурман, загрукацелі колы. Дзверы майго пакоя ціха прачыніліся, і задаволены карчмар пачціва паманіў мяне рукой...

Пакаёўка ўскрыкнула, ледзь толькі пабачыла мяне. Марына расплюшчыла вочы, села на ложку і загадала ёй:

— Ідзі на двор і сачы за дарогай. Калі што — папярэдзіш.

Мы сядзелі з Марынай абняўшыся на ложку. Яна ўсё плакала і пыталася:

— Фабіян, дык што ж з намі будзе, што нам рабіць? Ну, што ты маўчыш, Фабіян?

— Я прывёў двух коней. Грошы ў мяне покуль што ёсць. Давай уцячом, абвянчаемся, а калі вернемся, то ўсё будзе добра, мой бацька дасць згоду.

Марына нічога не адказала. Тут у дзверы ціха пашкрэбліся.

— Хто? — спытала Марына.

— Паненка, па дарозе сюды ідзе нейкі пан, у крыві, абадраны,— зашыпела з-за дзвярэй пакаёўка.— Карчмар кажа, што ён начаваў сёння тут, а раніцай паехаў...

— Чакай,— я саскочыў на падлогу,— зараз вярнуся.

На ганак цяжка ўздымаўся мой учарашні сусед — Фабіян. Скронь у яго была разбіта, кроў запяклася на шчацэ, валасах, іржавымі плямамі на кашулі. Ён прыціскаў да скроні насоўку і сычэў:

— Быдла, сабакі, адкуль толькі ўзяліся, быдла...

— Хто? — спытаў я.

— Хто? Звычайнае быдла. Дапамажы дагнаць, у цябе двое коней і зброя ёсць. Коней, карэту, грошы. Як дзіцёнка, абрабавалі, быдла.

— Гэй! — крыкнуў я карчмару. — Выводзь коней, едзем!

Фабіян адціснуў адной рукой насоўку і сеў на прыступку. Я пабег да Марыны.

— Што здарылася? Хто там? — яна сядзела на ложку, падцісн ўўшы ногі.

— Пачакай мяне, яго абрабавалі, трэба дапамагчы, збірайце рэчы, вярнуся, і адразу ж паедзем. Я дапамагу яму цяпер, а ён дапаможа нам потым. Чуеш, Марына? — Я прыўзняў ёй галаву.— Чуеш?

— Мне страшна, Фабіян. Мне страшна заставацца самой, мне страшна ўцякаць. Мне страшна адпускаць цябе, раптам гэта на ўсё жыццё.

— Не бойся, нічога не бойся, твая маці раней чым заўтра не паспее вярнуцца, у нас цэлы дзень,— я пацалаваў яе. — Чакай, са мной нічога не здарыцца,— і выбег з пакоя.

Мы селі на коней і паімчалі. На хаду я перадаў

пісталет Фабіяну. Мы скакалі поруч. Каб вецер не збіваў дыхання, ён паварочваў галаву і казаў мне:

— Я як сурочыў учора з тымі рабаўнікамі. Засцерагаў цябе, а натрапіў сам. Не так шкода тых грошай, як коней. І крыўдна яшчэ. Што такое чатыры злодзеі супраць аднаго шляхціца — цьфу, адно слова — быдла. А тут як знарок. Хоць бы забіў каго з іх, і то лягчэй было б. Вылецелі з лесу на конях ды не паспелі перахапіць, пагналіся. Фурман спачатку гнаў, а як пачалі нас абыходзіць, то саскочыў і ў лес, за ім гнацца не сталі. Коні спужаліся і панеслі. Я два пісталеты ўзвёў, чакаю, калі які сунецца. Адзін з боку абышоў, спрабаваў на хаду дзверцы надчыніць. Я засаўку адкінуў ды нагой у лыч. Але ж, падла, уседзеў, не зваліўся. Я з аднаго пісталета — асечка, з другога — зноў асечка. А гэтае быдла тым часам нейкі паскудны кіёк, на канцы загнуты, выцягнула. І не паспеў я за шаблю схапіцца — мяне тым кійком за шыю. Вокам не паспеў міргнуць, як з карэты на дарогу грымнуўся, і кола на цалю ад галавы пранеслася. Ускочыў, кінуўся наўздагон. Ды як дагоніш, яны са свістам панесліся, нават азірацца не сталі. Нічога, калі нагонім іх, дваіх на месцы пакладу, а дваіх... Вось, глядзі, тут гэта было, бачыш, кусты паламаныя, коні ўбок кінуліся, ледзь карэту не кульнулі.

Фабіян сціснуў бакі каня і вырваўся наперад. Па прыбітым дажджом пыле дарогі блыталіся, змяіліся сляды карэты, іх шчыльна абступалі сляды капытоў.

За паваротам ад нечаканага відовішча мы спынілі коней. На ўзлеску, збоч дарогі стаяла карэта. Чацвёра запрэжаных цугам коней скублі траву, матлялі галовамі, бо ім перашкаджала вупраж.

Моўчкі мы крануліся з месца, моўчкі пад'ехалі да карэты. Наўкола нікога, ды і па высокай траве было відаць, што туды ўехала адна толькі карэта. Фабіян саскочыў на зямлю, зазірнуў за дзверцы.

— Шаленцы нейкія, нічога не ўзялі. — Выцягнуў з карэты невялікі куфэрак, адамкнуў яго ключом. Поўна грошай, а зверху яшчэ ляжалі нейкія паперы.

— Чакай,— сказаў Фабіян, адкінуў падножку і сеў на прыступку перад куфэркам з грашыма,— нешта тут не тое. Яны не ўзялі нават грошай. Гэта не рабаўнікі, але хто іх падаслаў і навошта? Вар'яцтва.

— Былі б рабаўнікі, не было б грошай. Грошы ёсць, значыцца, не было рабаўнікоў.

— А з карэты на злом галавы я ад няма чаго рабіць скакаў? Каб мець задавальненне пешкі прайсціся да карчмы, сапсаваць табе рандку? Так атрымліваецца? Чартаўшчына нейкая.

— Так чартаўшчына — д'ябальшчына, якой пан не баіцца, вось яна і з'явілася вам злодзеямі, каб папужаць. Пан сам стварыў іх, сваёй воляй, сваім страхам. Але ж страх знік, і злодзеі рассыпаліся ў пыл, з якога паўсталі. А коні самі далёка не з'едуць. Відаць, і думка была, што пісталеты змогуць даць асечку?

Фабіян моўчкі падняў з карэтнай падлогі два пісталеты. Узвёў куркі. Дуплетам прагучаў стрэл.

— Выбачай, хлопча. Мне трэба пабыць аднаму. Я сапраўды думаў пра пісталеты, пра злодзеяў, як толькі паехаў з карчмы. Гэта было як idee fixe. Ты, я заўважыў, сёння з кабетай. Чым сустракацца па корчмах, можа, лепш запросіш яе да мяне. Пажывяце, пакуль акрэсліцца што больш пэўнае. Калі даеш згоду, скачы па яе. Я пачакаю тут. Мне трэба пасядзець, асэнсаваць. Ну, дык што?

— Мы скора будзем. Дзякую.

Я развярнуў каня і паскакаў назад у карчму. «Усё будзе добра,— спрабаваў я суцешыць сябе,— усё будзе добра»,— але суцяшэння не атрымлівалася, мяне ўвесь час непакоіла: што ж там з Марынай? Як яна там, ці не прыехаў хто ў карчму, ці ведае яна ўжо аб нябожчыку ў суседнім пакоі?

У карчме было пуста. Утрапёны, я стаяў у дзвярах Марынінага пакоя і глядзеў на непрыбраны ложак маёй каханай. Мяне гукнуў карчмар:

— Паніч!

— Дзе яна?

— Павезлі. Маці яе вярнулася. Добра, што паніча не было. Яна як паехала па княскага лекара, то і перастрэла яго ў дарозе. Ён з бурмістрам быў, спяшаўся нябожчыка агледзець. Паненка як пачула, што маці вярнулася, то і самлела. Лекар яе агледзеў, сказаў, што трэба ў горад везці, каб у яго пад наглядам была. Бо сам ён застацца не мог, мусіў неадкладна вяртацца, князь, маўляў, наказваў. Вось і панесліся — бурмістр з лекарам і нябожчыкам у адной карэце, а паненка з маці ў другой, ды за імі княскіх гайдукоў цэлы тузін.

— У які бок? — безнадзейна спытаў я.

— Да горада. Ды, я ж кажу, гайдукі з імі.

Больш Марыны я не бачыў. Праўда, быў пагнаўся наўздагон, толькі мілі праз тры завярнуў назад, адумаўся.

Бацька мяне ўжо звечара чакаў у паляўнічым доміку. Пасядзелі з ім, пагаварылі, ён і пераканаў мяне, што нічога больш рабіць не варта. А назаўтра да нас гетман прыехаў, прапанаваў мне службу. Я пагадзіўся.

Шкада, больш не давялося сустрэцца з маім суседам па карчме, Фабіянам. Відаць, доўга ён мяне чакаў. Нават не ведаю, дзе яго шукаць, мо цяпер, пасля вайны, дзе сустрэнемся, бо мушу яму аддзячыць за навуку. Каб не яна, сядзелі б мы зараз не ў пакоі, а на папялішчы. Усю вайну я паўтараў той заклён: «Не баюся, не баюся... Ні за сваё жыццё, ні за маёмасць...»

Фабіян дапіў віно. Вуголле ў каміне ледзь заўважна аддавала чырванню. Цемра за акном стала суцэльнай.

— Пан мае рацыю,— Аўгуст Паняверскі ўстаў і адсунуў экран ад каміна. — Я сам згадаў колькі гісторый з уласнага жыцця, апошняя з іх адбылася сёння, і ўсе яны знаходзяць сваё тлумачэнне згодна панскіх разваг. Толькі, на маю думку, пан звужае кола, яно на самой справе куды шырэйшае. Не адзін страх робіць рэальнасцю нашыя думкі. Кожнае жаданне, калі яно сапраўды моцнае, спраўджваецца. Як сказана: «Калі б хто меў з вас веры хоць з гарчычнае зерне...» Трэба верыць і жадаць — гара перасунецца. А калі веры мала, то страх за тое, што жаданне не здзейсніцца, робіцца мацнейшым за нашую волю. І спраўджваецца ён — страх. Але ёсць яшчэ адна небяспека. Я канцэнтрую ўсю сваю волю на тым, каб здзейснілася маё жаданне, і тым самым забываюся на ўсё папярэдняе, што існавала дзякуючы намаганню волі, яно знікае, рассыпаецца ў пыл, з якога паўстала. Вера патрабуе ахвяр. Але я злоўжываю панскай гасціннасцю. Цяпер позна. А ўсяму ёсць свой час: і размовам, і сну.

Аўгуст перакінуў цераз руку сухі ўжо плашч, падхапіў пакункі, але раптам спыніўся ў дзвярах:

— Дарэчы, прашу выбачыць маю цікаўнасць, чым скончылася панскае каханне, што сталася з Марынай?

— Яе аддалі замуж. Я не сустракаў яе болей,— Фабіян наблізіўся да дзвярэй.

— Відаць, пан сапраўды вельмі баяўся згубіць яе, відаць, баіцца і цяпер,— шэптам прамовіў Аўгуст і выйшаў з пакоя.

— Сюды,— Фабіян адчыніў дзверы.

— Не трэба турбавацца, я ўладкуюся сам,— Аўгуст пераняў запалены кандэлябр. — Дзякую пану за размову.

— Дзякую і я, сёння ў палацы было вельмі самотна, мне не хапала субяседніка, я паціху вар'яцеў ад адзіноты, як і тады ў карчме.

— Дабранач,— Аўгуст усміхнуўся.

— Дабранач.

— Няхай пан падумае над маімі развагамі, яны, шчыра кажучы, належаць яму, бо гэта працяг не маіх думак, а панскіх.

Дзверы зачыніліся. Запала ціша.

Фабіян вярнуўся, зачыніў акно, дзьмухнуў на свечкі. Цемра была непранікальнай. Ён распрастаў рукі, зрабіў крок наперад, яшчэ раз абмацаў паветра — нічога. Наўкола было пуста, і яму падалося, што пакой знік, што над ім начное неба, а наперадзе нябачны далягляд.

— Марына,— уголас сказаў ён,— Марына!..

### 9. Яшчэ два доказы

Бралася на дзень, калі Фабіян пагрукаў у дзверы насупраць. Адказу не было. Тады ён асцярожна прачыніў іх. У пакоі было пуста. Ложак гладка засцілала коўдра. На стале ў васковых наплывах стаяў кандэлябр, свечкі выгаралі дашчэнту. Ад стала да самага парога роўна рассцілаўся некрануты пыл.

Фабіян сышоў на ніз. Уваходныя дзверы былі замкнёныя з сярэдзіны. Ён выбег на двор. Сцежкі, кветнік, кантрфорсы і дах стайні зацярушыў нетрывалы, выпадковы снег. Фабіян кінуўся да стайні. Ланцуг чорных плямін-слядоў перасёк наўскос двор. Фабіянаў конь ціха заіржаў. Іржанне рэхам аддалося ў пустой стайні.

— Яго не было, я паўночы сядзеў сам і гаварыў з пустатой,— Фабіян стаяў у дзвярах і глядзеў на позція кветкі, зацярушаныя снегам,— а калі б ён быў і паехаў? Гэта нешта б змяніла? Ці ёсць розніца паміж

тым, што было і магло быць? Я казаў што хацеў і каму хацеў.

Фабіян прыслухаўся. Па бруку плошчы мерна дзугалі падковы, пагрымлівалі колы. Ён выбег за браму.

На вясковай фурманцы, наладаванай хуталямі і клумкамі, сядзела, падціснуўшы пад сябе ногі, Марына, на ёй былі чорныя сукня і капялюш з вэлюмам.

— Фабіян! — яна ўстала. Фабіян падхапіў яе на рукі і паставіў побач з сабой на брук.

— Ты не змянілася.

Яны абняліся. Фабіян глядзеў цераз яе плячо на абязлюднелы горад, на праваленыя дахі дамоў, на шыбы без шкла. На пустую плошчу церушыў снег.

— Мой муж загінуў. Я засталася адна. Я хачу быць з табой, Фабіян. Усё згарэла, маёнткі, вёскі, мы адны, Фабіян. Я шукала цябе.

— Тут холадна, пайшлі ў палац.

Марына закінула галаву і здзівавана зазірнула яму ў вочы. Фабіян азірнуўся.

Высіліся ўчарнелыя ад куродыму сцены палаца. На абвугленыя шыбы церушыў снег. Дах заваліўся, і праз вокны мезаніна было відаць неба.

— Я баюся развалін,— сказала Марына. — Пастаім тут. Ты нейкі дзіўны зараз, нібыта не верыш, што мы зноў сустрэліся.

— Я дзіўны якраз таму, што веру, а вера вымагае ахвяры.

— Вера вымагае ахвяры,— задумалася Марына. — Занадта змрочна, каб ты прыдумаў гэта зараз.

— Я прыдумаў уначы, а пераканаўся толькі што. Убачыў і пераканаўся.

Наляцеў вецер. Узняўся вэлюм на Марыніным капелюшы, і праз яго Фабіян згледзеў напаўразбураныя дамы ў рыштоўках і муляра, які засяроджана перабіраў цэглу ў развалінах, браў па дзве цэлых, збіваў з іх малатком раствор і складваў на калёсы.

# Мяжа па даляглядзе

1 Межавалі між сабой два княствы. І былі яны вельмі падобныя: такія ж лясы, такія ж рэчкі і дарогі, такія ж людзі жылі ў абодвух княствах, і гаварылі яны на адной і той жа мове. І колькі ні адбывалася між імі войнаў, не было ў тых войнах параможцаў. Сыходзіліся войскі на мяжы, біліся дацямна, і ніхто потым не мог сказаць, хто ж перамог. Чакалі ранку, ізноў сыходзіліся, біліся да змяркання, а потым, калі бойкі было ўжо досыць, падпісвалі чарговы вечны мір. А біліся яны не таму, што хто-небудзь з князёў жадаў мець адным лесам ці рэчкай болей, у кожнага сваіх было ці не залішне, а таму, што ляжаў на мяжы княстваў вялікі горад, жыхароў якога больш цікавіла, не які князь над імі будзе — стары ці малады, а колькі падаткаў ён запатрабуе. Так і пераходзіў горад ад аднаго ўладара да другога. Пажылі пад адным князем, назбіралі ад яго крыўд і пачыналі ўспамінаць, як добра было пры другім жыць, паўспаміналі-паўспаміналі, и потым і таемны ліст да таго другога князя прыходзіў: «Няхай жывём мы пад тваім суседам, але заўсёды памятаем, як пад табой жылі. Ці не час той залатым век аднавіць, калі і падаткі меншыя былі, і князі лепшыя? Чакаем вызваліцеляў». Вось і сыходзіліся пасля такіх лістоў войскі на мяжы і біліся, пакуль часовы ўладар горада не казаў: «Не зважалі яны на маю дабрыню, хай паспрабуюць, ці лепей будзе ім пад суседам жыць, нікуды не падзенуцца, пажывуць ды адумаюцца, самі назад папросяцца». Тады падпісваўся вечны мір, і жылі ўсе спакойна да наступнага таемнага ліста.

Нават герб у горада адпаведны быў — дзік імчыцца насустрач ворагу. І як да другога княства адыходзілі жыхары, адразу ж дзіка ў другі бок пераварочвалі, вораг жа змяняўся. Жылі год, другі, тады хто-небудзь і казаў: «А відаць, наш дзік не ворагам насустрач імчыцца, а вызваліцелям». І пачыналася пісанне таемнага ліста.

На той час у адным княстве панаваў малады князь, яму і горад належаў, а ў другім — стары князь, якому жыхары таемны ліст напісалі, ён ужо і войскі падрыхтаваў, але ўсё не было зачэпкі, каб вечны мір парушыць. Але што добрае, можа, і не, а зачэпка заўсёды знойдзецца, разумелі гэта князі, таму і пераехалі кожны ў свой замак бліжэй да мяжы з суседам, а каб не было сумна чакаць, то і кожны свой двор за сабой са сталіцы звёз.

2 Малады князь сумаваў у сваім замку. Ужо з самай раніцы лоўчыя былі ў лесе, але нічога вартага свайго князя загнаць не здолелі. Нарэшце пасля абеду яму данеслі, што пашанцавала загнаць вялізнага дзіка. Малады князь адмяніў адпачынак, ускочыў на каня і, калі праязджаў браму, нечакана для сябе падумаў: «Калі я не ўпалюю сёння гэтага дзіка, то прайграю вайну». Услед за князем скакалі яго афіцэры.

Старога князя турбавала другое. На гэты вечар быў прызначаны да дня нараджэння яго адзінай дачкі баль. Падзея як падзея, калі б гэта не быў першы баль у жыцці маладой князёўны. Баль быў прызначаны яшчэ ў сталіцы, там бы яму на добры розум і адбыцца. Але ж князь лічыў, што нічога страшнага не здарылася, бо амаль уся сталіца пераехала да яго ў замак, хіба што толькі госці з іншых княстваў не змаглі сюды прыехаць.

Стары князь загадаў, каб князёўна прыйшла да яго ў новай сукні, спецыяльна пашытай да балю, і ў чаканні дачкі разглядаў праз акно кабінета ў падзорную трубу пагоркі на даляглядзе. Па іх пралягала мяжа.

Князёўну апранала пакаёўка — дзяўчына аднаго з ёй узросту. Калі быў зашпілены апошні гаплік, пакаёўка адышла ўбок і ціха, сама да сябе, прамовіла: «Якая прыгажосць! Як бы я хацела быць князёўнай». Але князёўна пачула яе словы і сказала: «Усе ж кажуць, што ты вельмі падобная да мяне, таму не выдумляй, ты проста хочаш мець такую сукню. Добра, калі мне ў ёй ужо не будзе патрэбы, яна стане тваёй, толькі не дзякуй, бо яшчэ магу перадумаць». Князёўна расправіла сукню і пайшла да бацькі. Яна толькі сёння даведалася, што ніводны госць з другога княства не прыедзе. Яна ўспамінала апошні фэст у сталіцы, на які глядзела з балкона бальнай залы. Успамінала гасцей. Ніхто з іх не здагадваўся паглядзець угору на маленькі балкон пад самым карнізам. І толькі малады князь, які ні з кім не танцаваў, заўважыў яе і схіліўся ў паклоне, нібыта запрашаў да танца, яна тады пакланілася, адмоўна хітнула галавой і пайшла ў свае пакоі.

Стары князь, нават калі пачуў крокі дачкі, не адразу адняў трубу ад вока.

— Я прыйшла,— сказала князёўна.

— Зараз,— прамовіў стары князь,— я чакаў цябе трохі пазней. Няўжо ты думаеш, я не чую? Я выбіраю месца для бітвы.

— Ты яшчэ не абвясціў вайны, абвешчаны пакуль толькі баль. Ты абяцаў, што ўсіх гасцей запросіш сам.

— І слова стрымаў, нават госці ўжо ўсе на месцы. Так заўсёды трэба рабіць: баль я рыхтаваў да таго, як абвясціў, тое ж самае і з вайной, зараз самы час ёй займацца,— стары князь нарэшце апусціў трубу і павярнуўся да дачкі.

— Не ведаю наконт вайны, тут я недасведчаная, але ж баль не падрыхтаваны як мае быць.

— Табе што, не падабаецца новая сукня? Але ж ты сама выбірала, якой яна будзе.

— Сукня — гэта адзінае, што падрыхтавана да балю, і толькі таму, што ёй займалася я. А ўсё астатняе? Ці ж сёння будзе прыстойная музыка? Хаця на сённяшніх гасцей якраз тое, што трэба, а ўсё адно танцаваць не буду, і не таму, што не хачу, а таму, што няма з кім, нашто было з'язджаць сюды так раптоўна?

— Што ты выдумляеш, тут жа ўся сталіца!

— А што, ты лічыш, у сталіцы ёсць хаця адзін чалавек, прыдатны на танец са мной? Дзе госці з суседніх дзяржаў? Я князёўна і таму буду танцаваць не менш як з князем.

— А дзе я табе вазьму за дзень ці два да вайны госця князя, хто зможа прыехаць зараз у гэты замак на мяжы?

— А ты не ведаеш? Нават і цяпер не позна паслаць яму запрашэнне, настолькі гэта блізка адсюль, да вечара паспее, думаю, на мой баль ён не адмовіцца прыехаць.

— І хто ж гэта такі? Да вечара сюды можа паспець толькі адзін князь, але я ўжо збіраюся да яго ў госці разам з войскам і не пазней чым на гэтым тыдні. Спадзяюся, ты маеш на ўвазе каго другога?

— Якраз пра маладога князя я і казала; што тут жахлівага, вайна ж яшчэ не абвешчана, і, думаю, да заўтрашняга ранку з гэтым можна будзе пачакаць. Тата,— раптам пакінула ранейшы тон князёўна,— будзь ласкавы, зрабі такі падарунак, на тваё фэсты ён прыязджаў, а што за дзень нараджэння, калі ў падарунак мне будзе баль, на якім я не змагу танцаваць?

Стары князь выслухаў дачку даволі спакойна, потым счакаў хвіліну і сказаў:

— Заўтра ж паедзеш назад у сталіцу, сённяшні баль няхай ужо адбудзецца, хаця я, відаць, паспяшаўся з ім, ты яшчэ засталася дзяўчом, хай табой на год зоймуцца выхавацелі. Рыхтуйся і да балю і да ад'езду.

Князёўна пакланілася і выйшла з кабінета. Ні да балю, ні да ад'езду яна вырашыла не рыхтавацца — хай усё гарыць гарам. Калі яна дзяўчо, дык і паводзіць сябе будзе адпаведна. Калі са сваімі войнамі сапсавалі свята ёй, то яна не горш зможа сапсаваць яго іншым. Князёўна загадала паклікаць да сябе сяброўак. Яна не сказала ім пра сварку з бацькам, а, нібыта нічога і не здарылася, прапанавала паехаць у лес. Паненкі, якіх яна адарвала ад люстра перад першым у іх жыцці балем, панура згадзіліся.

Хутка ўжо карэта з гербамі на дзвёрках уздымала зляжалы пыл дарогі. Гвардзейцы аховы скакалі ззаду ў марных намаганнях абмінуць слупы пылу. Князёўна азірнулася на замак, пад кутняй вежай, за вялізным, на два звычайных паверхі, акном кабінета стаяў бацька і сачыў за кавалькадай у падзорную трубу. Князёўна павярнулася да сяброўак і сказала:

— Сёння апошні дзень дзяцінства, і на развітанне з ім мы згуляем у хованкі.

Перад самым лесам яна крыкнула: «Стой!», не стала чакаць, пакуль лёкаі адчыняць дзвёркі, і саскочыла на траву. Паненкі яшчэ не адышлі ад карэты, а князёўна ўжо чакала іх ля першых дрэў. Яна кінула гвардзейцам:

— Застаньцеся тут, калі будзе трэба, мы паклічам.

І знікла за дрэвамі. Яна ішла і не азіралася, толькі слухала гукі крокаў за сабой. Нарэшце наперадзе адкрылася паляна з вялікім дрэвам пасярэдзіне. Князёўна дакранулася да яго.

— Тут і згуляем. Цур, я лічу.

Лічылка была даўно знаёмая, і князёўна ведала за-

гадзя — шукаць ёй не давядзецца. Дамовіліся далёка не хавацца. А калі адна з паненак стала тварам да дрэва, заплюшчыла вочы і пачала лічыць, князёўна пабегла ў глыб лесу, у бок, супрацьлеглы замку, яна не стала шукаць хованку, а рушыла напрасткі далей і далей ад паляны.

Праз добрых паўгадзіны князёўна спынілася на ўзгорку. «Хопіць,— вырашыла яна,— пэўна, зараз ужо шукаюць па-сапраўднаму, памэнчу іх да вечара, а там выйду». Ад даўно чаканай незалежнасці кружылася ў галаве. Князёўна села, а потым і легла ў сухой высокай траве. «Як даўно я не глядзела на неба проста так, толькі таму, што яно неба; не дзеля таго, каб спраўдзіць надвор'е». Князёўна падклала рукі пад галаву, доўга глядзела ўгару, дзе вецер гайдаў вершаліны, і так неўпрыкмет заснула. Высокая трава хавала яе з бакоў.

Цені ўжо трохі падаўжэлі, калі побач лагчынай пранесліся коннікі. Яны крычалі: «Гэй, князёўна!», на што яна нешта прамармытала праз сон і перавярнулася на бок.

Калі князёўна прачнулася, то не адразу зразумела, дзе знаходзілася, нарэшце ўспомніла. «Цені ўжо доўгія, трэба вяртацца. Я прыйшла,— яна задумалася,— адкуль? Сонца было? Але ж сонца было ў зеніце».

Нарэшце па прымятай траве князёўна вызначыла напрамак. Праз некаторы час адкрылася паляна, толькі зусім маленькая, і дрэва на ёй не было. «Заблукала, можна яшчэ гукаць, але гукаць не дазваляе гонар». Князёўна трохі павагалася, потым завярнула наўздагад і пайшла, толькі б не стаяць на месцы. Лес рабіўся больш і больш змрочным, высокія сосны чаргаваліся з густым, пасохлым ля зямлі ельнікам. Часам узнікалі сцежкі, але з вельмі нізкім прагалам, відаць, яны былі пратаптаны не чалавекам, а зверам. Сонца ўжо зайшло, і лес сшарэў, толькі неба яшчэ захоўвала

блакітнасць. У каторы ўжо раз князёўна спынілася, каб прыслухацца. На гэты раз ёй не падалося, сапраўды здалёк чуліся гукі паляўнічага рога, брэх сабак і крыкі лоўчых. Князёўна падхапіла сукню і пабегла насустрач, дрэвы раптоўна засталіся ззаду, яна выбегла на паляну. Паляванне набліжалася, пачулася храбусценне сухога галля, і праз паляну прабег агромністы дзік. Князёўна ўскрыкнула і адступілася за дрэва, следам за дзікам пранесліся сабакі, а за імі коннікі.

— Гэй! — крыкнула наўздагон князёўна. Крайні коннік асадзіў каня на самым краі паляны, астатнія нічога не заўважылі і хутка пазнікалі між дрэў. Князёўна выйшла з хованкі. Перад ёй на высокім белым кані сядзеў малады князь. «Цікава, чым гэта скончыцца»,— падумала князёўна.

Князь паспешліва саскочыў з каня і схіліўся ў нізкім паклоне.

— Я пазнаў цябе, ты дачка майго часам саюзніка, часцей ворага, але заўсёды суседа. Мы бачыліся апошні раз на фэсце. Чым абавязаны гэтай сустрэчы ў маім княстве?

Ён усміхнуўся, і князёўне падалося, што яму ўжо вядома і пра сварку з бацькам, і пра гульню ў хованкі. Пра сябе яна падумала: «Яго княства? Значыць, я ўжо зайшла за далягляд».А ўслых сказала:

— Я заблукала ў лесе. І калі князь ведае дарогу, ён, спадзяюся, правядзе мяне ў бацькоўскі замак. Да таго ж сёння там баль на мой дзень нараджэння. Я запрашаю князя. Спадзяюся, што мая прысутнасць не пашкодзіць паляванню.

— Дзякую за запрашэнне. Толькі мая паляўнічая вопратка ніштo побач з такой шыкоўнай сукняй, і няма падарунка, да таго ж, думаю, баль сёння ўжо не адбудзецца, бо ўсе госці, пэўна, шукаюць па лесе князёўну.

— Лепшым падарункам будзе маё вяртанне,— пе-

рабіла яго князёўна. — А вопратка? Я ў сваёй сукні выглядаю смешна ў лесе, таму, думаю, князь і ўсміхаецца зараз, а я хачу ўсміхацца пад час балю, пабачыўшы паляўнічы строй, але больш я не дазволю ўсміхацца нікому.

— Калі князёўна думае паспець на баль, то трэба спяшацца, хутка будзе зусім цёмна.

Малады князь пасадзіў князёўну перад сядлом, сам сеў за ёю.

Вялікі месяц завіс над лесам. Ехалі моўчкі. Князёўна спрабавала лічыць дрэвы, але неяк не магла засяродзіцца. Адна толькі думка круцілася: «Што сказаў бы бацька, калі б пабачыў нас разам?»

Праз добрую тысячу дрэў, калі б князёўна іх лічыла і не збівалася, месячнае святло пасунулася ўшыркі. Яны апынуліся на паляне з вялікім дрэвам пасярэдзіне. Князёўна павярнула галаву:

— Тут недалёка, князь. Запрашэнне не траціць моцы і ў княстве майго бацькі. Не ведаю толькі, як ён паставіцца да нашага з'яўлення.

— Затое ведаю я, і таму няхай запрашэнне застанецца толькі запрашэннем.

— Шкада, хаця, можа, і сапраўды так будзе лепш, калі ніхто не будзе ведаць пра нашу сустрэчу. Адсюль пайду я сама, няхай князь пачакае, пакуль я выйду з лесу, там далей дарога і будзе не так страшна.

— Пачакай, князёўна,— малады князь заклаў рукі за спіну,— значыцца, не было нашага падарожжа?

— Так.

— Значыцца, і зараз мы не сядзім на адным кані?

— Ты скончыў паляванне, а я знайшла дарогу і спяшаюся на баль у замак, я наогул ніколі не была за даляглядам.

— Тады не было і гэтага,— малады князь асцярожна пацалаваў князёўну. — У нашых дзяржавах ты адзіная дзяўчына, з якой я на роўных.

— Ты таксама адзіны, хто павінен быць на балі побач са мной, але цябе няма нават тут, ты за далягглядам, а таму не было і гэтага. — Князёўна сама пацалавала князя. — І эта мой баль.

Раптоўны вецер аглушальна зашамацеў лістотай у вершалінах. Плашч князя, падхоплены ветрам, ахінуў іх дваіх і заглушыў гукі далёкага паляўнічага рога.

За шумам ветру яны не пачулі, як на паляну выехалі коннікі: стары князь і два гвардзейцы з паходнямі ў руках. Князёўна першая заўважыла водбліскі полымя і адкінула плашч.

— Бацька! — ускрыкнула яна і саскочыла на зямлю.— Я, я заблукала ў лесе, а вось князь... Ён, ён выратаваў мяне, мы ехалі ў замак...

Стары князь кусаў вусны, нарэшце, калі ўжо далей маўчаць стала невыносна, ён прамовіў:

— Уратаваў, кажаш, а на развітанне запатрабаваў расплаціцца пацалункам, так?

— Не,— князёўне аж перахапіла дыханне ад уласнага нахабства,— я сама прапанавала расплаціцца пацалункам.

Гвардзейцы безуважна глядзелі ў чорнае неба, адзін толькі стары князь бачыў твар князёўны.

— Так, тады дзякую князю, толькі зараз ужо памагатыя нам, здаецца, без патрэбы, у наступны раз лепей пакінь маю дачку ваўкам, прынамсі, я буду спакайнейшы, а на гэты раз дзякуй.

Малады князь памкнуўся адказаць, але князёўна павярнулася да яго і прашаптала аднымі вуснамі:

— Бывай...

Ён прымружыў вочы, ледзь відочна нахіліў галаву. Яго конь перакруціўся на месцы і ўзяў у намёт.

Калі заціх пошчак капытоў, стары князь сказаў:

— Як разумееш, балю не адбудзецца, ды і ў сталіцу ты не вернешся, самае месца табе тут, пажывеш з год у кутняй вежы адна, можа, паразумнееш.

3 Бацька дазволіў князёўне пакінуць пры сабе з прыслугі адну толькі пакаёўку. Калі яны падняліся ў вежу, уваход за імі перакрылі скрыжаванымі алебардамі два гвардзейцы. Князёўна абышла кола сцен пакоя. У ім мясціліся ложак, два крэслы, стол з прыладамі да вышывання, камін ды на падлозе ляжала вялізная шкура мядзведзя.

Князёўна цярпліва чакала, пакуль пакаёўка распранала яе, пакуль падтыкала коўдру з усіх бакоў, гасіла свечкі, і толькі тады пацікавілася, ці доўга тая яшчэ будзе корпацца. Пакаёўка сумелася, а калі пытанне прагучала яшчэ раз, сказала, што ёй загадана ўвесь час знаходзіцца каля сваёй гаспадыні. Князёўна вельмі выразна паглядзела на дзяўчыну, і тая падалася да дзвярэй.

— Прыхапі мядзведжае футра, ад яго смярдзіць, ды і на лесвіцы, пэўна, холадна,— палагаднела князёўна.

Калі дзверы зачыніліся, князёўна села ў ложку, адсунула полаг і ўбачыла ў адчыненых балконных дзвярах адно толькі зорнае неба.

У тую ноч стары князь не спаў. Галава яго была занята не якой-небудзь лухтой, як у дачкі, а дзяржаўнымі справамі, хаця таксама звязанымі з маладым князем.

— Што ж зробіш, атрымліваецца — вайна сапраўды наканавана,— з асалодай паўтараў князь. — Гэты смаркач заплаціць за ўсё: і за маю часовую слабасць перад яго бацькам, і за горад, і за пацалункі, заплаціць яшчэ больш, чым некалі заплаціў я сам.

Стары князь сеў да стала і напісаў ліст, у якім абвяшчаў суседняму княству вайну, а потым, хоць і была сярэдзіна ночы, загадаў зараз жа перадаць той ліст маладому князю.

Малады князь не дачакаўся таго ліста. Ледзь толь-

кі ён вярнуўся ў замак, дык адразу загадаў падняць войска і рыхтавацца да паходу. Ён разлічыў, на якой дарозе трэба перайманць войска старога князя, гэта была дарога да горада, у якім жыхары паспелі ўжо раззброіць гарнізон і зачыніць брамы.

Ён правёў войскі амаль пад самымі гарадскімі мурамі, з-за зубцоў якіх даносіліся здзеклівыя крыкі варты. На іх князь не зважаў, бо калі вайну выйграе ён, то радцы самі адчыняць брамы, а калі не, то ці не ўсё роўна тады яму будзе, што там крычалі наўздагон былому гаспадару.

Ён давёў войска да самай мяжы і спыніўся на версе даволі-такі стромага адхону. Унізе ляжаў зацягнуты туманам луг, далей ішлі невялікія пагоркі. Артылерыю ён расцягнуў па грэбені, прыкрыў яе коннікамі, рэштку войска схаваў па другі бок адхону, сам сеў у паходнае крэсла перад войскам, стаў чакаць. Нарэшце вярнуўся адзін з пасланых у разведку. Разлік спраўджваўся — у замку старога князя рыхтаваліся да выступу. Нарэшце прывезлі і ліст, які абвяшчаў вайну.

Разам са сняданкам пакаёўка прынесла княжоўне навіну — стары князь абвясціў вайну і войска вось-вось рушыць у паход. Княжоўна без слова сцягнула са стала абрус разам са сняданкам і так паглядзела на пакаёўку, што тая крок за крокам адступіла за дзверы. Толькі застаўшыся сама, княжоўна дазволіла сабе расплакацца. Яна выйшла на балкон і ўбачыла, як праходзілі з распрастанымі штандарамі войскі яе бацькі, яны дугой абміналі замак, пыл сунуўся невысока над зямлёй і далёка не дасягаў вежы. Годка рухаліся коннікі, спяшалася пяхота, валюхаліся на выбоінах гарматы. Стары князь на чале атрада гвардзейцаў абганяў лугам увесь гэты гармідар. Людзі і коні задрыжалі, расплыліся плямамі, княжоўна паспрабавала суняць плач, але свет толькі канчаткова ператварыўся ў мешаніну фарбаў.

4 Малады князь нават не варухнуўся, калі на пагорак на другім баку лугу з'явіліся варожыя коннікі, ён нерухома сачыў за падыходам войска, за тым, як яно разгортвалася. Калі на тым баку заціхлі апошнія рухі, ён паклікаў да сябе аднаго з афіцэраў і даволі доўга нешта тлумачыў. Нарэшце афіцэр пачапіў на шаблю белую насоўку, праскакаў з ёй перад сваім войскам, спусціўся збоку ў лагчыну, пераехаў луг, спыніўся перад старым князем.

— Найяснейшы князь,— пачаў ён,— малады князь мае гонар зрабіць прапанову. Абразу табе і тваёй дзяржаве зрабіў толькі сам князь, таму, каб унікнуць вайны, ён згодны біцца з любым з тваіх шляхціцаў, годных яго асобы, а вынік паядынку няхай будзе вынікам вайны. За пераможцам застанецца горад.

Падумаўшы, стары князь сказаў:

— Перадай, я згодны.

Пакуль ганец скакаў назад, малады князь паспеў ужо сесці на каня і праехацца перад строем свайго войска. Смерці ён не баяўся, такіх людзей звычайна на вайне не забіваюць, а патрабуюць выкуп. Але ж калі ён згледзеў, што насустрач яму выехаў сам стары князь, то падумаў: «Зараз без чыёй-небудзь смерці наўрад ці абыдзецца»,— павярнуў каня і рынуў па адхоне. Праціўнік імкліва набліжаўся, раптам на самым нізкім месцы лугу конь праваліўся пярэднімі нагамі ў твань і Заваліўся на бок, стары князь, не збавіўшы хуткасці, вылецеў з сядла і хлюпнуўся ў гразкую балаціну, якую не заўважыў раней з-за высокай травы. Малады князь спыніў каня і кінуўся на дапамогу, але не дабег крокі са тры і сам раптоўна заграз па самыя халявы ботаў, паспрабаваў абаперціся рукамі, каб вырваць ногі, але рукі ўгразлі па локці, нарэшце на чацвярэньках дасунуўся да старога князя, што ўсё яшчэ коўзаўся на месцы, той адкаснуўся пра-

цягнутай рукі, не ўтрымаў раўнавагі і зноў паваліўся, на гэты раз спіною. Малады князь прамовіў:

— Ну, як найяснейшы сабе жадае,— і пачаў выбірацца з балаціны, спачатку асцярожна, а потым і не зважаючы на бруд.

З абодвух бакоў ляцелі афіцэры, каб дапамагчы сваім уладарам. Каля балаціны яны сышліся ў адзін стракаты і таму вельмі ўжо не вайсковы натоўп і пачалі разам мясіць гразюку. Нарэшце маладога князя, які згубіў абедзве пальчаткі і капялюш, выцягнулі на сухое, ён збольшага абтрос гразь і зірнуў на старога князя, той ужо стаяў паміж сваіх перапэцканых афіцэраў у адным боце, блішчэлі чысцінёй толькі зубы і вочы, лужына бруднай вады шырылася ля яго ног. Малады князь не стрываў і спачатку ціха, а потым і голасна пачаў смяяцца. Стары князь яшчэ трохі мацаваўся, але хутка і яго пачаў біць смех. Ён пазіраў то на працаўніка, то на афіцэраў, толькі не сабе пад ногі, і кожны раз выбухваў новай порцыяй весялосці. Зарагаталі і афіцэры. Кожны паказваў на іншага і шчыра спадзяваўся, што сам выглядае лепей. Зараз адкрыта смяяліся і войскі. Нават тыя, хто быў у засадзе, павыязджалі на флангі і распытвалі, што здарылася. Артылерысты паўзбіваліся на гарматы і з вышыні пераказвалі падзеі тым, хто застаўся ўнізе. Афіцэры глядзелі адзін на аднаго і ўжо не знаходзілі ворагаў: заўсёды свежыя і бліскучыя мундзіры аднолькава запэцканы да непазнавальнасці.

Малады князь сцёр з твару бруд разам са слязамі весялосці, сцягнуў з нагі бот і шпурнуў яго ў твань:

— Я не магу дазволіць сабе выглядаць лепей за майго працаўніка.

— Я таксама,— стары князь выкінуў пальчаткі.

Усе зноў засмяяліся. Малады князь пасур’ёзнеў:

— Біцца, як я разумею, прынамсі, зараз, мы не будзем, лепей пагутарым.

Прынеслі паходныя крэслы, стол. Уладары адаслалі афіцэраў, а самі паселі адзін насупраць другога, пры сабе пакінулі толькі сакратароў і краўчых. Гутарылі яны доўга, да самага вечара.

Урэшце накіравалі паслоў у горад. З сённяшняга дня ён набываў статут вольнага і павінен быў плаціць падаткі абодвум князям. Змяняўся і герб горада: дзік спыняў свой бег і павінен быў ляжаць забіты.

Пяхоце і артылерыі было загадана заставацца на месцы, а коннікам, каб не вельмі адрозніваццa ад гаспадароў, злёгку перапэцкацца гразёю, зняць адзін бот, пакласці ў яго пальчаткі і прымацаваць да сядла. Калі ўсё гэта будзе зроблена, быць гатовымі выступіць за сваімі гаспадарамі. Напрамак — замак старога князя. Мэта — заручыны князёўны з маладым князем.

Пад разгорнутымі штандарамі напалову босыя коннікі з каранаванымі асобамі на чале рушылі наўздагон сонцу. Луналі капелюшы і крыкі «Ура!!!», як пасля вялікай перамогі.

5 Князёўна цэлы дзень сачыла з балкона, як цень яе вежы сунуўся па зямлі, як ён пераломліваўся на дахах замкавага палаца, як ён сцякаў у ваду рова, як даўжэў на лузе, як, нарэшце, неймаверна даўгі, ён не крануў лес.

На даляглядзе ўзніклі ледзь бачныя коннікі. Князёўна не магла ды і баялася разглядзець, чые над імі штандары — бацькавы ці маладога князя. Яна зразумела, што вайна скончана і пераможца спяшаецца да замка, а пераможаны або нежывы ляжыць за даляглядам або едзе са звязанымі рукамі ў канцы абозу. Яна адчула, што аднолькава баіцца пабачыць і пераможцу і пераможанага, кім бы ён ні быў.

Князёўна вярнулася ў пакой, паклікала пакаёўку, загадала перакруціцца на месцы.

— Сукня ў цябе даволі прыстойная,— сказала князёўна,— ты ўсё яшчэ хочаш быць князёўнай?

— ???

— Ты не хочаш памяняцца сукнямі? Ты станеш на адзін вечар, кім марыла быць усё жыццё. Гэта загад!

— Князёўна!

— Хутчэй пераапранайся, выйдзеш на балкон і будзеш вітаць войскі.

Князёўна расправіла сукню.

— На жаль, я ніколі не верыла, што мы падобны адна да адной, а зараз шкада, няма люстра. І глядзі, не рабі ляманту.

Князёўна хуценька збегла па сходах, мінула гвардзейцаў, мінула браму, выйшла на луг і зірнула на постаць у бальнай сукні. «Спяшайся, пераможца!» — падумала яна.

Не дайшла князёўна яшчэ да першых дрэў, як з лесу вылецеў коннік — веставы ганец яе бацькі. Князёўна ледзь паспела прыкрыць палову твару.

— Куды ідзеш? Ноч набліжаецца. Лепей спяшайся ў замак, дзяўчынка. Князі памірыліся. На сёння прызначылі заручыны князёўны з маладым князем. Мо калі паспееш першай паведаміць сваёй гаспадыні такую навіну, то яна і падорыць сукню, аб якой ты марыш. Спяшайся.

Веставы ганец сціснуў бакі каня шпорамі і паімчаў да замка.

Князёўна з хвіліну глядзела яму наўздагон, потым села проста на траву і сказала ўголас:

— Нашто спяшацца, калі яна ўжо падорана. Дзень нараджэння і заручыны розныя святы, таму і сукні павінны быць рознымі, свае на кожны фэст. А тое, што на мне зараз, самае што трэба, каб сядзець на ўскрайку лесу.

## Сцэнарый смерці

Нарэшце я магу расказаць праўду. Раскласці звяно за звяном той ланцуг жахлівых здарэнняў. Пра іх памятаюць, расказваюць і сёння. Яны ўжо склаліся ў паданні. І мая праўда будзе толькі адной з версій. Бо людзі не жадаюць ведаць, як было на самой справе, яны прымаюць той варыянт, які ім пасуе.

Цяжка паверыць у тое, што адбылося. Але для гэтага трэба бачыць прывідны туман над начным возерам, сполахі агню, чуць нязрушную цішыню і разумець безвыходнасць абставін. У смерць заўсёды цяжка паверыць, асабліва калі яна побач, у адным з табой пакоі. Разуменне смерці прыходзіць не тады, як сутыкаешся з ёю, а сам-насам, у адзіноце, калі пачынаеш успамінаць.

Цяпер я магу расказаць праўду, бо поруч няма нікога з тых, што былі разам на выспе. Ёсць толькі магілы і абарваныя сувязі. Колькі ўжо версій і здагадак чуў я аб той трагедыі. А я не расказаў праўды, бо ўсе лічылі, што змогуць разабрацца лепш за мяне — таго, хто быў там ад першага імгнення да апошняга, таго, хто бачыў забойцу на ўласныя вочы, сядзеў з ім за адным сталом. Яны лічылі, што ведаюць больш за мяне, лічылі, што маюць права судзіць, і толькі чакалі ад мяне пацвярджэння гэтаму.

Да праўды так і не дайшлі, бо не хацелі яе ведаць. Я мог і тады расказаць яе, але хто б даў мне веры, ды і каму было расказваць.

Мне самому, калі тая жахлівая ноч перакулілася світанкам, смерць падалася мрояй. Я проста ведаў,

што так было на самай справе, і не больш за тое. Нашто было пераконваць астатніх? Лягчэй з-за гэтага не сталася б нікому. Ні мне, ні ім.

Мы заўсёды хочам зрабіць адно, атрымліваецца другое, а памятаем мы ўжо трэцяе. Так што і мая праўда — толькі мая, у кожнага была, відаць, уласная. Але ж я магу ўспамінаць, а другія толькі здагадвацца.

— Дзякуй,— сказаў я,— спадзяюся, хопіць,— паклаў на прыборную панель храбусткую банкноту.

Таксіст не пярэчыў, моўчкі ўзяў грошы, перакруціў лічыльнік і згасіў у салоне святло.

— Шчасліва даехаць,— я выйшаў з машыны ў вільготную восеньскую цемрадзь. У адказ — фарсіраваны гул рухавіка і слізкае шапаценне пратэктараў па апалай лістоце.

Урачыста-змрочнае карэ будынкаў Дома творчасці адбівалася ў люстраным загарадным асфальце. Шчыльнае ад туману, жоўтае святло ліхтароў стварала ўражанне, што ў свеце глыбокая ноч, хаця гадзіннік паказваў яшчэ толькі палову на адзінаццатую. Самы час, каб сядзець у холе за вялікім сталом і гуляць у карты пад неабавязковую размову. Відаць, гэтым самым зараз і займаліся за каляровым шклом акна-стужкі другога паверха. Чуліся прыцішаныя галасы і смех.

Усю дарогу ад Менска я не паліў і таму адчуў ледзь улоўны водар дыму, які то знікаў, то з'яўляўся ў парывах ветру. У Доме творчасці палілі камін. Ён нагадаў мне аб цыгарэтах. Нераспачаты пачак прыемна адчуўся ў руцэ дакладнымі гранямі.

Палову неадкладных праблем я пакінуў у горадзе, і гэта супакойвала, а распачынаць другую палову ў мяне не было пакуль што жадання. Я сеў на лаўку і

запаліў. Пошукі адміністратара ці павярховай кансьержкі былі не такой тэрміновай справай, каб не пачакаць дзесяць хвілін. Галоўнае, запрашэнне на літаратурны семінар пры мне.

Дробны, але густы дождж ледзь чутна патрэскваў над галавой, сцякаў струменьчыкамі з вялікіх лісцяў экзатычнай ліпы. Лес навокал патанаў у цемры. Бляклае, каляровае святло паблісквала адно ў вузкіх вокнах і плыткіх калюгах на асфальтавым пляцы.

Бязгучна на ганак выйшаў Сак. Запаліў напалову скураную, але згаслую цыгарэту. Прымружыў і без таго невялікія, як два цвікі, вочы. Але мяне не згледзеў. Твар саракагадовага празаіка выдаваў у паўзмроку ўзнёслым. Каб не постаць спартсмена-барца, я б нават пазайздросціў ягонаму ўменню трымацца. Бо гэта самае цяжкае — трымацца нязмушана, калі ты сам або калі на цябе глядзіць шмат незнаёмых людзей. Следам за ім выйшла дзяўчына ў тонкай ядвабнай сукні з торбачкай на доўгім раменьчыку... Тэатральна ляжала на плячах вузкае белае баа. Ад аднаго выгляду яе аголеных рук і плячэй зрабілася холадна. Але здавалася, што яна холаду не адчувала.

— Выбачайце? — спыталася ў Сакавай спіны.

Той няспешна павярнуўся ўсім целам. Моўчкі агледзеў ногі, слізгануў позіркам па тонкай таліі, затрымаўся на невялікіх грудзях, што выразна акрэсліваліся пад тонкім ядвабам, спыніўся на аголеных плячах. Да прывабнага твару і доўгіх, наплоеных валасоў ён не дайшоў, відаць, вырашыў, што і так — хопіць.

Дзяўчына чакала адказу, нарэшце зразумела — марна.

— Вы,— «вы» ёй далося цераз сілу,— прыйшлі з хола, там з панам,— «пан» даўся лягчэй,— вы там з панам Вадзімірам Даўгалевічам?

— ... — зноў маўчанне і нязрушны позірк.

— Можна пазнаёміць Даўгалевіча са мной?
— А нашто?
— Забіць.
— Чым? — Сак пасур'ёзнеў.
— Сваім выглядам.
— Адкуль ты такая ўзялася? — прамовіў на выдыху Мікола Сак і кінуў недапалак у калюжыну. Гэтым разам прамаўчала дзяўчына. Я не стаў чакаць чарговай фразы і выйшаў з цемры, бо ведаў дакладна — гэта будзе якаясьці брыда. А потым ён усё адно пачне заляцацца.
— Добры вечар,— падаў руку Саку.
— Прыехаў? — ён пацісунуў далонь даволі моцна, але спешна.
— Як заўжды, спазняюся. Даўгалевіч тут?
— У камінай зале.
Я запытальна паглядзеў дзяўчыне ў вочы.
— Добры вечар,— сказала яна,— відаць, мне варта пайсці.
— Чарговая вар'ятка,— Сак сеў на парэнчу,— хоча, каб я пазнаёміў яе з Даўгалевічам. Калі з усімі знаёміць, то калі ж яму пісаць застанецца? Нацыя страціць літаратара. Сама, відаць, вершы пішаш. Ведаў я такіх паэтак, і не адну.
— Вершы. Нават неблагія,— сказаў я, хаця і не ведаў аб ёй нічога,— толькі імя забыўся; памятаеш партрэт і публікацыю? Інтэлігентныя вершы,— падшукаў універсальнае слова.— Мы ж з ёй і на папярэднім семінары сустракаліся, побач за сталом сядзелі,— зрабіў дзяўчыне знак рукой.
— Гражына Логвін,— яна нечакана зрабіла кніксан,— я ўспомніла. Цябе завуць...
— Марцін. Марцін Каменскі, а яго Мікола Сак.
— Логвін? Гэта мужыковае ці дзявочае прозвішча? — лабаво запытаўся Мікола.
— Псеўданім,— змазала сэнс Гражына.

3—868

— У маім нумары ёсць вольная канапа,— сказаў у прастору паміж мной і Гражынай Сак,— рыхтавалі для Даўгалевіча, а тут Эдмундас Кяльміцкас прыехаў адпачываць, то Вадзімір да яго падаўся жыць. Захацелася ім успомніць інтэрнацкае мінулае з Літінстытута. То я кажу, канапа вольная ёсць і стол пісьмовы.

— Гражына, пачакай нас каля більярднай, я занясу рэчы і пераапрануся. У камінную залу пойдзем разам.

— Чакай, у мяне віно ёсць,— клікнула Гражына,— белае, трохгадовае. Прыхапіць як падзяку?

— Возьмеш пазней, як да нас з Міколам завітаеш, а наверсе не тая публіка, каб ты іх за свае грошы паіла.

— Нашто ўлез? — казаў мне па дарозе Сак.— Я хацеў да сябе завесці. Някепская дзеўка. Заўважыў?

— Па-першае, ты для яе стары, па-другое,— я намысліўся, каб схлусіць.— У мяне з ёй раман, з мінулага семінара. Ён трагічна абарваўся, мы не пакінулі адно аднаму адрасы і нават іменаў не назвалі. Хацеў, каб яна прыйшла да цябе ў пакой? Калі ласка, яе прывяду я. А табе давядзецца начаваць у мезаніне.

У залу зайшлі ўтраіх. Гражына наперадзе, мы ззаду. У канцы вялікага, як тэнісны, стала сядзеў Даўгалевіч. З мінулага разу, як мы бачыліся, ён яшчэ больш пагрузнеў. Твар апух, звузіліся вочы, вусны набылі колер нежывога адцення. Ён падняўся насустрач. Я са здзіўленнем адзначыў ягоную цвярозасць, такое здаралася апошнім часам усё радзей. Уражанне, што гэта гвалтоўна працверазелы местачковы шляхціц, знікла, ледзь ён наблізіўся да Гражыны і нязмушана ўзняў яе руку да вуснаў. Уся груваасткасць ягонай постаці знікла, і я паверыў ізноў у тое, што свае гістарычныя раманы-дэтэктывы, якімі зачытваліся і ў метро, і ў праектных інстытутах і якія было нясумна пачытаць самому, пісаў менавіта ён.

— Гражына,— прадставіў я,— літаральна ўмольвала Міколу пазнаёміць яе з Даўгалевічам. А ён...

— Той самы Вадзімір Даўгалевіч,— нарэшце адпусціў руку.— Садзіцеся за стол, мы тут гуляем, далучайцеся. Як ты, Марцін?

— Збольшага.

Я сеў побач з Гражынай і шэптам назваў прысутных:

— Насупраць нас Эдмундас Кяльміцкас, літовец, піша гістарычныя раманы, яму, як і Даўгалевічу, пад пяцьдзесят. Прынцыпова не перакладае беларусаў на літоўскую, хаця і лічыць Вадзіміра лепшым празаікам з нашых. Тэрэза Маршанская, яны ўтраіх вучыліся ў Літінстытуце, крытык. Яе муж, Сямён Маршанскі, не наш, але з нашых, піша па-расейску, таксама крытык, толькі не з лепшых. Каб не быў жанаты на Тэрэзе, доўга б тут не выседзеў. А Міколу Сака ты ведаеш.

— Мне няёмка,— ледзь чутна прамовіла Гражына,— адны мы з табой, ды, можа, яшчэ і Сак, маладыя, а яны ўсе залішне салідныя.

— Дзядзька Вадзімір,— паклікаў я,— Гражына баіцца, што тут сабраліся залішне салідныя людзі. І мы з ёй не ўпішамся сюды.

— Лухта, пасядзі, агледзься — звыкнешся. Салідныя людзі з каго бяруцца? З такіх, як вы.

Размова на нейкі час прыпынілася. Сак моўчкі круціў пустую шклянку ў пальцах. Даўгалевіч паставіў на стол спічастую, як гатычная вежа, нераспачатую бутэльку сухога віна.

— Марцін, вы з Гражынай, відаць, сёння яшчэ не пілі,— звярнуўся ён да нас дваіх,— таму пачынайце,— і лёгка пусціў па паліраванай паверхні бутэльку, а за ёю і штопар.

Корак паддаўся лёгка. Ад халоднага віна Гражыніна шклянка ўкрылася дробным кандэнсатам.

— А сабе? — здзівіўся дзядзька Вадзімір.

— У кожнага свой метад,— я перадаў бутэльку Саку,— калі вып'ю, то заўтрашні дзень лясне, але за прапанову дзякую.

— Што ж, кожны жыве, а значыцца, і п'е згодна са сваімі перакананнямі, я не люблю ўпрошваць, бо не люблю, калі ўпрошваюць мяне.

— Нешта не згадаю, каб цябе даводзілася ўпрошваць,— уставіла Тэрэза.

— І дадай: толькі ў пажонднай кампаніі.— Даўгалевіч паставіў на стол другую бутэльку.— А ты, Марцін, калі не п'еш, зрабі ласку, схадзі ў бар па каву.

— З каньяком?

Я спыніўся адразу за дзвярыма і зірнуў у трэльяж. Тры адбіткі, і ў кожнага свой выраз твару: цэнтральны — сур'ёзны, левы — хітры, правы — паблажлівы. Два хавалі вочы, трэці пільнаваў. І самае дзікае, што ніводзін не падобны на мяне. Торс, валасы — нібыта мае, але не твар. Адно, што пазнавалася адназначна — пусты столік для лістоў пад люстэркам, бо ён не дубляваўся — проста пачынаўся за шклом і выходзіў за яго.

Доўгія калідоры, з'яднаныя сходамі, сцяліся ў дзяжурным асвятленні.

Па той бок стойкі засяродзілася з Даўгалевічавай кніжкай у руках такая ж прывабная і дагледжаная, як нікеляванае абсталяванне вакол, дзяўчына-барменка. Я пастукаў манетай па чорным шкле стойкі. Дзяўчына дачытала абзац і ўзняла позірк.

— Сем філіжанак кавы.

— Вы часам не ў камінную залу замаўляеце? — Дзяўчына не дачакалася майго адказу.— І ён з вамі? — паказала на кнігу.

— А то што?

Рухі ў яе былі бліскавічныя і адпрацаваныя, але ніяк не паспешлівыя. Распалены жвір на паніве, пах кавы і глыбокае дэкальтэ бліскучай сукенкі міжволі

прымушалі ўспомніць паўднёвы марскі пляж, я нават расчуліўся.

— Вось гэтая філіжанка спецыяльна для яго, грошай за яе не трэба,— дзяўчына дэманстратыўна адлічыла з партманеткі дробязь і ўкінула ў касу.

Я разлічыўся за астатніх.

— Ён мне кнігу падпісаў,— не ўстрымалася і кінула мне наўздагон барменка.

— Віншую,— я спыніўся ў прачыненых дзвярах.

— Божа літасцівы, як яны ўчора тут сварыліся. Даўгалевіч і той, што з ім, кучаравы.

— Маршанскі? — машынальна перапытаў я.

— Пэўна. Божа, як сварыліся, з-за нейкіх грошай ці жанчыны. Той пайшоў, а Даўгалевіч застаўся, казаў, што заб'е і яго, і яе. У мяне нават нож прасіў пазычыць, казаў, нагоніць, зарэжа і назад прынясе. Я не дала. Тады ён мне і кнігу падпісаў. Вы часам не ведаеце, чым гэта ўсё скончылася?

— Выбачай, кава стыне. А нажа нікому не давай і са стойкі прыбяры, каб не было спакусы.

Зваротная дарога падалася карацейшай. Ужо на падыходзе я пачуў, як шчоўкнула дзвярная клямка каміннай залы. Асцярожныя крокі. Цішыня, зноў крокі і Сакаў голас: «Не відаць яшчэ, пэўна, да новай барменкі падбіраецца».

Клямка зноў шчоўкнула і адрэзала галасы ад мяне. Зірнуць у люстэрка не выпадала, даводзілася адначасна сачыць за сямю філіжанкамі. У зале ўсе па-змоўніцку маўчалі.

— Гэта вам ад дзяўчыны з бара, ад нашага століка вашаму — прэзент,— я падаў Даўгалевічу філіжанку.

— Супраць цябе змова,— нахілілася да мяне і прашаптала Гражына,— рыхтуйся.

— Гэй, сакрэты прадаваць нельга,— Маршанскі прыўстаў.— Зараз усё яму растлумачым, і няхай вырашае сам.

— Я прапанаваў, я і буду тлумачыць,— Сак запытальна зірнуў на Даўгалевіча, той згодна кіўнуў галавой і адначасова падміргнуў мне.— Ведаеш такую гульню, калі адзін выходзіць з пакоя, а астатнія прыдумляюць слова? Потым ён вяртаецца і па коле пытаецца ў кожнага што заўгодна. А ўсе павінны шчыра адказваць словамі «так» ці «не». Трэба адгадаць слова, якое было задумана.

— Палова гульні падрыхтаваная,— сказаў Даўгалевіч,— ты, Марцін, выйшаў з пакоя, а мы загадалі слова, нават дадзім маленькую падказку, бо гэта не зусім слова, а абрэвіятура, трэба раскрыць яе — «МПС». Згаджайся.

— Хочаце з мяне дурня зрабіць? І колькі часу вам на гэта адведзена?

— Не нам, а табе,— Даўгалевіч расшпіліў бранзалет і паклаў на стол гадзіннік.— Чвэрць гадзіны.

— Згоду я дам, але з адною ўмоваю. Каб трохі падпсаваць вам настрой, калі выйграю. Тады вы абяцайце мне гучна крыкнуць, каб пачулі ва ўсім доме.

— І ў бары,— уставіў Сак.

— Так, і ў бары. Вы тройчы праскандзіруеце: «Мы прайгралі Марціну!» Магу пачынаць?

— А калі не ўправішся, будзеш крычаць сам, што прайграў. Мы яго ўкруцім,— Сак паклаў руку на спінку Гражынінага крэсла.— Час пайшоў.

Я пачаў з Гражыны, бо сядзеў праваруч ад яе.

— Вашае «МПС» — яно жывое?

— Так,— Гражына глядзела на мяне.

— Гэтае «МПС» ёсць у камiннай зале?

— Так,— Сак, які сядзеў наступным, падміргнуў Гражыне.

— Гэта чалавек?

— Так,— Кяльміцкас нахіліўся наперад, каб я мог бачыць ягоныя залішне шчырыя вочы.

— Гэта мужчына?

— Не,— Маршанскі зрабіў занадта сур'ёзны выгляд.

— Жанчына? — машынальна ўдакладніў я.

— Не,— Тэрэза Маршанская ў захапленні ад таго, што іхні план разгортваўся як мае быць, падавілася цыгарэтным дымам і закашлялася.

— Стоп,— сказаў я,— гэта чалавек, які сядзіць тут, у зале, але ён не мужчына і не жанчына?

— Пяць хвілін прайшло,— задаволена канстатаваў Сак,— крычаць праз дзевяць хвілін давядзецца так, каб пачулі ва ўсім доме і ў бары таксама.

— Гэты чалавек гермафрадыт?

— Не ведаю, не спрабаваў, але спадзяюся, што не,— не ўстрымаўся ад разгорнутага адказу Даўгалевіч.— Гражына, а ты як лічыш?

Яна ўтупіла вочы ў стол. А Сак і за ім астатнія пачалі прыхавана смяяцца. Я ўважліва зірнуў кожнаму ў вочы. Усіх, апроч Гражыны, гэта яшчэ больш падвесяліла, а яна ўпарта чакала майго пытання, бо, відаць, пралічыла яго наперад.

«Так,— падумалася мне,— калі ўсіх падвесяліла магчымасць аднаму з прысутных быць гермафрадытам, а сур'ёзнымі засталіся толькі мы з Гражынай, відаць, гэтая падначка нас дваіх і тычыцца, гэта нехта адзін з нас, толькі абрэвіятура хітра састаўлена і яе клініць на пытанні «Жанчына ці мужчына?», калі яго ставіш рубам. Паспрабую абысці».

— Вы самі вымагаеце падобных пытанняў, з пачуццёвай сферы. Гражына, ты тэарэтычна можаш маркітавацца з тваім «МПС»?

— З маім? — перапыталася Гражына, і ўсе насцярожыліся.— Тэарэтычна не адназначная пастаноўка праблемы,— спахапілася яна пад пільным Даўгалевічавым позіркам.— Удакладні.

— Добра, ты б магла згодна законам ці правілам фізіялогіі перасапаць з «МПС»?

— Так, гэтае сумеснае дзеянне — мяне і «МПС» — не пярэчыць правілам фізіялогіі, маім перакананням і тэарэтычна можа адбыцца,— пасля роздуму сказала Гражына.

— А ты, Мікола?

— Мне і думаць няма чаго, вядома, «так», калі «МПС» не супраць,— Сак задаволена пацёр рукі.— Думай, Марцін, думай, пяць хвілін засталося.

— Атрымліваецца, што або Мікола блакітны, або Гражына мяне падманула.

— Дойдзеш да мяне па наступным коле, адкажу, а зараз рухайся далей,— Сак паглядзеў на гадзіннік і паківаў мне пальцам.

— Яны ўсе кажуць праўду?

— Так,— нейтральным голасам падаў Кяльміцкас.

— Але гэта нонсэнс? — здзівіўся я.

— Не, для «МПС» не нонсенс. Глядзі, не прадай,— Маршанскі звярнуўся ўжо да Гражыны.

— «МПС» — гэта Сак? — спытаўся я ў Тэрэзы.

— Няўжо ты лічыш мяне ананістам,— пакрыўдзіўся той.— Адказваю за сябе і за Тэрэзу: не.

Тая пацвердзіла.

— Гэта Гражына?

— Не,— Даўгалевіч паказаў мне два пальцы, што, відаць, азначала дзве хвіліны да канца гульні.

— Гэта я?

— Так,— адказала Гражына,— дарма радуешся, гульня не скончылася, ты не раскрыў абрэвіятуры «МПС».

— Ён радуецца,— убіўся Сак,— што тэарэтычная магчымасць можа стаць практычнай.

— А для цябе «МПС» — гэта Гражына? — нарэшце зразумеў я, што «МПС» можа быць для кожнага сваё.

— Я гэтага і не адмаўляў, а ты кажаш: то гермафрадыт, то ананіст, то блакітны,— удаў крыўду Сак.

— Для вас «МПС» — Сак?

— Так,— Кяльміцкас позіркам падтрымаў мяне.

— «М» азначае «мой»?

— Так,— Маршанскі відавочна стаміўся і ўжо хацеў спаць.

— «П» — гэта азначэнне?

— Так,— кіўнула Тэрэза.

Давялося намысліцца, каб не трапіць з плыні «так» у плынь «не». «Якое азначэнне на «П» стасуе да мяне Гражына? — думаў я.— Да Гражыны Сак, да Сака Кяльміцкас?» У гэты час Даўгалевіч урачыста ўзняў гадзіннік над сталом — заставалася чвэрць хвіліны. І тут раптам прасвятлілася літара «С» — гэта «сусед». Мы ўсе за сталом суседзі адзін аднаму, не сябры, гэта пачуццёвая катэгорыя і таму недакладная, а суседзі — геаметрычная катэгорыя, і не больш таго. Затое яна дакладна акрэслівае нашыя адносіны.

Даўгалевіч ужо ўзняў руку, каб адбіць час, а я нават не паспеў прааналізаваць, але сказаў:

— «М» — гэта «мой», «П» — «правы», «С» — «сусед». «МПС» — «мой правы сусед», для кожнага свой.

Даўгалевіч адбіў час гадзіннікавай бранзалеткай па філіжанцы і сказаў:

— Ну што ж, фокус не прайшоў, давядзецца крычаць, як дамаўляліся.

— Хвілінку,— перапыніў я,— мне будзе прыемней выйсці на калідор, зачыніць дзверы і паслухаць адтуль — ці стрымаеце вы свае слова — крычаць так гучна, каб было чуваць паўсюль?

— Я б яшчэ прапанаваў віна,— развёў рукамі Даўгалевіч,— але, на жаль, з сабой больш няма, мо ты, Марцін, сходзіш да мяне ў нумар, прынясеш? Заадно паслухаеш адтуль, калі не пачуеш, паўторым. Там яшчэ ёсць,— ён палез у кішэню па ключы.

— Я магу адкупіцца,— Гражына паставіла на стол

прыхavаную насуперак маім перасцярогам, бутэльку.— Я наогул ціхі чалавек, адна загана, што палю.

— Згодны, хаця сёння і не п'ю,— сказаў я.

Мы [redacted] Гражынай сышлі на пусты калідор, прычынілі за сабой дзверы.

Я ніяк не мог зразумець Гражыну. Спачатку мне здавалася, што яна тыповы выпадак — паэтка-студэнтка, што ўпершыню вырвалася ад бацькоў у вольнае жыццё на творчы семінар, адсюль гарантаваная няпэўнасць і непаслядоўнасць у паводзінах. Але разам з тым занадта сур'ёзны выраз твару пастаянна збіваў з панталыку. Яна часам прымала правілы флірту, часам раптоўна іх адмаўляла. Праўда, і яе сяброўскія жэсты былі на мяжы [redacted] правакацыяй. Да таго ж дзейнічала насуперак традыцыям і розуму: на людзях даволі пераканаўча ўдавала сваю прыхільнасць да мяне, нават, можа, перабольшвала, прынамсі, мне так здавалася, у бок закаханасці. Але што ўдавала — гэта дакладна, такія рэчы адчуваюцца на лік «раз».

Затое, калі мы засталіся сам-насам — адчужана, нават непрысутна зірнула праз мяне ў трэльяж і сцялася ў чаканні, хаця я быў перакананы — яна мелася сказаць мне нешта важнае, такое, на чым ёй залежала куды больш, чым на дзяжурным заляцанні. Але што магло быць паміж намі, акрамя флірту? Мы ж яшчэ і гадзіны не ведалі адно аднаго.

Да таго ж я цалкам не адчуваў з яе боку эратычных памкненняў, ніякага лібіду, якім беспамылкова кіруецца большасць мужчынаў у сваім выбары: да якой жанчыны можна наблізіцца і абняць, а якую варта абысці з незалежным выглядам на адлегласці выцягнутай рукі. Нават да самай прыгожай жанчыны, калі ў яе, сапраўды, няма ў думках спакусіць кагосьці, ніводзін разумны мужчына не падыдзе, ён адчуе

гэта і, каб не выглядаць смешна, прыкінецца абыякавым — бачылі мы і не такіх! Прыгажосць і прывабнасць — гэта рэчы з асобных плоскасцяў. Адна з абсалютных катэгорый, другая з адносных.

Гражына ж тады мяне ўвяла ў зман сваёй непаслядоўнасцю, і я абышоўся з ёю лагічна, але не разважна — наблізіўся і абняў. Я страшэнна не люблю ўчынкаў, якія не маюць зваротнай сілы, якія немагчыма адрабіць назад, і пагаджаюся з імі толькі тады, калі назамен мне прапануюць такі ж самы незваротны ўчынак.

— Выбачай,— Гражына сціснула мне далонь,— ты мяне не так зразумеў, я сама не растлумачыла табе ад пачатку.

— Калі трэба нешта тлумачыць, лепш прыбяру руку.

— Не крыўдуй, я проста хацела, каб ты мне дапамог, але не паспела спытаць дазволу. Ты сам справакаваў мяне, калі зманіў, што мы знаёмыя. Можаш на людзях удаваць, нібыта мы закаханыя? Табе гэта не зашкодзіць?

— А сам-насам можна? — я ўрэшце зняў руку.

— Не ведаю, прынамсі, не цяпер і не ў гэтым доме,— Гражына вярнула маю руку на ранейшае месца, зноў сціснула далонь.

— Ты ж сама толькі што адмовіла мне,— я зірнуў на яе, як на вар'ятку.

— Хіба гэта адмова? Але раптам нехта выйдзе. Так што лепш пакінь руку. Ці табе непрыемна?

Я прамаўчаў і паглядзеў на нас у трэльяж — натуральная пара вар'ятаў, і асаблівым вар'яцтвам вылучаюся ў гэтай пары я. Адзін перад адным штыўна ўдаваць каханкаў з нагоды таго, што нехта можа нас пабачыць.

За дзвярыма пачалі скандзіраваць. І тут я нарэшце заўважыў, што на століку для лістоў ляжыць вялікая

капэрта, у якіх звычайна дасылаюць часопісы. На ёй быў выклееены адрасат.

— Глядзі,— сказаў я,— мы з табой не тое каб вар'яты, але як мінімум клоуны, вось нам нехта і даслаў клоунскую капэрту, такіх памераў, каб з задніх крэслаў амфітэатра было відаць.

— Не, не нам,— запэўніла Гражына,— там выклеена адно прозвішча.

— Тады, відаць, даслалі табе, але можна ўдаць, што мы ажаніліся і ў нас адно прозвішча. Цікава толькі якое? Зараз паглядзім.

Гражына хацела стрымаць маю руку, але я выслабаніўся і ўзяў капэрту.

— Даўгалевіч,— прачытаў уголас выразаны з акадэмічнага часопіса і наклееены на капэрту радок.

За дзвярыма апошні раз грымнула:

— Мы прайгралі Марціну!

Калі з адчыненых дзвярэй вызірнуў Даўгалевіч, мы ўзорна абдымаліся. Гражына ўбачыла яго і непадробна адхіснулася ад мяне. Я зноў мала што зразумеў, але, галоўнае, адчуў шчырасць у яе паводзінах.

— Ат, мы, відаць, дарма стараліся, яны нас і не слухалі, разумею, занятак не з горшых,— сказаў дзядзька Вадзімір. З-за ягонай спіны зацікаўлена глядзеў Сак.

— Вам ліст,— я падаў,— у клоунскай капэрце.

— Нават не заклееены,— Даўгалевіч уладкаваўся за сталом.

— Дзіўна,— Гражына адпіла трохі віна. Было відаць, як яна хвалявалася (можна падумаць, што мы сапраўды каханкі, а дзядзька Вадзімір — яе муж і заспеў нас знянацку на калідоры).— Гэтая капэрта тут, у вялікай зале, глядзіцца нармальна, нібыта для яе і падрыхтаваная, а там, на калідоры, яна не стасавалася маштабам з атачэннем.

— Гэта таму, што вялікаму пісьменніку — вялікі

ліст, у натуральную велічыню,— сказаў Сак.— Вы з Марцінам сапраўды драбнавата глядзеліся побач з ёй, а гэты чалавек — натуралёва.

Даўгалевіч павольна выняў з капэрты акуратную са зрэзанымі пад кола ражкамі кардонку, стэрыльна белую. Са здзіўленнем перакруціў яе другім бокам. Яго здзіўленне перадалося ўсім, бо на адвароце здалёк чыталіся тры словы, выклееныя друкарскімі літарамі з часопісных загалоўкаў: «Цябе чакае смерць». Усталявалася ціша. Я чуў, як толькі дробна пазвоньваюць пярлінкі на Гражынінай бранзалетцы. Яна сама не вытрымала гэтага гуку і абкруціла бранзалетку хвастом баа.

— Смерць,— нечакана гучна сказала Тэрэза і спалохана кранула вусны.

Маршанскі безуважна глядзеў у столь і нават дэманстратыўна пазяхнуў. Кяльміцкас моўчкі пазіраў на кардонку, якую трымаў у здранцвелых руках Даўгалевіч, трымаў як транспарант, тэкстам вонкі. Сак схіліўся да нас і пераканана запэўніў:

— Ды ён сам сабе яго напісаў — страшэнна любіць такія гульні.

— Аўтар ліста мае рацыю,— нарэшце сказаў Даўгалевіч. — Смерць чакае кожнага з нас, на жаль, аўтар толькі забыўся напісаць тэрмін, калі канкрэтна я з ёю сустрэнуся. А без гэтага ліст губляе сэнс. Я думаю, час разысціся па нумарах, позна ўжо, разліце хто віно, і пойдзем.

— Можна зірнуць? — Сак абышоў стол, узяў ліст і капэрту, скамечыў іх, паклаў на прысак у каміне.— Забудземся на чыйсьці няўдалы жарт і вып’ем за першы дзень семінара, за нашую сустрэчу, нічога ж не здарылася, чаму вы раптам засумавалі? Вып’ем за Марцінаву перамогу.

Нарэшце капэрта занялася, водбліскі агню засвяціліся на шклянках, як свечкі.

Я прапусціў усіх наперад і выйшаў апошнім, прыхапіў спод з пустым посудам. Салідна глядзеліся Маршанскі са сваім дыпламатам і Сак, які нёс міністэрскую папку. Не хапала толькі масанджовай пласцінкі для папкі і бранзалета-кайданкоў для дыпламата, але выратоўвалі два замкі з лічбавым наборам.

На сходах Гражына наблізілася да мяне і прашаптала:

— Ты можаш зараз прыйсці да мяне?

— Нашто? Каб распрануцца і легчы ў ложак, на выпадак, калі хто зойдзе? — шэптам на шэпт адказаў я.

— Мой нумар 50, я пакуль што адна, нумар не паблытаеш?

— Не, лёгка запамінаецца, гэтая лічба ў мяне завязана на юбілей Даўгалевіча, які ён будзе святкаваць праз месяц.

— Дык прыйдзеш? — Гражына спынілася перад дзвярыма свайго пакоя.

— Падумаю.

— Ну, і хадзі галодны,— кінула яна на развітанне.

Бар быў ужо зачынены, я азірнуўся, знаёмая мне дзяўчына з бара сядзела на месцы вахцёркі. Я ціха свіснуў.

— Стаўляй посуд на пульт,— майго свісту аказалася дастаткова, каб яна перайшла на «ты»,— заўтра памыю.

— А што ты не на сваім месцы, за стойкай? Кавы не варыш і дахаты не ідзеш, позна ж?

— Бачыш, давялося маці на вахце падмяніць. Калі хочаш кавы, я тут згатую, у мяне ў пакойчыку за загарадкай паніва са жвірам, джэзвы, усё як мае быць, бар ужо пад сігналізацыю здала.

— Даўно тут сядзіш?

— Вось мы тады пагутарылі, я нож са стойкі прыняла, бар замкнула і сюды села, маці дахаты выправі-

ла. Лепш тут пасядзець, з табой пагаварыць, чымсьці гаспадарку ў мястэчку весці.

— Ты ж не выспішся. Ці ў тым пакойчыку і канапа ёсць?

— Анягож не. Дык я пайду, кавы пастаўлю. На дваіх?

— Добра, толькі пачакай хвілінку,— спыніў я яе.— За той час, што мы не бачыліся, сюды ніхто ў дом не заходзіў?

— Не тое надвор'е, не да шпацыру, залева і зімна на двары.

— А што, іншых уваходаў няма?

— Ёсць, толькі іх ужо праз гадзіну пасля вячэры замыкаюць, але на зашчапкі, на выпадак пажару, каб можна было выскачыць. Звонку не ўлезеш, а з сярэдзіны і дзіця адамкне.

— Дык, кажаш, нікога і не было за гэты час? — Я ўсё вагаўся, ці ісці да Гражыны, ці застацца з нікеляванай барменкай.

— Чакай, а што табе да таго? Ну, толькі адна жанчына прыехала, ва ўзросце, апошнім аўтобусам. А так ніхто не заходзіў і не выходзіў.

— У які нумар яе пасялілі?

— Нумар? Нумар? — яна разгарнула рэгістрацыйную кнігу. Нумар — 50, разам з нейкай Гражынай Логвін, цябе яна абыходзіць?

— Не, гатуй кавусю, а я пайду ў душ.

— Да сустрэчы,— яна зрабіла мне ручкай,— не забаўся, кавуся.

Я ўжо каторы раз ішоў бясконцым у сваёй пакручастасці калідорам, дзверы розніліся адно нумарамі. Я машынальна чытаў лічбы. Яны то ішлі адна за адной, то раптам узнікалі правалы на тры, на пяць нумароў, але дастаткова было зірнуць убок, і ўсё станавілася на свае месцы. Адгалінаванне ў рэдкіх кропках дзяжурных лямпачак, і ў ім тыя трое ці пяцёра дзвярэй.

Каб не нумарацыя, то для мяне існавала б свая колькасць дзвярэй, меншая за сапраўдную. Бо ў мяне свой шлях па доме, я ж не заходзіў у адгалінаванні. Для іншага, чый шлях ішоў насупраць майму, нумарацыя была б свая, а таго, хто існаваў у адгалінаваннях, я наогул мог не заўважыць, нават ніколі не ўбачыць, як і ён мяне. Але ж мы ўсе жылі ў адным доме, і кожны з нас быў суседам другому.

«Безнадзейна,— думаў я,— вылічыць таго, хто падкінуў ліст Даўгалевічу. Зразумела адно — гэты нехта жыве з намі ў адным доме, ён (а можа, зрэшты, яна?) дакладна ведае, дзе знайсці Даўгалевіча. Але нашто ўвесь гэты цырк, разлічаны на гледачоў? Куды прасцей і бяспечней даслаць ліст па пошце.

Ці я памыляюся? Можа, гэты чалавек — мой сусед, але жыве ў адным з адгалінаванняў? Таму мы і глядзім на свет іншымі вачыма?»

Сак сустрэў мяне фразай:

— Ну, Марцін, як твае поспехі?

— А табе так цікава? — я накіраваўся ў душ.

— Маўчу, маўчу.

Я не люблю прымаць ванную, бо заўсёды ведаю, што ў ёй да мяне нехта мыўся. А душ — гэта заўсёды маё, і толькі. Ён ілюзорны: паўстае і знікае, калі трэба, існуе толькі ў руху. Душ у нумары быў выдатны, гарачая (да разумнага) вада, прыстойны ціск і нават падлога з падагрэвам.

Сак паспеў ужо рассунуць дубальтовы сямейны ложак і ўклініць пасярэдзіне часопісны столік.

— Не, ты паглядзі,— казаў ён,— ставяць такі ложак — гэта ж правакацыя распусты, а ты, гіцаль, карыстаешся тым, што дзяўчына сама не ў стане яго рассунуць. Да Гражыны пайшоў?

— Не замыкай дзверы, вярнуся пад раніцу.

— Шкада,— расчуліўся Сак,— я і бутэльку прыхаваў, думаў, пасядзім, пагаворым аб нацыянальных

праблемах, а ты вунь які герой: па дзеўках хадзіць — справу рабіць трэба.

Я лёгка пастукаў у дзверы пад нумарам 50, з-пад іх на дыван прабівалася тонкая паска святла. Гражына праслізнула на калідор.

— Ты прыйшоў? Калі шчыра, я ўжо не чакала. Ты што, мыўся? — яна кранула мае валасы.

— Камуфляж, дык вышэйшага гатунку, я ведаю, ты не адна, пагаворым лепш заўтра. Мяне чакаюць у другім месцы.

— Зразумей, прыехала адна кабета, яе падсялілі да мяне, пурытанка. Але я хачу папрасіць цябе аб адным, дапамажы мне...

— Што ў тваім нумары кабета ва ўзросце, я таксама ведаю, але пагаворым заўтра. За ноч свет перакуліцца не можа. Дабранач.

— Дабранач. Сустрэнемся пры сняданку.

Барменка не вылучалася ні розумам, ні тэмпераментам, да таго ж скураная канапа часоў трэцяй імперыі была вельмі вузкай і нязручнай. Затое кавусю згатавала выдатную, відаць, не горшую, чымсьці пад час нашай першай сустрэчы Даўгалевічу. Яна сама піла каньяк з маленькай чаркі і ела дробна пакрышаную шакаладку. Смяялася, расказвала нешта неабавязковае.

На развітанне я спытаў: «Чаму бярэш грошы за каву сярэдняга ўзроўню і раздаеш дарма экстракласы?» Яна чамусьці пакрыўдзілася і дэманстратыўна ўзялася дачытваць раман, падпісаны ёй дзядзькам Вадзімірам. Я трохі пастаяў, але яна моўчкі чытала, дапівала каньяк з маленькай чаркі і даядала дробна пакрышаную шакаладку.

— До спаць, сняданак блізка,— Сак стаяў пасярэдзіне пакоя і расціраў аголены торс шорсткім ручніком.

Я ўжо даўно не спаў і чуў, як ён да гэтага швэн-

даўся па нумары, з нумара ў душ, на калідор і вяртаўся.

На падыходзе да сталовай мы пачулі на сходах сварку. Крычалі Даўгалевіч і Кяльміцкас. Зразумець што-небудзь было немагчыма, бо сварыліся яны па-літоўску.

— Хутчэй! — Сак пабег наперад.

Але было ўжо па ўсім. Між імі стаяў Сямён Маршанскі і ўгаворваў супакоіцца.

— Табе, Вадзімір, я сказаў праўду, думай што хочаш,— кінуў па-беларуску Кяльміцкас і няспешна пайшоў на ніз. Мы з Сакам старанна рабілі выгляд, што нічога не чулі і не бачылі.

Нашыя сталы былі побач. За адным паселі Даўгалевіч, Сак, Сямён і Тэрэза Маршанскія. Я, Гражына і Кяльміцкас за другім. Гражынiна зялёная торбачка легла на вольнае крэсла.

— Нашто сварыцца,— пачаў Сак,— няўжо ёсць што дзяліць?

— Якраз з-за гэтага ўсё і ўсчалося,— Эдмундас разгарнуў картку меню. — Ну, давайце паглядзім, з чаго нам сёння выбіраць?

Даўгалевіч таксама разгарнуў картку, і тут я ўбачыў, як раптоўна ён змяніўся з твару. Усе гэта заўважылі і змоўклі, толькі Кяльміцкас, які сядзеў спінаю да Даўгалевіча, бязгучна прагаворваў назвы страў.

— Што там? — нарэшце спытаўся Сак.

Дзядзька Вадзімір перавярнуў картку, каб усе маглі прачытаць. На падобным да ўчарашняга кардоне, з такімі ж акуратнымі ражкамі, былі наклеены Даўгалевічаў фотаздымак з апошняй публікацыі і друкаваныя словы ў два радкі: «Да юбілею не дажывеш». Тэрэза ўскрыкнула, Эдмундас азірнуўся і адклаў меню набок. Колькі часу маўчалі.

— Ат, Вадзімір, хопіць нас дурыць,— Сак забраў у яго картку. — Ты, відаць, сам сабе рэкламу робіш

ці падвучыў каго. А калі гэта сапраўды нейкая поскудзь робіць, то глядзі: раз, два,— Сак падраў кардонку,— і няма нічога.

Елі моўчкі. Раптам Даўгалевіч адклаў прыборы, адсунуў талерку і ўрачыста абвясціў:

— А ведаеце, мой юбілей на самой справе сёння!

— Чакай,— спыніў яго Эдмундас,— мне ж ужо і афіцыйнае запрашэнне прыйшло ад Саюза на твой юбілей, калі не памыляюся, то гэта роўна праз месяц?

— Афіцыйнае,— перакрывіў Даўгалевіч,— састарэў ты, Эдмундас, раней афіцыйным паведамленням веры не даваў. Паперам верыць нельга. Ну, пераблыталі мне месяцы, калі пашпарт выпісвалі. А на самой справе 50 мне сёння споўніцца, уначы. Так што запрашаю вас у госці. Да сябе ў фальварак. Ты ж, Марцін, яшчэ там не быў.

— Дзякую, але мне заўтра на семінары выступаць.

— Мы заўтра і вернемся, замоўлю таксоўкі, сто кіламетраў усяго ў два бакі. А там у мяне дом на выспе, уяўляеш, возера і маленькая выспа, навокал нікога, бліжэйшая вёска і тая не на беразе, а за грэбляй, вакол адна вада. Паехалі, калі што тэрміновае ўзнікне, у мяне там рацыя ёсць, патэлефануеш. А лазня ў мяне якая! Парыльня, нават басейн ёсць.

— А ў басейне што? — спытаў я.

— Як што? Вада. А ты думаў — шампанскае? — здзівіўся Даўгалевіч.

Ад'езд прызначылі на вечар.

— Марцін, зрабі, каб і я паехала з вамі,— папрасіла Гражына,— мне гэта важна. Разумееш?

Мы разам пайшлі да Даўгалевіча, у яго сядзеў Кяльміцкас. Я пачаў плесці, быццам мы спецыяльна з Гражынай выбраліся сюды, каб пабыць разам, што ў Менску нам сустракацца не выпадае. Даўгалевіч слухаў, слухаў і нарэшце зразумеў, чаго я дамагаюся, сказаў:

— Мне здалося, што я запрасіў вас дваіх.

Гражына падзякавала і пайшла. Я ж папрасіў яшчэ ад сябе:

— Дзядзька Вадзімір, а нельга будзе так зрабіць, каб мы жылі з ёй у розных пакоях?

Нечакана для мяне з мезаніна спусціўся Сак і моўчкі стаў прыслухоўвацца да нашай размовы.

— Нешта я да канца не разумею,— сказаў Даўгалевіч.— Просіш спачатку адно, але ўрэшце твая справа, вядома, можна.

Гражына чакала на калідоры.

— Дзякуй табе, Марцін.

— Жыць мы, дзякуй Богу, будзем у розных пакоях. Толькі што дамовіўся.

— Ты сказаў яму, што мы толькі ўдаем каханне? — раптам спалохалася Гражына.

— Яшчэ не. А мне і там давядзецца ўдаваць?

— Ведаеш, я лепш табе ўсё растлумачу, каб ты болей не здзіўляўся. Толькі нікому не кажы, добра? Мне здаецца, ты павінен зразумець мяне.

— Не ўпэўнены.

— Разумееш,— Гражына ўзяла мяне за руку,— разумееш, я кахаю Даўгалевіча і хачу быць каля яго, толькі каб ні ён, ні хто другі пра гэта не здагадваліся. Я кахаю яго. Глупства, праўда? Але што зробіш? Мне неабходнае прыкрыццё — ты.

— Клінічны выпадак,— я паціснуў плячыма,— але, сапраўды, што ўжо зробіш? Спадзяюся, спакушаць яго ты не збіраешся, каб Даўгалевічу не давялося потым прасіць прабачэння за тое, што адбіў у мяне дзяўчыну.

Каб не ствараць ажыятажу наконт ад'езду, мы нікога не папярэдзілі. Ужо пад вечар дзядзька Вадзімір прыгнаў з Менска дзве таксоўкі, наладаваныя бутэлькамі і харчам. Ён пакінуў іх на шашы і патэлефанаваў кожнаму з нас з бара.

Сустрэліся на дарозе. Выбіраліся з лесу па адным.

Эдмундас Кяльміцкас у плашчы, са стэкам і доўгім муштуком выглядаў вельмі эфектна.

Сямён Маршанскі нёс з сабою дыпламат, які адмовіўся класці ў багажнік, а калі сеў у машыну, то прыціснуў яго да сябе аберуч. Ягоная жонка, Тэрэза Маршанская, наадварот, здавалася, зусім не брала пад увагу вартасць сваёй валізкі, хаця, відаць, там былі вечаровая сукня, касметыка, чаравічкі і ўсё астатняе для таго, каб жанчына магла адчуваць сябе ўпэўненай, нават на бязлюднай выспе. Мікола прыхапіў з сабой адно пляскатую поліэтыленавую торбу, з якой вытыркаліся матузы ручніка. Гражына ж адразу апранулася, як на баль: жоўтая ядвабная сукенка, функцыя якой была, здавалася, больш агаляць, чым прыкрываць, белае баа, святочныя басаножкі на босую нагу, заўсёдная зялёная торбачка і доўгая парасолька на рэмені цераз плячо — не раўнуючы, стрэльба.

Даўгалевіч сеў за Маршанскім у першую машыну, да іх далучыліся Кяльміцкас і Сак. Нам дасталася другая машына, на пярэднім сядзенні села Тэрэза. Першыя кіламетры мы яшчэ трохі перакідваліся рэплікамі. Але потым далося ў знакі, што напярэдадні я спаў самае большае гадзіны са тры. Прылёг галавой Гражыне на калені, дзякуй Богу, пярэчыць ёй пры Тэрэзе не выпадала, і заснуў.

Мне прыснілася пахаванне. Натоўп. Мы з Гражынай узбіліся на парапет Дома літаратара, на ёй тая ж сукенка і толькі баа чорнае. Чамусьці першымі з дзвярэй выходзяць аркестранты, трубы фальшывяць і блішчаць на асеннім сонцы фальшывым жа золатам, за імі выносяць вянкі, замыкае працэсію пахавальная каманда: Кяльміцкас, Сак, Маршанскі і Даўгалевіч нясуць труну, побач ідзе Тэрэза ў жалобным уборы. Натоўп падаецца ў бакі. Жанчыны галосяць. Чамусьці ўсе нашыя, і Мікола, і Эдмундас, і Гражына, у чор-

ных акулярах. Аркестр змаўкае, труну падносяць да аўтобуса, чакальна адчынены люк. Чацвёра мужчын асцярожна стаўляюць на асфальт пустую труну. Даўгалевіч здымае акуляры і глядзіць на людзей, усе глядзяць на яго і чакаюць. Ён няспешна кладзецца ў труну, скрыжоўвае рукі і нерухомее. Натоўп зноў запаўняе праход, і я больш нічога не магу разглядзець. Аўтобус паволі ад'язджае.

Калі я прачнуўся, ужо звечарэла, брукаванка ў старых прысадах агінала возера, што раз-пораз узнікала ў лясных прагалах. Пярэдняя машына падміргнула паваротам, скінула хуткасць: звярнула ўлева.

Таксоўкі адна за адной з'ехалі спадзістым адхонам да возера. Адначасна, як на парадзе, развярнуліся і спыніліся перад вузкай палоскай пясчанага пляжа. Калі ўсе павыходзілі з машын на невялікую лапінку зямлі, заціснутай з бакоў лесам, сталася нават цесна. Затое за пляжам разлеглася абмежаваная адным толькі туманам сумна-шэрая паверхня азёрнай вады. Запаволена-марудныя хвалі бязгучна краналі бераг, змушана пагойдваліся навязаныя да масткоў чаўны і катэр пад чахлом.

Даўгалевіч на некаторы час ажыў, стаўся рухавым. Ён пацягнуў следам за таксістамі, наладаванымі кардонкамі, важкую скрыню з гарэлкай. Я перахапіў адзін край скрыні, глуха, як камень аб камень, адгукнулася шкло поўных бутэлек.

— Дзядзька Вадзімір, дайце дапамагу.

— Піць? Ці несці? — Даўгалевіч асцярожна выпусціў з рукі край скрынкі. — Ты, Марцін, сабе толькі ўяві, што ўсё гэта мы мусім выпіць. — Ён кіўнуў на закладзеную ў два слаі размаітымі бутэлькамі і пляшкамі скрыню.— Паглядзі на іх усіх і ўяві сабе — кожнаму запхнуць у страўнік па дзве, а каму і па тры бутэлькі, ды яшчэ закуску зверху. І дзе яно ўсё там падзенецца?

Я азірнуўся — густы туман шматкамі наплываў на масткі, і людзі каля машын з запаленымі фарамі то знікалі, то прамалёўваліся скрозь шчыльны вэлюм, што адліваў штучным золатам электрычнага святла. Калі мы з Даўгалевічам вярталіся па хісткіх мастках да берага, нечакана туман пагусцеў і дошкі насцілу зніклі ў вільготнай белі. Я спыніўся і выцягнуў руку — яна па локаць правалілася ў туман. Адно жоўтымі шарамі ледзь заўважна прабіваліся фары.

— Марцін,— Даўгалевічавы крокі сціхлі,— відаць, тое ж самае бачаць людзі пасля смерці. Пра чарнату, што валіцца на іх знянацку — гэта лухта, чарната — нешта, яна існуе, яе хоць пабачыць можна. А вось такая цвілая дрэнь — сапраўднае нішто, нават нельга згледзець уласных ног.— Даўгалевіч зрабіў колькі крокаў, масткі захісталіся.

— Лепш пастойце,— я спрабаваў разгледзець у сувоях туману ягоную постаць,— бо ўпадзяце, а тады і не ведаю, як вас буду выцягваць.

— Ты яшчэ панепакойся аб тым, як мяне хаваць будзеш.

— Калі такім туманам уваліцеся ў ваду, то хаваць, баюся, не давядзецца, растварыцеся і нат слядоў не пакінеце.

— Ведаеш,— спачатку з туману ўзнікла адна толькі рука, а потым і сам Даўгалевіч, але толькі па пояс,— у такіх дурных абставінах з'яўляюцца дурныя думкі, нібыта які чорт пад руку штурхае. Вось падумалася раптам: а што, калі зараз ціхенька да цябе падысці ды папіхнуць у ваду? Ледзь не на вачах ва ўсіх. І забіць, беспакарана. Маўляў, сам уваліўся. І не давядзе ж ніхто, можна нават яшчэ і папіхнуць нагой, каб напэўна. А потым сказаць, што выцягнуць хацеў, ды не атрымалася. Шкада толькі, гэта ты, Марцін, са мной тут стаіш, а каб хто другі з тых, мо і наважыўся б. Ёсць тут такія — і забіць не грэх.

— А калі не вам першаму такая думка ў галаву прыйдзе?

— Не думаю, я ж ім усім ведаеш як неабходны?

Туман разрэдзіўся знянацку, як і сканцэнтраваўся. Маршанскі, які глядзеўся на пляжы ў сваім доўгім плашчы ды наваксаваных чаравіках даволі дзіка і недарэчна, паклікаў да сябе таксістаў.

— Трымайце,— ён працягнуў дзве дваццацьпяткі,— гэта, што ад нас належыць па спідометры, і дзве дзесяткі — гэта зверху, за туман і паслугі.

— Ат, нічога ты ў людзях не разумееш,— Даўгалевіч падышоў да іх. — Не ўмееш ты аддзячыць, што ім тут твае грошы. Грошы не падарунак,— ён расчыніў сумку і выняў дзве пляшкі віна. — Трымайце, хлопцы, вып'еце за маё здароўе і за здароўе гэтага,— ён кіўнуў на Маршанскага,— хаця і мой сваяк, але ж дурань. Так што не звяртайце ўвагі.

Машыны адначасна крануліся з месца і паступова раставалі ў тумане.

— Чакайце, я прывяду тутэйшага Харона,— Даўгалевіч паставіў валізку на траву, палез на насып.

Маршанскі моўчкі, стараючыся, каб яго ніхто не заўважыў, падаўся ў лес.

— Куды ты? — крыкнуў яму наўздагон Сак і зарагатаў, калі той адчуў на сабе позіркі жанчын.

— Быдла,— спакойна сказаў Маршанскі, але не вярнуўся.

— Зараз пачне ўдаваць, нібыта яго проста зацікавілі дрэвы,— Сак штурхануў мяне ў плячо.

— Не чапай ты яго, ён і так нас баіцца. — Мне стала прыкра з нагоды, што мы знаёмыя.

Я адышоўся на пляж, сеў каля самай вады проста на жвір.

«Добра, што джынсы не варта шкадаваць — садзіся куды заўгодна,— вырашыў я сам для сябе,— а вось Маршанскаму ў яго́ным плашчы, відаць, не так ужо і

зручна церабіцца скрозь гушчар у лесе, бо пасля Сакавай рэплікі адысці давядзецца далёка».

Гражына села побач са мною. Мне было зімна глядзець на яе лёгкую ядвабную сукню, аголеныя плечы і ногі ва ўмоўных — два вузкія скураныя раменьчыкі і тонкія гнуткія падэшвы — басаножках.

Яна нібыта зразумела мае думкі — абсунула доўгі прыпол сукні, так, што з-пад яго выбіваліся толькі пунсовыя нафарбаваныя пазногці, расправіла на плячах баа і абхапіла рукамі калені. Сукня аблягла яе сцёгны, і на іх праявілася тонкая паска белізны.

— Я табе ўдзячная,— Гражына ўбіла твар у калені. Доўгія валасы ламанымі хвалямі прыкрылі рукі.— Ты сабе не ўяўляеш, як я табе ўдзячная. Толькі не думай, я не звычайная дурніца, якая бегае за пісьменнікам-кумірам, каб займець аўтограф ці ўкрасці шалік і павесіць над сваім ложкам. Гэта ўсё ўсур'ёз. Абдымі мяне, калі ласка, я не хачу, каб яны здагадаліся, нашто я тут. Няхай думаюць — я з-за цябе. Ты не крыўдуеш? Гэта, напэўна, сумнае відовішча — калі жанчына прызнаецца ў каханні да другога мужчыны. Ты толькі не крыўдуй. Добра?

Я абняў Гражыніны плечы.

— Ты не захварэла часам — такая гарачая на гэтым сіверы.

— Паспытай,— Гражына адкінула з ілба валасы.

Я крануў яго вуснамі.

— Ты сімулянтка, сімулюеш плячыма жар, а лоб халодны. Словамі сімулюеш каханне да дзядзькі Вадзіміра, а сама, відаць, прыдумала зручны ход, каб набіцца да мяне ў сяброўкі: спачатку абдымі — каб яны падумалі, потым пацалунак у лоб, на будучае ў вусны, на заканчэнне...

— Змоўкні,— Гражына сціснула мне руку.

— Я проста не магу браць усур'ёз ягоную пісаніну і тваё каханне.

— Ён вялікі пісьменнік, можаш, назаві лепшага.

— Не магу. Ён сапраўды лепшы пісьменнік з усіх нашых, але лепшы не азначае вялікі і нават не азначае сапраўдны. Ён цудоўны, сумленны, разумны чалавек, якога я паважаю, але на гэтым усё. Няўжо ты не бачыш? Ён перажывае свае творы. Вы ўсе чакаеце новых — геніяльных і ўжо не заўважаеце, што яны, новыя, горшыя за старыя. А старыя творы паміраюць, выходзяць з ужытку. Раней ён быў для вас геніяльным паэтам. А дзе зараз тыя геніяльныя вершы? Ідуць у дадатку да цяперашніх геніяльных гістарычных раманаў, напісаных пяць год таму. Выбачай мяне, але ты вар'ятка, хаця і прывабная, і ўсе вы вар'яты, хто лічыць яго геніем. Вам ніколі не заўважыць гэта толькі таму, што ўсіх вас як асоб стварыў ён, стварыў сваёй літаратурай, сваім жыццём, зробленым пад літаратуру. Ён стварыў гісторыю нашага народа такой, якую хацеў і на тое, каб вы яе такой бачылі. Вось і цяпер знайшоўся — лісты сам сабе піша.

— Спыніся на хвілінку, нашто мне даводзіць, калі я вар'ятка? Я ж нездарма падышла менавіта да цябе. Каб удаваць у вачах другіх каханне, куды больш пасуе Сак. Яго, відаць, не трэба ўгаворваць, каб абняў ці пацалаваў мяне. Ты адзіны, для каго мой учынак не святатацтва.

— Якраз я, відаць, адзіны з прысутных, для каго ўдаваць каханне з другім, на вачах таго, каго кахаеш, святатацтва.

— Я не пра гэты ўчынак кажу, гэта драбяза ў параўнанні з тым, што я надумалася здзейсніць. Яны ўсе змяшаюць мяне з гразёю, калі даведаюцца. Але ж ты ім не скажаш?

— Пакуль што і ты мне гэтага не сказала.

— То не раскажаш?

— Гледзячы што. Гэта звязана з Даўгалевічам?

— Так.

— Тады можаш расказаць. Мяне вашае вар'яцтва не тычыцца.

— Я напісала верш,— Гражына зноў убіла твар у калені, каб толькі не глядзець мне ў вочы.

— Геніяльны,— я ўздыхнуў,— расказвай.

— Не кпі.

— Добра, не буду.

— Я напісала верш, лепшы з усяго, што маю і буду мець. Санет. І я хачу папрасіць Даўгалевіча перапісаць мне яго на асобны аркуш сваёю рукою, як жарт, як падарунак. Не ведаю. Толькі каб ніхто не дазнаўся, каб ён сам забыўся на гэтае. А потым, праз дваццаць, праз трыццаць гадоў, калі яго не стане, сказаць, што гэты санет ён напісаў сам і падарыў аўтограф мне. І мой верш навечна стане ў зборы твораў поруч з ягонымі вершамі. Адзін слабы верш не сапсуе кнігі. Гэта будзе маё прызнанне ў каханні яму. А ты, відаць, думаў, я набіваюся з табою ў дарогу, каб спакусіць Даўгалевіча. Ты ж зусім не ведаеш мяне, да чаго я здатная. Але ж табе ўсё адно, якім будзе збор твораў. Ты не грэбуеш мною?

— Апошняя думка — адзінае разумнае са сказанага табой за час нашага знаёмства. Мне шкада цябе, вось і ўсё. Давай лепш пацалуемся.

— Гм... слушная думка.

Кяльміцкас стаяў недалёка ад нас і пасміхаўся. Мыскі ягоных чаравікаў былі глыбока ўбітыя ў жвір. Усмешка атрымлівалася драпежнаю, бо ў зубах ён сціскаў доўгі мушцук з незапаленаю цыгарэтаю.

— Пан што мае на ўвазе? — нашаторылася Гражына.

— Пацалунак. Ці ў вас ёсць яшчэ якія праблемы? — Эдмундас павярнуўся на мысках, нібыта збіраўся пайсці.

— Наадварот, пан нам наспрыяў з пацалункам. Ты згодная, Гражына?

Мы тэатральна пацалаваліся — сціснутымі нерухомымі вуснамі.

З-за насыпу ўзнік Даўгалевіч. Ён, відаць, паспеў ужо ў вёсцы перакуліць чарку-другую. Бо вочы ў яго блішчэлі і ён пасміхаўся. Следам за ім сунуўся змрочны ў кароткім зімовым паліто, падпяразаным афіцэрскім рэменем, мужчына з вяслом на плячы. Задубелы ад моцных трункаў і сіверу ягоны твар захоўваў спакой і кандовую годнасць.

— Кампанія нявелькая, але бардзо пажондная,— Даўгалевіч прадставіў усіх разам.

— Вечар добры,— сказаў мужчына,— у човен больш за чатыры чалавекі за раз не сядуць,— і пайшоў на канец масткоў.

— Жанчыны плывуць першымі, а з імі вы, Марцін і Эдмундас, скрыню і гарэлкаю не забудзьцеся прыхапіць, калі губляць, то ўсё каштоўнае нараз: і жанчын, і пітво. Як будзеце тануць, ты, Марцін, ратуй жанчын, а ты, Эдмундас, гарэлку — бо лепей плаваеш. Дамовіліся? — Даўгалевіч кіўнуў мне.— Ну, чаго стаіш? Шчаслівай дарогі.

Я дапамог Гражыне з Тэрэзай Маршанскай сысці ў човен. Кяльміцкас нязграбна падабраў плашч і скочыў з масткоў на хісткае дно. Цяжкая скрыня з бутэлькамі грунтоўна стала пад лавай і, здавалася, прыцішыла частае пагойдванне чоўна.

Туман, загусцелы ў вечаровым змроку, падступіўся з бакоў. Ён наплываў палосамі, і часам у ягоных разрывах успыхвала цяжкім каменным бляскам азёрная вада. Мужчына стаяў каленам на лаве, моўчкі весляваў адным вяслом.

— Як вы толькі арыентуецеся, куды трэба плысці ў такім тумане? — нарэшце парушыла маўчанне Гражына.

— Галоўнае, не азірацца назад.

Перавозчык цыркнуў слінай за борт.

Тэрэза выцягнула руку з вады і выцерла аб лаву.

— А вы, Марцін, таксама пішаце на гістарычныя тэмы? — Кяльміцкас нарэшце запаліў цыгарэту, і дарагі дым пацягнуўся над вадою.

— Не,— я ўспёр ногі ў шпангаут,— пішу толькі аб тым, што ведаю.

— А хіба нельга ведаць гісторыю? Мне спадабалася, як вы раскавана сябе паводзілі, гэта тычыцца і паненкі.

Гражына змушана ўсміхнулася.

— Мне таксама,— азвалася Тэрэза Маршанская,— вы нагадваеце нас з Вадзімірам, калі мы вучыліся разам у Літаратурным інстытуце. Памятаеш, Эдмундас? Вы тады якраз дамовіліся напісаць з Вадзімірам па гістарычнай аповесці. І ўсё злаваліся, што я схавала тоўсты том летапісаў, з-за якога вы ледзь не біліся, бо пісалі пра адзін і той жа час, пра адных і тых жа людзей, толькі ён пісаў беларускую, а ты літоўскую версію падзей. Божа, як вы дзялілі герояў і гарады! Як Вадзімір кідаўся да цябе і крычаў, што ты крадзеш нашую гісторыю, што нельга карыстацца цяжкім становішчам, у якое трапіла беларуская культура, і прыўлашчваць яе нацыянальных герояў. «Вашую літоўскую нацыю ў тыя часы наогул ніхто не ведаў, нават вы самі,— крычаў ён,— а ў цябе вялікія князі не толькі гавораць па-літоўску, але і пішуць, пішуць у тыя часы, калі не было літоўскага пісьма»,— Тэрэза прымружыла вочы.— Памятаеш, Эдмундас?

— Нельга забыць,— Кяльміцкас збіў попел на дно чоўна.— Але ж час паставіў усё на свае месцы, і мае князі больш не варагуюць з ягонымі князямі.

— Спадзяюся, вы цяпер не сварыцеся з Вадзімірам, як у часы нашае вучобы? Бо мне падалося на семінары, што ў вас адбылася размова не з лепшых. Вадзімір нечага патрабаваў, а ты ўсё не згаджаўся?

— Нічога страшнага. Проста ён быў цвярозы.

Я адчуў сябе лішнім у гэтае размове і таму ціха паклікаў:

— Гражына, мо запалім?

— Палі сам, мне падабаецца, калі паляць іншыя, а сама не люблю, мо толькі калі вып'ю.

— Тады чакаць давядзецца нядоўга, да прыезду дзядзькі Вадзіміра.

— Чакайце, Марцін, ну, а як жа наконт гісторыі? — Кяльміцкас прэзентаваў мне цыгарэту.— Калі яе ведаць, то можна і пісаць.

— Каб потым судзіцца з вамі за герояў? І каб самі героі ад нашай літаратуры пераварочваліся ў грабоўцах з-за думак і ўчынкаў, што мы ім прыпісалі? Лепш пакіну ўсё гэта на вашае і дзядзькі Вадзіміра сумленне. У вас лепш атрымоўваецца. А сам сяду і напішу апавяданне пра тое, як цалаваўся з Гражынай. Будзе не горш за які гістарычны дэтэктыў, праўда ж, Гражына, інтрыгі ў нашых адносінах на раман хопіць. А першае выданне разам падпішам дзядзьку Вадзіміру, як жарт, як падарунак, не ведаю яшчэ.

— Глядзіце,— Гражына ўстала, і човен захістаўся на спакойнай, як паліраваны камень, вадзе,— глядзіце — выспа.

У разрывах туману прамалёўваліся бясколерныя абрысы дрэў.

Масткі прычала ўзвышаліся на аксамітных ад імху палях, апошняе перад змяркannем святло надавала ім шляхетнасці. Дом пад высокім паўвальмавым дахам стаяў звернуты да возера прыбудовамі, недалёка ад вады высілася гафтаваная крыж-накрыж з неакораных бярозавых бярвенняў вежа з цыстэрнаю на версе. Брукаваная сцежка вяла ад масткоў у абход невялікага гаю. Нават у паўцемры і тумане я ўбачыў другі бераг выспы, такая яна была невялікая.

Мы з Эдмундасам выцягнулі скрыні, дапамаглі выйсці жанчынам. І мужчына на чоўне знік у тумане.

Тэрэза адамкнула дом сваімі ключамі, запаліла газнічку, і чэзлае святло акрэсліла гасцёўню: стол пад абрусам, буфет, поўны посуду, фісгармонія, зброя на сцяне: паміж паляўнічых нажоў і дзідаў віселі звычайныя нажніцы, каля канапы стаяў радыётэлефон. З-пад часопіснага століка да яго цягнуўся дрот ад танкавага акумулятара.

З гасцёўні дзверы вялі на асобны калідор. Там адно паблісквалі клямкі замкоў і шары парэнчаў — сходы на мансарду.

Тэрэза пачувалася тут як у сваёй хаце. Зняла нажніцы са сцяны і выйшла на двор. Неўзабаве яна вярнулася з букетам кветак. Мы з Гражынай тым часам перасцялілі абрус другім бокам. Буйныя кветкі ў вялікай керамічнай вазе глядзеліся вельмі прыстойна.

— Як хто, а я заўсёды зразаю кветкі нажніцамі,— Тэрэза павесіла іх на старое месца,— бо нож мяне палохае, і тады здаецца, што я забіваю кветкі, а так нібыта кравецкая прылада. Калі ёсць жаданне куды патэлефанаваць, калі ласка,— Тэрэза эфектна шчоўкнула тумблерам, запалымнела чырвоная кропка індыкатара. Накруціла дыск. У цішыні было чуваць, як штучны голас у трубцы абвясціў, што зараз дзевятнаццаць гадзін пяць мінут.— Я пайду наверх, да сябе.— Тэрэза ўціснула трубку ў корпус рацыі.

Калі зноў прыплыў човен, было ўжо зусім цёмна. Адно месяц і ліхтар на фарштэўні чоўна падфарбоўвалі туман.

Мы з Гражынай стаялі на мастках прычала. Дзядзька Вадзімір трохі пашаптаўся з перавозчыкам. Той згодна кіўнуў і адштурхнуўся вяслом.

— Не, не сюды,— Даўгалевіч вярнуў Маршанскага са сцежкі,— праз гаёк бліжэй.

Мы пайшлі за ім следам. Дзядзька Вадзімір вырваўся наперад, потым раптоўна спыніўся:

— Асцярожна, тут нацягнуты дрот,— і ледзь бач-

ны ў д'ябальскім асвятленні, пералез, высока падымаючы ногі, цераз незаўважную для нас перашкоду.

Я асцярожна наблізіўся, павадзіў рукамі перад сабою, поруч шукалі Маршанскі і Сак. Гражына чакала.

— Ну што? — Даўгалевіч нецярпліва прыспешваў нас,— не можаце знайсці? Сямён, бліжэй, вось тут, няўжо не бачыш?

— Нашто табе тут дрот? — Сак шукаў і не знаходзіў, дарэчы, як і я з Маршанскім.

— Гэта ўжо іншае пытанне,— Даўгалевіч засмяяўся,— калі б я не папярэдзіў, а вы сабе ішлі, то патрапілі б дакладна — тварам у глебу. Нашто дрот, пытаешся? Для такіх, як вы. Скажыце дзякуй Гражыне, што вас з-за яе пашкадаваў, папярэдзіў. Ну вось жа ён, Сямён, я яго ў руках трымаю. Адчуваеш? Знайшоў?

— Здаецца... Так... — няпэўна адказаў Маршанскі.

— Вось гэтага я і чакаў,— Даўгалевіч ужо не сцішваў смеху,— ды няма тут ніякіх дратоў, нашто ён мне? А ты, Сямён, не вытрымаў першы. Знайшоў, чаго няма. Табе сказалі, ты і даў веры. А праўда ж, уражвае? І да галавы не прыйшло вам, што я магу цераз пустое месца пералазіць. І прызнацца цяжка кожнаму, што не знайшоў. Добра, выбачайце за жарт. Пайшлі. Нічога, зараз завяду электрастанцыю, будзе светла, лазню напалім, папарымся і за стол.

Дробна заспяшаўся пускавы рухавік, узвыў дызель, і ўвесь дом запалымнеў святлом. На першым паверсе ўспыхнулі фарбы ўжо трохі знаёмай мне вялізнай гасцёўні. Шырокія, на дзве паловы, дзверы выходзілі на калідор. Насупраць іх, побач са сходамі на мансарду, дзверы ў лазню, на кухню і на двор, пад сходамі кладоўка.

Сак паспеў ужо нанасіць дроў і распальваў парагенератар. Жанчыны пазвоньвалі посудам на кухні. Мы з Эдмундасам распалілі грубку і каміны. Цяпло паволі

запаланіла дом. Знікала вільгаць. З'яўляліся на буфеце ў гасцёўні салаты, вазы з садавінай, стосы чыстых талерак.

Спачывальні на мансардзе. Сходы, доўгі калідор, шэсць аднолькавых, як у гатэлі, дзвярэй на два бакі. Вялізнае, на ўсю сцяну, шасцікутнае акно-разетка замыкала перспектыву. Даўгалевіч стрымаў слова і пасяліў нас з Гражынай асобна, але дзверы ў дзверы.

Спачывальні былі маленькія, даволі шырокі ложак, на ім акуратны стос бялізны і ручнік у поліэтыленавым пакеце, часопісны столік з попельніцай. На прышрубаваных да нахіленай столі кольцах па тры вешалкі для адзення.

Пад вузкім гарызантальным акном-стужкай пашчоўкваў яшчэ ледзь цёплы каларыфер. Я зірнуў у акно — пражэктар асвятляў дах прыбудаванай да дома лазні. З яе коміна ўзнімаўся белы дым і мяшаўся з туманам.

Побач з маім пакоем быў Даўгалевічаў кабінет. Адзінае вялікае памяшканне на мансардзе. Дзядзька Вадзімір сядзеў за ампірным бюро-сакрэтнікам і перакладаў рукапісы, прабіваў паперы доўгім самаробным шылам. За ягонай спінай гудзеў полымем камін.

— Ідзі на ніз у гасцёўню, я зараз падыду, як збярэмся ўсе, то абмяркуем праграму на ноч,— ён паклаў на бюро зялёны сшытак,— толькі зраблю запіс у дзённік і падыду.

Даўгалевіч прыйшоў апошнім.

— Ну што, панове, я мяркую так: спачатку лазня, а потым святочная вячэра. Хто не згодны?

— Ад'езд заўтра а якой гадзіне? Трэба замовіць таксоўкі ўжо сёння,— сказаў Кяльміцкас.

— З ад'ездам давядзецца пачакаць,— Даўгалевіч грунтоўна ўладкаваўся ў фатэлі.— Я прашу прабачэння, што напачатку падмануў вас усіх. Але мяркуйце самі, якая падзея важнейшая: нейкі літаратурны

семінар, на якім абыдуцца і без нас, або юбілей? Карацей, я наказаў перавозчыку, каб прыплыў па нас праз тры дні, паспеем якраз на закрыццё семінара. Таксоўкі таксама ўжо замоўлены. Каб не было спакусы ўцячы раней — мой катэр загадзя перагналі да вясковага прычала. Так што выбрацца адсюль немагчыма. Гэтыя дні будуць падарункам мне з вашага боку. Яшчэ раз прашу прабачэння. Калі ў каго пільныя справы, вырашайце іх па тэлефоне. Калі ласка.

— У мяне была прызначана сустрэча,— Кяльміцкас устаў,— я затэлефаную.

Эдмундас у непаразуменні глядзеў на радыётэлефонную трубку, якую сціскаў у руцэ. Ніз яе быў патрушчаны. На каляровым дроціку пагойдваўся сплюшчаны мікрафон.

Я падышоў і агледзеў безнадзейна сапсаваны апарат. Машынальна пашчоўкаў тумблерам, індыкатар не запальваўся.

— Глядзіце,— я паклікаў Даўгалевіча,— глядзіце, нехта для надзейнасці нажніцамі перамкнуў клемы акумулятара.

Кяльміцкас падхапіў нажніцы, але адразу ж кінуў іх на падлогу, так яны накаліліся ад электрычнасці.

— Так, рацыя не працуе,— безуважна азваўся Даўгалевіч.— І яшчэ: паглядзіце на сцяну, бачыце, знік адзін паляўнічы нож.

Пустыя гачыкі на дыване спынілі позіркі прысутных.

Адзін толькі Маршанскі паблажліва пасміхаўся, маўляў, ведаем гэтыя рэчы: і лісты сам сабе напісаў, і пра дрот гісторыю прыдумаў, а вось зараз і рацыю сапсаваў, каб ніхто не ўцёк — самарэклама, падарункі самому сабе.

— Вадзімір,— пытанне гучала ў Тэрэзы як просьба,— гэта ж ты сам зрабіў, каб напалохаць?

— Не,— Даўгалевіч быў цалкам сур'ёзны.

— Нашто гэта ўсё да галавы браць,— Сак устаў і разліў каньяк па келіхах,— у цябе, Вадзімір, свае жарты, у другіх свае, галоўнае, што таксоўкі замоўленыя, човен прыплыве, и рацыю потым адрамантуем. Каб большай бяды не было. Хто ідзе ў парыльню — піць не раю.

Я ўсё ж выпіў. Каньяк зняў напружанасць. Даўгалевіч павесялеў.

— Ну што? Ніхто супраць лазні нічога не мае?

— Яшчэ трошкі пачакаем,— сказаў Сак,— вада не прагрэлася.

— Тады ведаеш што, Мікола,— Даўгалевіч наліў сабе яшчэ і выпіў нагбом, ён відавочна хваляваўся,— памятаеш, пра што мы з табой гаварылі перад ад'ездам? Давай прададзім ідэю ўсім, яна, мне здаецца, вартая ўвагі.

— Вадзімір, не пі, хаця б перад лазняй,— раздражнёна сказала Тэрэза.

Даўгалевіч удаў, што не чуе.

— Лепш не зараз, можа, пазней, калі вернемся на семінар? — Сак прыгубіў келіх і адставіў.

— Потым можам і забыцца, лепш дамовімся цяпер,— дзядзька Вадзімір устаў.— Пастарайцеся быць сур'ёзнымі, лічыце, што гэта працяг семінара і я выступаю афіцыйна. Ваш занятак літаратура. Я думаю, не аднаму мне даводзілася часам аналізаваць гэтую сітуацыю, і калі хто з вас таксама зрабіў падобныя высновы, гэта пацвердзіць толькі, што я і Мікола мелі рацыю. Пытанне сур'ёзнае. Чаму мы, беларусы, апошнім часам ніяк не можам згуртаваць сваю нацыю? Здаецца, усе падставы для гэтага ёсць: ёсць свая рэспубліка, культура, мова, літаратура. Становішча нашае сёння куды лепшае, чымсьці ў тыя ж дваццатыя гады. Але тады мы здолелі згуртавацца, а цяпер не. Не трэба шукаць вінаватых збоку, адказ павінен быць усярэдзіне, а не звонку. У нас саміх.

Згуртавацца можна толькі вакол чаго-небудзь, патрэбны штандары і не з мінулага, а сучасныя. Кожны пералом, новы рух пачынаўся з пакутнікаў, якія потым рабіліся нацыянальнымі героямі. Кожны талент, кожны палітык не мае вагі для сучаснікаў, пакуль ён жывы, пакуль няма трагедый, трагічнага лёсу. Нават геній — калі ён спакойна памёр у сваім ложку — застанецца ў гісторыі на другім плане, вакол ягонага імя немагчыма згуртаваць нацыю. Ён павінен зрабіцца легендай.

Уяўляеце сабе трагічны лёс: маладога, папулярнага мастака забіваюць ворагі. Такія выпадкі могуць нараджаць рэвалюцыі. Ягонае імя робіцца легендай, смерць набывае абагульненне. А нам сёння практычна не пагражае трагічны лёс, улады цудоўна пралічылі сітуацыю, раней за нас. Лепш і бяспечней не забіць свайго ворага, нават калі яго ненавідзіш, а даць яму ордэн, званне і знішчыць яго тым самым як працаўніка, ён ужо ніколі не стане сапраўдным героем, вакол ягонай смерці ніколі ўжо не згуртуецца нацыя. Беларусы спазніліся, мы ўпусцілі свой шанц згуртавацца ў часы трагічных падзей, войнаў, рэвалюцый і паўстанняў. А зараз час рэанімацый і шпітальных ложкаў, а не час стварэння герояў і штандараў. Але нам яшчэ дадзены шанц, бо галоўнае не падзея, а легенда, паданне, тое, што застанецца, тое, што людзі будуць пераказваць адзін аднаму. Не мае значэння першаснова такога падання, яе можна і прыдумаць, стварыць. Мы ўсе тут пісьменнікі, і мне здаецца, варта паспрабаваць хаця б у літаратуры зрабіць такі вобраз, вобраз святога пакутніка-беларуса з класічным наборам трагедыйнай героікі. Давайце, калі вернемся на семінар, паспрабуем разгарнуць гэтую ідэю. Ты ж, Эдмундас, можаш пацвердзіць, у твайго народа багаты вопыт, вы, літоўцы, самі прыдумалі сваю гісторыю, дакладней, пазычылі ў нас і ўзняліся на гэтым.

— Выбачай,— Сак нетактоўна перабіў Даўгалевіча,— лазня выстыне, не апошні дзень жывём, паспеем дамовіцца.

Даўгалевіч перавёў дыханне, і адразу кінулася ў вочы, што ён ужо трохі п'яны, зрабілася зразумелай ягоная ўзнёслая не да часу прамова.

— Добра,— сказаў ён,— бярыце ручнікі, прасціны. Пойдзем у лазню.

Гражына забегла да мяне.

— Марцін, памятаеш, я цябе прасіла,— яна казала ўсхвалявана, і было відаць, што ёй гэта сапраўды важна,— зараз самы стасоўны момант. Даўгалевіч сам на падпітку. Зойдзем да яго, і ты папросіш перапісаць мой верш. Потым я ад цябе ўжо нічога патрабаваць не буду.

— Давай,— я перакінуў ручнік цераз плячо,— будзем лічыць, што так я аддзячу дзядзьку Вадзіміру за той дрот у цемры. Розыгрыш за розыгрыш.

Даўгалевіч уважліва выслухаў мяне, адсунуў свой дзённік на край стала, паклаў паверх яго шыла.

— Кажаш, хочаш мець мой аўтограф? — спытаў ён у Гражыны.— Толькі нашто перапісваць твой верш? Можа, лепш пачакаем, я табе свой напішу, прыдумаю і напішу?

— Баюся, падысці другі раз у мяне не хопіць нахабства,—. Гражына падала Даўгалевічу аркуш стэрыльна-белай шчыльнай паперы, фламастэр, картку з перадрукаваным сваім санетам.

— Як хочаш,— Даўгалевіч прабег вачыма радкі,— ты ведаеш, не сорамна і сваёю рукою перапісаць. Не забудзься толькі на тое, што я сёння казаў, паспрабуй напісаць пра святых пакутнікаў,— ён упэўнена вывеў у правым верхнім рагу «Гражына», перапытаў і дапісаў: «Логвін». Радкі санета выцягваліся адзін пад адным. Унізе ён з нахілам накрэсліў: «Аўтэнтычнасць пацвярджаю. Вадзімір Даўгалевіч». І дата.

Мы зайшлі да Гражыны, яна таропка адрэзала манікюрнымі нажніцамі сваё імя і прозвішча. Я ўрачыста спаліў папяровую стужку ў попельніцы.

— Ну што, зрабіла сваю чорную справу? Да смерці будзеш мне абавязаная.

Гражына моўчкі схавала аўтограф да сябе ў торбачку, узяла ручнік і пацалавала мяне ў шчаку. На калідоры нас перастрэў Даўгалевіч у шаўковым усходнім халаце. У руках ён трымаў чатыры бутэлькі: тры віна і адну гарэлкі.

Лазня была шыкоўная: асобная парыльня, невялікі басейн, выкладзены кафляй, і душ. Першымі распрануліся ў прылазніку мужчыны. Даўгалевіч урачыста павесіў свой халат, Сак акуратна паклаў на лаўку пад сцяну, каб нікому не замінаць, скручаны ў трубу ручнік.

— Ты ведаеш, Вадзімір,— Кяльміцкас азірнуўся, яны з Маршанскім распраналіся на другім баку прылазніка,— усё-такі добра ты зрабіў, што затрымаў нас з ад'ездам. Я ўпершыню пасля дзяцінства не спяшаюся. У гэтым ёсць свой прывабны бок. Мяне нават не цікавіць, якая зараз гадзіна.

— Гэта добрая падстава, каб потым распачаць бутэльку, не забудзься нагадаць, пайшлі,— Даўгалевіч першым увайшоў у лазню, пакінуў бутэлькі на стале, недалёка ад басейна.

Пара зрокава пашырала прастору цеснай парыльні і нагадвала туман.

— Можаце заходзіць,— крыкнуў Даўгалевіч жанчынам, што чакалі ў прылазніку, покуль мы аслабанім душ,— можаце заходзіць! — і зачыніў за сабою дзверы.

Я колькі пасядзеў на ніжняй прыступцы. Гарачыня запавольвала думкі, я адчуў, што ўжо ап'янеў. Сак з Даўгалевічам сядзелі на самым версе.

— Нашто Мікола падлівае яму да лазні? — упаўголаса сказаў Маршанскі,— Даўгалевіч жа п'яны.

— Не вучы нас жыць, гэта не ён мяне спойвае, а я яго,— Даўгалевіч плесканууў вады на парагенератар.

Я адчуў задушлівую гарачыню і зразумеў: яшчэ хвілін пяць тут вытрымаю, але не болей. Пагрукаў у дзверы. Прыслухаўся. Як залева, шумеў душ. Ніякай рэакцыі.

— Гражына! — паклікаў я.

— Што? — душ сціх.

— Вы яшчэ доўга?

— А табе калі трэба? Як будзем сыходзіць, пагрукаюся да вас у дзверы,— зноў палілася вада.

— Нешта і мне не вельмі,— дзядзька Вадзімір спусціўся на прыступку ніжэй.

Нарэшце пачулася — грук, грук.

— Мы пайшлі, сустрэнемся пры стале.

Цёплы душ змыў шампунь, а халодны пастулова вяртаў упэўненасць і цвярозасць. Я ўсё мяняў ваду то з гарачай на халодную, то наадварот, чакаў, калі аслабаніцца басейн.

Першым з яго выйшаў Даўгалевіч, за ім Сак. Яны захуталіся ў прасціны і падселі да стала. Віно напоўніла шклянкі. Я адмовіўся. Вада ў басейне была ні халоднай і ні гарачай. Тэмпература проста не адчувалася. Цела страціла вагу, я паклаў руку на парэнчы і заплюшчыў вочы.

Да размовы за сталом не прыслухоўваўся. Яна гучала для мяне агульнай, пазбаўленай сэнсу гукавай плынню. Галасы зліваліся з пругкім, які можа быць толькі ў лазні, рэхам, шумам вады.

— Гэй, Марцін,— крыкнуў Маршанскі,— цябе Гражына нешта да дзвярэй кліча.

Я накінуў прасціну і падышоў да дзвярэй.

— Марцін? — пачуўся Тэрэзін голас.

— Так.

— Паспрабуйце перакканаць Вадзіміра, каб болей не піў. Халодная вада і тая наўрад яго працвярэзіць. Я баюся, што святочная вячэра не заладзіцца.

— Дарма вы хвалюецеся, здаецца, усё нармальна,— я азірнуўся і зразумеў, што Тэрэза мела рацыю, відаць, такое надаралася не ўпершыню, і яна ведала ўсё наперад — усе расклады.

— Карацей, я папрасіла — трэба зрабіць.

Гражына з Тэрэзай пачалі гаварыць пра нешта сваё, раз-пораз чуліся словы «шпацыр» і «ўчасанне».

Угаворваць не піць нікога не давялося, бо ў апошняй бутэльцы засталося мо толькі шклянка сухога віна. Гэтая колькасць прынесці якія-небудзь якасныя змены, вядома, не магла.

Сак з Даўгалевічам былі ўжо на добрым падпітку. Па Маршанскім меркаваць штосьці было цяжка, ён нерухома сядзеў з заплюшчанымі вачыма.

— Не хвалюйся,— запэўніў мяне Даўгалевіч,— халодная вада алкаголь выб'е, і будзем цверазейшыя за цябе. У гэтым самы смак: выпіў — працвярэзіўся, выпіў — працвярэзіўся. Усё нармалёва.

Кяльміцкас сышоў першым. Я яшчэ трохі пасядзеў, каб пераканацца, што бутэлька віна сапраўды апошняя. Калі сумненняў не засталося, падаўся і я.

У гасцёўні сядзелі жанчыны разам з Эдмундасам і раскладалі пасьянс. Я прынёс паперу, аловак, і мы распісалі партыю ў вясковы віст.

Гражыне, якую мы толькі за гэтым сталом навучылі правілам, пайшла карта. Яна складала крыжыкамі біткі і кожны новы кон кранала рукою нефарбаванае дрэва, каб не сурочыць. Неўзабаве да гульні далучыўся Маршанскі.

— Як там Вадзімір, адышоў? — спытала Тэрэза.

— Заснуў,— Маршанскі здаваў карты і нават не глядзеў на іх,— але нічога, з ім там Мікола, гэты

працверазеў, абяцаў, што калі Вадзімір праспіцца хвілін дзесяць, то загоніць яго ў халодную ваду. Не хвалюйся, Тэрэза, галоўнае, што там няма больш чаго піць.

— Бяру тры з сямі. А ты, Сямён? — падала Тэрэза.

— Пас, вістуй, Марцін.

Я зірнуў на іх твары, каб зразумець, колькі бітак абяцаць мне, і раптам заўважыў, як з прачыненых дзвярэй лазні пільна прыглядаўся да нас Сак.

— Таксама пас, лепш я перабяру, але вам гульню падпсую.

Дзверы ў лазню зачыніліся.

У самай сярэдзіне другога кона ў дзвярным праёме прылазніка з'явілася постаць Даўгалевіча — на галаве нядбайна накручаны ручнік, доўгі, з настаўленым каўняром усходні халат. Зразумець ягоны твар — цвярозы ці п'яны — было немагчыма. Святла ў калідоры не было, лямпачка свяціла з-за спіны, з прылазніка. Усе, хто быў за сталом, моўчкі глядзелі, як ён даволі цвёрдаю хадою ўздымаўся на мансарду.

— Нічога, збольшага Вадзімір, відаць, ачомаўся, вячэра не адмяняецца,— Маршанскі зайшоў з віноватага туза.

Не паспела Гражына выйграць і гэты кон, як па сходах зноў прамільгнуў усходні халат і той жа ручнік, прычыніліся дзверы прылазніка. Выразна бліснула заціснутая ў руцэ бутэлька віна. З-за дзвярэй адразу пачуўся Сакаў голас:

— Не, Вадзімір, зараз больш піць не будзем, ну, вось добра, што бутэльку аддаў, я яе на стол лепш занясу, а ты яшчэ трохі пасядзі, потым душ прымеш, акрыяеш.

У адказ пачулася:

— Угу.

Сак адразу ж і выйшаў, у руцэ ён сціскаў бутэльку віна. Ускудлачаныя валасы надавалі твару жахлівы выраз. Як і абяцаў, бутэльку ён паставіў нам на стол. Адкасаў нагавіцы. Ледзь дачакаўшыся канца гульні, ён прапанаваў:

— Ведаеце што, пакуль Вадзімір прывядзе сябе да ладу, разыдземся па пакоях. Каму што: жанчынам зрабіць учасанне, каму проста адпачыць. Праз паўгадзіны збяромся тут, за сталом, і распачнём свята.

Мікола перапыніў мяне ў дзвярах:

— Пачакай, застанься, давай мы з табой падарунак Даўгалевічу падрыхтуем — песню. Я ж добра спяваю, а ты ўмееш на фартэпіяна граць,— ён зачыніў дзверы на калідор, мы засталіся з ім удвух.

Я даволі хутка разабраўся, што да чаго ў фісгармоніі, гучала яна ўрачыста, не раўнуючы, як арган у касцёле. Ды і Сак меў добры голас. Я граў, а ён спяваў амаль без супынку. Мяне толькі здзіўляла, як ён мог абыходзіцца столькі часу без цыгарэт. Я ж калі паліў, то граў адной рукой. І час ад часу здзьмухваў попел з жаўтаватай касцяной клавіятуры.

Нехта праходзіў за дзвярыма, чуліся галасы, крокі. Але музыка заглушала іх сэнс і прыналежнасць. Мне заўсёды было раней цяжка размаўляць з Сакам. Мы заўсёды пачыналі падначваць адзін аднаго, нарэшце сварыліся. А тут, у музыцы, мы выдатна разумеліся, адчувалі агульную канструкцыю песні. Паступова, адзін за адным пачалі падыходзіць: спачатку Кяльміцкас, потым Гражына з Тэрэзай, за імі прыйшоў Маршанскі. Яны сядзелі і слухалі. Мяне толькі ўвесь час раздражняла, што Маршанскі адбівае такт.

Нарэшце Сак спыніў песню і азірнуўся:

— Чакайце, а Вадзімір што, яшчэ не пераапрануўся?

— У кабінеце яго няма, там дзверы адчыненыя,— сказала Гражына і паправіла рэмень ад торбачкі.

— Відаць, заснуў у лазні,— Кяльміцкас паглядзеў на гадзіннік,— паўгадзіны ўжо спіць.

Маршанскі зацята маўчаў.

— Пайду пабуджу, час за стол сядаць,— Эдмундас накіраваўся ў лазню.

З хвіліну яго не было, і раптам пачуўся крык:

— Сюды! Сюды! Ён нежывы! Забілі!

Я нават не зразумеў, як паспеў выскачыць на калідор і як апынуўся ў лазні. За сталом быў нябожчык — дзядзька Вадзімір. Ён прыхінуўся да сцяны, нежывыя вочы нерухома глядзелі ў столь, на грудзях з нажавой раны скрозь белую прасціну праступіла і ўжо спяклася кроў.

Я адчуваў за спінай прысутнасць другіх гасцей.

— Глядзіце!— раптам крыкнуў Кяльміцкас.— Паляўнічы нож у басейне! Той, што знік.

— У басейне? — Сак выпусціў нябожчыкаву руку і азірнуўся.

Запала маўчанне. Я зачаравана глядзеў на гостры, нават з выгляду паляўнічы нож, які ляжаў на дне басейна, і фізічна адчуваў, як лёгка ён можа ўвайсці ў цела.

Першым ачомаўся Сак. Ён рэзка выпрастаўся і агледзеў прысутных. У ягоных вачах дрыжалі слёзы.

— Каго няма? — закрычаў ён. — Каго няма? Зірні, Марцін.

Я азірнуўся — не было Гражыны. Сак адсунуў Маршанскага і ў два скачкі дасягнуў сходаў на мансарду. Я кінуўся за ім. На падлозе перад кабінетам змяілася баа.

Дзверы ў Даўгалевічаў кабінет былі адчынены. Перад сакрэтнікам стаяла Гражына. Маленькую, пера-

пэцканую тушшу для век насоўку яна прыціскала да вачэй. Упершыню я бачыў яе без баа і торбачкі. Усе шуфляды стаялі на падлозе, начынне акуратным стосам ляжала побач. Ампірныя абрысы секрэтэра ў строга геаметрычных правалах-пустках глядзеліся недарэчна.

— Што ты тут робіш? — Сак падскочыў, схапіў Гражыну за руку. Маленькая насоўка ўпала на падлогу.

— Пусці! — Гражына тарганулася, але трымаў Мікола моцна.

— Пусці,— няголасна сказаў я,— што ты да яе маеш?

Сак завагаўся, але расціснуў пальцы.

— Што ты тут рабіла? У паперах чаго шукала?

Гражына раптам прыціснулася да сцяны і расплакалася.

Яна намагалася нешта сказаць, але плач нішчыў словы.

— Дзённік дзе?! — знянацку крыкнуў Сак. — Дзённік дзядзькі Вадзіміра! Па яго прыйшла? — і зноў падскочыў да Гражыны.

— Яго... — але новы прыступ плачу прымусіў Гражыну затрымаць дыханне. Яна з усяе сілы адштурхнула Сака і забілася ў кут.

— Адчапіся,— я крануў яго за плячо,— хай дзяўчына супакоіцца.

— А, і гэты туды ж, абараніць надумаўся. А хто яна такая — ты ведаеш? Ты ж яе сюды прыцягнуў. Цяпер за яе і адказвай. Што ёй тут трэба? Мо гэта яна забіла, а зараз прыйшла дзённік знішчыць? Бо нешта ж перад згубай дзядзька Вадзімір туды запісаў. Не проста ж так яму нож усадзілі. Талент, ведаеш, колькі людзей ненавідзіць. Нічога, я з імі яшчэ разбяруся.

— Ты што, усур'ёз? Яна магла забіць?

— А хто? Ты? Ці, можа, я? Падумай.

— Ва ўсякім разе не яна.

— Мне лепш відаць,— Сак трохі адышоў,— не я яе сюды прыцягнуў з вуліцы, і не я з ёю спаў. Падумай, ты ж не кінуўся нішчыць дзённік і ніхто не кінуўся, а яна.

— Дзённіка тут ужо не было,— нечакана спакойна сказала Гражына,— я адразу падумала пра дзённік, ледзь толькі пачула, што Даўгалевіч забіты, і кінулася, каб ратаваць запісы, але дзённіка ўжо не было.

— Ты ўсё прагледзела? — спытаў я.

— Усё, бачыш, адныя рукапісы, папера. Нехта яго ўзяў.

— Забойца,— Сак не міргаючы глядзеў Гражыне ў вочы,— яго ўзяў забойца.

— Не ведаю,— Гражына адвяла позірк,— нехта ўзяў.

Сак быў заступіў Гражыне дарогу, але тая і не памкнулася прайсці, толькі дэманстратыўна абсунула прыпол сваёй лёгкай напаўпразрыстай сукенкі, што хавала адно толькі колер цела, і скрыжавала пустыя рукі.

— Тварам да сцяны, рукі за галаву? — спытала яна.

— Не цяпер, і так бачу, што нічога не хаваеш.— Сак зрабіў крок ад дзвярэй. — Цяпер спускайся на ніз і чакай у гасцёўні, збіраемся там, я яшчэ разберуся з табой.

— Толькі спачатку я выйду з дома да возера — змыць макіяж. Ці гэта будзе разглядацца як спроба ўцёкаў з-пад канвою? — Гражына выйшла на калідор, падхапіла баа.

Я нагнаў яе:

— Цябе правесці? Ці, можа, лепш змыеш на кухні?

— Не варта. На кухні гатуюць ежу, а не мыюцца,— і яна зноў расплакалася.

— Ты ёй верыш? — падышоў да мяне Сак.

— Мяркую, што ты не верыш і мне.

— Ты адзіны, каму я магу верыць.

— Чаму? Не такія мы ўжо і сябры.

— Сяброўства ні да чаго. Мы ўсе тут сябры. Але ты быў са мною ў гасцёўні, калі нехта з іх забіў дзядзьку Вадзіміра.

— Я пра гэта не паспеў падумаць.

— А я паспеў. Ідзі на ніз, наганю,— Сак падышоў да акна і стаў узірацца ў цемру.

— Я з імі разбяруся, хто забіў, а ты мне дапаможаш. Склікай усіх у гасцёўню.

Я сышоў на ніз, дзверы ў лазню былі прычыненыя. У прылазніку пуста і суха, на лаўцы ляжаў кінуты ўсходні халат і скамечаны ручнік. Я прачыніў другія дзверы — моцна запахла вінам. Нябожчыка — дзядзьку Вадзіміра — ужо паклалі на лаву, ён быў закручаны, як рымскі грамадзянін, у тогу-прасціну. На грудзях бурай плямай спяклася кроў. На кафельным дне басейна ляжаў паляўнічы нож. Дыміла залітая вадой печ — парагенератар.

Я паспрабаваў адчыніць акно. Фрамуга адразу не паддалася. Тады я стаў на ўслончык і зазірнуў на высокае падваконне. Акно, што выходзіла на возера, трымаў доўгі, але неглыбока ўбіты цвік. Ён лёгка выцягнуўся, і халодны восеньскі вецер уварваўся ў лазню. Супрацьлеглае акно паддалося адразу, яно не было зачыненае на шпінгалет і нават няшчыльна прылягала да сцяны. Скразняк імгненна выстудзіў лазню, адкінуў нябожчыку з ілба валасы. Я падышоў да дзвярэй і азірнуўся. Нерэальнай выдавала выстуджаная лазня, лёгкая пара курэла над басейнам. Мне недарэчна падумалася, што дзядзьку Вадзіміру будзе тут халодна.

— Выбачайце,— сказаў я шэптам,— можа, калі б не было тут мяне ці я не ўзяў з сабою Гражыну, то спрацаваў бы нейкі ланцуг выпадковасці і забойства не адбылося б. Але я не хацеў, мне прыкра, што я часам думаў аб вашай смерці, думаў аб скорай яе непазбежнасці, ды і вы самі прыспешвалі яе віном, гарэлкай. Толькі я ніколі не думаў, што атрымаецца вось так. Вы пісалі пра тых, каго забіваюць, замуроўваюць у сутарэннях, а сабе рыхтавалі смерць ад гарэлкі, спакойную і зусім не гераічную, але ж атрымалася вось як. Выбачайце, што я часам уяўляў ваш скон на бальнічным ложку, выбачайце.

Я машынальна палічыў бутэлькі на стале — дзве з-пад гарэлкі, тры з-пад віна, выйшаў на калідор і замкнуў за сабою дзверы. Ключ тырчаў у адтуліне, я яго перакруціў і паклаў у кішэню.

Склікаць нікога не давялося — усе і так сабраліся ў гасцёўні. На стале ляжалі непрыбраныя карты. Вечка фісгармоніі нехта паспеў ужо зачыніць. Цішыню парушаў толькі аднастайны грукат электрастанцыі. Тэрэза стаяла перад адчыненым барам і ніяк не магла патрапіць рыльцам бутэлькі ў чарку, каньяк разліваўся па лакіраванай паверхні. Эдмундас прытрымаў яе руку. Дробна зазвінела шкло.

— Я з табой,— сказаў ён і наліў палову чаркі сабе.

Яны выпілі моўчкі.

Маршанскі нерухома сядзеў у глыбокім фатэлі і глядзеў на столь. Я на ўсялякі выпадак таксама зірнуў угору, але на белай роўнядзі столі нічога вартага ўвагі, акрамя падобнага да павука ценю баракальнай жырандолі, не згледзеў.

Я адышоў да акна і сеў на мяккую, як вясковая падушка, казетку. Вярнулася Гражына, рашуча перасекла залу і села побач. Яна дакранулася да маёй рукі

халоднай, у вільгаці кандэнсату, торбачкай, але адразу ж шмарганула яе да сябе і павесіла на спінку казеткі.

— На дварэ дождж? — спытаў я.

— Не, туман,— Гражына пільна глянула мне ў твар. Вочы, пазбаўленыя макіяжу, выдалі бясколернымі. Яна адціснула насоўку проста на дыван.

— Вада ў возеры жахліва зімная, як снег. Затое вяртае яснасць думкі, а тут у цяпле зноў пачынаю раскісаць,— яна ўсхліпнула і прыклала насоўку спачатку да вачэй, потым да лба. — Так лепш. Як навязліва грукаціць рухавік і ўсё аддаецца ў скронях. Гэты твой Сак — хабёл. Ён хадзіў сачыць за мной. Уяўляеш — я была на беразе — цемрадзь і туман. Азірнулася, а за мной ледзь бачная нерухомая маўклівая постаць, я думала, гэта ты. Кажу: «Марцін! Нашто ты тут?» А ён моўчкі набліжаецца, і я ўжо бачу па абрысах, што гэта не ты, і раптам падалося, нібыта перада мною нябожчык — дзядзька Даўгалевіч. У цемры чаго не падасца? Асабліва калі чакаеш пабачыць. Я ўскрыкнула і тут пачула: «Змоўкні, дурніца, няма чаго табе тут швэндацца, ідзі ў хату, покуль я не перадумаў». Бачыш, дагэтуль рукі калоцяцца, а сам ён падаўся далей па беразе, спытай нашто? Там жа няма больш каго палохаць. Я бегла дадому і ўсё азіралася, нейкая дурная думка — нібыта нагоніць і пачне душыць. Ці проста мы ўсе тут павар'яцелі?

Рыпнулі ўваходныя дзверы.

Гражына змоўкла, сціснула маю руку.

На парозе з'явіўся Сак, павесіў электрычны ліхтарык на цвік, няспешна зняў плашч і падсеў да стала.

— Панове,— ён агледзеў залу,— так, усе сабраліся, толькі ніколі ўжо не будзе паміж нас дзядзькі Вадзіміра, сядайце да стала, нам ёсць над чым падумаць.

Усе моўчкі наблізіліся і паселі. Маршанскі нервова пачаў збіраць са стала карты. Сак прыняў з суседняга са сваім крэсла плашч і сказаў:

— А ты, Марцін, сядай, калі ласка, тут, зараз растлумачу нашто.

Ягоная ўпэўненасць гіпнатызавала ўсіх, здавалася, што сярод усеагульнай разгубленасці адзін ён ведае, што рабіць. Я кіўнуў Гражыне і сеў побач з Сакам, а ён тым часам казаў:

— Дзядзьку Вадзіміра забілі, і зрабіў гэта нехта з прысутных, нехта з вас,— ён павёў перад сабой рукою,— акрамя мяне і Марціна.

Ніхто не варухнуўся. Сак вытрымаў паўзу і ўстаў.

— Я на ўсялякі выпадак абышоў зараз выспу — нідзе ніякіх слядоў, ніхто, акрамя нас, сюды сёння не прыплываў, паўсюль некранутая раса і прыбіты ўчарашнім дажджом жвір на пляжы. Я разумею, наколькі цяжкае абвінавачванне толькі што супраць нас выставіў. Але ж забойства — факт, ударыць сябе ў сэрца і потым выкінуць нож у басейн сам Даўгалевіч не мог — самагубства адкідаецца адразу. Значыцца, трэба шукаць забойцу і, як я ўжо казаў, шукаць у межах гэтай залы.

— Ці не лепш пачакаць следчага? — Маршанскі ўсё перабіраў карты і ніяк не мог спыніцца.

— Чакаць? — Сак узвысіў голас. — Колькі? Тры дні? Покуль па нас прыплывуць? Ці пан спадзяецца пераплыць возера сам? Можна было б і пачакаць, але за гэтыя дні могуць знікнуць доказы забойства, як знік і Даўгалевічаў дзённік. Забойца наўрад ці будзе проста чакаць. Мо ён, ці яна, змые ўсе сляды крыві,— Сак выразна паглядзеў на Гражыну,— або яшчэ горш — рыхтуе наступную ахвяру, сведку, аднаго з нас, хто ведаў ці бачыў нешта важнае. Таму я лічу, што ў нашых жа інтарэсах высветліць усё зараз. Ды я не магу сядзець прос-

та так, калі ведаю, што забойца ў адным са мной доме.

— Чаму вы знялі абвінавачванне з сябе, мне зразумела,— сказала Гражына,— але адкуль такая велікадушнасць да Марціна?

— Факты, і толькі факты,— Сак сашчапіў рукі на грудзях,— давайце я ўзнаўлю цяг падзей пад час забойства, і стане зразумела, чаму ні я ні Марцін не маглі забіць. Пачну з таго, як усе былі ў лазні. Першымі сышлі жанчыны. Потым сышоў Кяльміцкас, за ім Марцін і Маршанскі. Я ж застаўся дапіваць бутэльку разам з Даўгалевічам. Мне давялося пацiху выліць віно, бо ён быў ужо страшэнна п'яны. Але ж калі Даўгалевіч згледзеў пустую бутэльку, то прапанаваў прынесці і выпіць удвух яшчэ адну, перад вячэрай, я яго адгаворваў, што больш піць не варта, але ён апрануўся і падаўся па наступную бутэльку. Я вырашыў, што адзін ён піць не будзе, і пачаў збірацца, каб пайсці.

Сутыкнуліся мы з ім у дзвярах, я пераняў бутэльку і выйшаў на калідор. Вы ўсе сядзелі ў гасцёўні за сталом і гулялі ў віст. Значыцца, на наступны момант расклад быў такі: мы ўсе сядзім у гасцёўні і толькі Даўгалевіч сам у лазні. Вы дагулялі партыю, і нехта прапанаваў да вячэры разысціся — прывесці сябе да ладу пасля лазні. Вы ўсе падаліся па пакоях, і толькі мы з Марцінам засталіся ў зале. Ты, Марцін, прычыніў дзверы на калідор і сеў за фісгармонію. Я спяваў, а ты акампаніраваў, бо мы хацелі павіншаваць дзядзьку Вадзіміра песняй. Спадзяюся, усе чулі музыку і голас?

— Усе,— сказала Гражына.

Ніхто не запярэчыў. Адна толькі Маршанская зірнула на мужа, нібыта шукаючы пацвярджэння.

— Дык вось, мы спявалі за зачыненымі дзвярыма, першым сюды, хвілін праз дваццаць, спусціўся Эд-

мундас. Падыходзілі астатнія, садзіліся і слухалі. Неўзабаве сабраліся ўсе, акрамя Даўгалевіча. Я спытаўся, дзе ён. Ты, Гражына, сказала, што наверсе яго няма. Тады Эдмундас зазірнуў у лазню.

Адсюль вынікае — Даўгалевіча забілі пасля таго, як усе разышліся і ты, Марцін, прычыніў дзверы на калідор, і да таго, як усе сабраліся ў гасцёўні за сталом. Я і Марцін адзіныя, хто быў гэты час тут і нікуды не выходзіў, вы ж самі пацвярджэнне, што чулі музыку і спеў. Вось чаму я сказаў — ні я, ні Марцін забіць не маглі, тут нават не бяру пад увагу этычны бок справы, ні я, ні ён не маглі гэтага здзейсніць чыста тэхнічна, бо не выходзілі з залы пад час забойства.

— Атрымліваецца, і я магла забіць Вадзіміра?! — Тэрэза Маршанская рэзка ўстала з-за стала, яе крэсла пахіснулася і глуха ўпала на дыван.

— Я ўжо сказаў, што этычны бок справы пакуль што не бяру пад увагу, толькі тэхнічны. Супакойся, калі мы пачнём зараз кідацца адзін на аднога, лягчэй ад гэтага не стане. Мне баліць не менш, чым табе. Сядай.

— Хто ты такі, каб кідаць мне папрок? Ды які папрок? — вінаваціць у забойстве Вадзіміра. Мяне? — Маршанская ўсперлася рукамі ў стол і падалася наперад.

— Я такі ж самы сябра Даўгалевіча, як і ты, толькі ніколі не здраджваў яму. І яшчэ я той, хто не мог яго забіць.— Сак спакойна сеў у крэсла і закінуў нагу за нагу.

Гражына асцярожна кранула Тэрэзу за руку:

— Сядайце, сапраўды ён мае рацыю, лепш ад гэтага не будзе.

— Вось чаму я і наважыўся ўзяць на сябе такую адказнасць — паспрабаваць правесці следства і знайсці забойцу,— Сак нечакана грымнуў кулаком па

стале,— бо гэта злачынства супраць культуры,— яшчэ раз грымнуў кулаком,— супраць беларускай нацыі, і забойца, перш чым адказаць перад судом, адкажа перада мной! — Сак на хвіліну перавёў дыханне і далей працягваў ужо без крыку, адно што ягоны твар заставаўся страшным. — Я з гэтага моманту праводжу следства, раю са мною быць шчырымі і нічога не ўтойваць, бо мы людзі аднаго кола і можам паразумецца. Мяне цікавіць адно — знайсці забойцу, разлічыцца з ім. Усе падрабязнасці з асабістага жыцця мяне цікавяць толькі з гэтага пункту гледжання і застануцца між намі. Горш, калі ўсе памылковыя версіі будуць фігураваць на судзе. Гэта як мінімум абраза памяці Даўгалевіча, якая належыць не нам, а ўсёй нацыі. Няхай маім памагатым у гэтай святой справе будзе Марцін. Прашу ўсіх заставацца ў гасцёўні. Мы з Марцінам пойдзем у Даўгалевічаў кабінет, і там з кожным я буду размаўляць паасобку. Я яшчэ раз прашу нікога не крыўдаваць і быць шчырымі. Забойца сярод нас, і наш абавязак выкрыць яго. Праз пяць хвілін ты, Гражына, падыміся да нас, як выйдзеш, паклічаш наступнага, я скажу каго. Пайшлі, Марцін, нам яшчэ трэба дамовіцца.

Мы з Сакам узняліся стромымі сходамі на мансарду. Доўгі калідор, падзелены частымі вертыкалямі дзвярэй, упінаўся ў шасцікутнае акно.

У кабінеце мы моўчкі паскладалі чыстыя паперы ў шуфляды. Сак сцягнуў з шафы пустую кардонную скрыню з-пад тэлевізара, і мы яе наладавалі акуратна падпісанымі папкамі з рукапісамі.

— Дзе ляжаў апошнім часам дзённік? — Сак адцягнуў скрыню пад сцяну, бліжэй да дзвярэй.

— На стале, ляжаў разгорнуты. Я сюды заходзіў перад лазняй з Гражынай. Дзядзька Вадзімір якраз сядзеў і рабіў запіс. Так што дзённік забойца сцягнуў

да прыходу Гражыны, зайшоў, калі мы спявалі на нізе, спакойна ўзяў са стала і пайшоў. А Гражына спазнілася, бо нашто ёй тады было выкідаць начынне з шуфлядаў, калі дзённік ляжаў навідавоку.

— Памыляешся,— Сак сеў на канапу,— Даўгалевіч яшчэ раз заходзіў у кабінет, па віно, і мог дзённік перахаваць у тыя ж шуфляды. І дарма ты яе так бароніш — тваю дзеўку. Мне куды лягчэй падазраваць яе, чымсьці тую ж Тэрэзу, якую ведаю яшчэ з інстытута.

— Таму і бараню, што табе лягчэй. І наогул, ці маем мы маральнае права судзіць астатніх толькі на той падставе, што былі разам пад час забойства? Для іх мы маглі дамовіцца — я пайшоў забіваць, а ты падсеў да фісгармоніі — граў і спяваў, каб усе чулі. Я забіў Даўгалевіча, схадзіў па дзённік, спаліў яго і вярнуўся. А потым мы з табой разам згулялі камедыю, калі злавілі Гражыну ў кабінеце.

— Не атрымліваецца,— Сак прыпаліў і кінуў запалку ў камін,— я не ўмею граць на фісгармоніі, а ты не можаш добра спяваць. І наогул, няўжо ў выпадковага следчага больш маральных правоў разбірацца ў смерці дзядзькі Вадзіміра, чым у ягоных сяброў?

— У сяброў? Не забывайся, адзін з іх забойца.— Я таксама запаліў. Цесны кабінет адразу зацягнула дымам, але пакрысе ён стаў знікаць у каміне.

— Акрамя нас, акрамя нас. Вось адкуль ідзе нашае права. — Сак раптам перайшоў на шэпт. — Ведаеш, Марцін, ты вазьмі ручку і паперу — будзеш занатоўваць за кожным асноўныя дэталі. Пытанні я ўжо прадумаў, калі хадзіў па выспе.

На калідоры пачуліся прыглушаныя ходнікам крокі. Увайшла Гражына.

— Я не зарана?

Сак моўчкі паказаў рукой на пустое крэсла перад камінам.

З хвіліну мы маўчалі. Гражына то расшпільвала торбачку, то зашпільвала, нарэшце павесіла яе на спінку крэсла і скрыжавала рукі

— Імя і прозвішча? — Сак збіў попел на далонь.

Гражына ўзяла са стала цыгарэты, я ёй паднёс запалку. Глыбока зацягнулася і сказала:

— Маё? Гражына Логвін.

— Гэта ж літаратурны псеўданім.

— Не толькі: па пашпарце і па літаратуры супадаюць.

— Узрост?

— Дваццаць два.

— Занятак?

— Паэтка.

— Яшчэ што?

— Вучуся, трэці курс філалогіі, універсітэт. Жыву ў Менску, з бацькамі. Са шкодных звычак, як бачыце — паленне і алкаголь. Антрапалагічныя дадзеныя вас таксама цікавяць? Магу падаць.

— Як ты трапіла на семінар?

— Нарэшце бліжэй да справы. Ад Саюза пісьменнікаў. Даведалася, што адбудзецца семінар, на якім адным з кіраўнікоў Даўгалевіч. Прыйшла і папрасіла, каб мне далі накіраванне.

— Каго з прысутных на выспе ведала да прыезду на семінар?

— Асабіста аднаго Марціна, мы сустракаліся раней. Астатніх, апроч Кяльміцкаса, якога ўбачыла ўпершыню, ведала завочна, па публікацыях.

— Як ты трапіла сюды, на выспу?

— Разам з усімі, на таксі, далей на чоўне.

— Я маю на ўвазе, хто запрасіў цябе.

— Калі ты, Марцін, дазваляеш, я раскажу.

Я не запярэчыў, і Гражына працягвала:

— Спадзяюся, пан Сак заўважыў, у нас з Марцінам адносіны больш чым сяброўскія. Ён прадставіў

мяне Даўгалевічу як сваю каханку, і той запрасіў мяне на свой юбілей. Гэта, дарэчы, адбывалася пры сведках — Кяльміцкас быў побач.

— Наколькі я ведаю, у Марціна ёсць сяброўка ў Менску, з якой ён нават збіраецца ажаніцца.

— Не ведала,— Гражына зірнула на мяне.

— Паслухай, Сак,— я адклаў ручку набок,— я ведаю ў Менску як мінімум трох дзевак, з якімі ты збіраешся ажаніцца, прынамсі, яны так думаюць, але гэта табе не перашкаджала заляцацца да Гражыны, пакуль я не сказаў табе пра нашыя адносіны. Да забойства гэта мае такое дачыненне, як і колер яе вачэй.

— Дарэчы,— Сак прымерыўся і пстрыкнуў недапалкам у камін, патрапіў,— а сапраўды, які колер яе вачэй? Толькі не паварочвайся.

Я глянуў, але Гражына нерухома сядзела спінай да мяне. Так, падумалася мне, каштанавыя валасы, жоўтая сукенка і зялёная ў залатыя жарынкі торбачка, на колер баа можна не зважаць, такія рэчы не купляюць у тон да нечага, прынамсі, студэнткі.

— Карыя,— нарэшце сказаў я.

— Ды не,— Сак уздыхнуў,— зялёныя, а вы мне пра каханне. Ды я хоць зараз тых трох дзевак, што ты згадаў, да драбніц успомню. Вось і атрымліваецца — не каханка, а палюбоўніца, у лепшым выпадку. Але так і так не стасуецца. Чаму ты, Марцін, папрасіў Даўгалевіча пасяліць вас у розных пакоях? Тое ўжо пры мне было.

— А вось тут,— гэтым разам уздыхнуў я,— ужо табе, Сак, будзе цяжка зразумець, нават немагчыма. Колькі ні тлумач. Лягчэй зайсці з другога боку: дзядзька Вадзімір здзівіўся маёй просьбе? Ты ж быў пры гэтым — не, не здзівіўся. Для яго такія расклады былі нормай. Вось і ты лепей не здзіўляйся, а бярыся бліжэй да справы.

— Добра, ты толькі занатуй гэты момант,— Сак выпрастаў ногі і адкінуўся на спінку, нібыта зараз больш не збіраўся пытацца, а толькі слухаць.— Узнаві, калі ласка, падзеі з таго моманту, як ты сышла з лазні, і да таго, як даведалася, што Даўгалевіч забіты.

— Нарэшце,— Гражына ўзяла са стала яшчэ адну цыгарэту і прыпаліла яе ад папярэдняй,— трэба ўпарадкаваць думкі, бо гэта сапраўды важна.

Гражына пераклала цыгарэту з адной рукі ў другую, потым пачала загінаць пальцы, бязгучна варушыць вусны. Святло ад настольнай лямпы пульсавала ў такт хваравітаму гуку рухавіка электрастанцыі, і цені на сцяне рабіліся то больш, то менш кантрастнымі. З прачыненых дзвярэй дасягалі неакрэсленыя, прыцішаныя галасы.

За высокім фігурным акном мансарды клубіўся падсвечаны знізу туман. Яго пульхкія пратуберанцы часам уздымаліся да самага шкла. Туман выдаваў мне аблокамі, пад якімі недзе далёка ўнізе зямля, і таму недарэчнай здавалася голая, без лістоты галінка, што вытыркалася з белі і лёгка пагойдвалася перад самымі шыбамі. Мяне раптам скаланула ад холаду.

— Што, мерзнеш? — спачувальна спытаў Сак.

— Не. Раптам як холадам працяла, і ўсё.

— У нашай вёсцы кажуць, што так бывае, калі нехта па тваёй уласнай магіле праходзіць. Скажы дзякуй, бо прайшоў, а калі б сеў адпачываць, то ўвесь час і калаціўся б, небарака. Вось я нешта спрэс мерзну, а камін, здаецца, яшчэ цёплы.

— Чакайце,— Гражына адкінула з ілба валасы,— з думкі саб'яце. Усё ўспомніла, што за чым ішло. Я наогул не переношу лазню, нават без парыльні, лепш за душ нічога няма — нязменна чыстая вада. А лазня, яна горш за ванную. Задушлівая пара, і бракуе павет-

ра. Я пачынаю задыхацца. Пасля басейна сталася лягчэй. Я пайшла апранацца. За мной выйшла Тэрэза Маршанская, яна здавалася раззлаванай і спытала мяне, чаго так рана сыходзім. Я адказала, што ў мяне проста забалела ад гарачыні галава. Яна ўзялася правесці.

Маршанская мне прапанавала фен, але я адмовілася. Валасы, калі сохнуць самі сабой, заўсёды набываюць натуральныя формы, а ўсе гэтыя штучныя ўчасанні я не пераношу. Яна прынесла фен да мяне і папрасіла ўкласці ёй валасы. За гэтым заняткам нас і заспеў Кяльміцкас, бо дзверы на калідор мы не зачынялі. Ён быў засмучоны і сказаў, што Даўгалевіч зноў зашмат п'е і, відаць, са святочнай вячэрай нічога не атрымаецца, што яму агідна глядзець, як ягоны сябра можа даходзіць да такога стану і як другія яму падліваюць. Я спыталася: «Няўжо і Марцін?» «Ды не,— адказаў Кяльміцкас,— гэтыя двое». Мне сталася прыкра чуць такія размовы напярэдадні святочнай вячэры, і я прапанавала сысці ў гасцёўню, згуляць у карты. Тэрэза пагадзілася.

За сталом не хапала партнёраў. Мы з Тэрэзай расклалі пасьянс. Потым з'явіўся Марцін, і мы распісалі вясковы віст. Толькі згулялі першы кон, як з лазні выйшаў Маршанскі, ён быў трохі на падпітку але трымаўся салідна. Давялося дапісваць яшчэ адну графу і пачынаць гульню зноў. Мне шанцавала, і таму, калі пачаліся каны рэваншу, я нават перастала сачыць за картамі на руках, адно глядзела, каб трапіць у масць, я і так пайшла ў адрыў, у астранамічныя плюсы. Астатнія ж нерваваліся з-за картаў, сварыліся.

Дзверы ў калідор былі адчынены на дзве паловы, я сядзела насупраць іх. У канцы добра праглядаліся дзверы лазні і пачатак сходаў на мансарду. Я пазірала туды раз-пораз — усё чакала, калі выйдзе Даў-

галевіч. Нарэшце дзверы адчыніліся, і з іх неяк бокам выйшаў ён у сваім шыкоўным усходнім халаце, на галаве абы-як накручаны ручнік. Ён відавочна быў на падпітку і ўсё прыкладаў да твару мокры канец ручніка.

Я заглядзелася і затрымала ход. Усе азірнуліся. Даўгалевіч трохі пахістаўся і ўсё так жа бокам стаў узнімацца сходамі на мансарду. Я падумала, што ён пайшоў пераапранацца да вячэры. Але праз нейкіх паўхвіліны ён з бутэлькай віна ў руцэ збег сходамі. Адразу ж пачуўся ваш голас — нешта наконт таго, што піць болей не варта.

Вы выйшлі на калідор з адабранай у Даўгалевіча бутэлькай і далучыліся да нас. Вы запэўнілі: усё ў парадку — Даўгалевіч абяцаў прыняць халодны душ, каб працверазіцца і выйсці хвілін праз пяць. Мы дагулялі партыю і пайшлі з гасцёўні, засталіся толькі вы з Марцінам. Ён прычыніў дзверы. Загучалі фісгармонія і спеў.

Мы падняліся на мансарду. Тэрэза Маршанская зайшла да мяне і прапанавала пайсці на шпацыр удзвюх. Я адмовілася, бо ў мяне яшчэ былі вільготныя валасы і я баялася прастудзіцца. Тады яна, відаць, пакрыўдзілася і пайшла, але праз хвіліну вярнулася ўжо апранутая і папрасіла мяне, калі Маршанскі будзе потым пытацца, сказаць, што я хадзіла разам з ёй, бо той не хоча яе адпускаць саму,— Гражына азірнулася на мяне.— Відаць, не варта было мне гэтага казаць, але не думаю, каб тут была якая сувязь з забойствам, не прасіла б яна так лабаво, але ж хто ведаў, што здарыцца такое. Можа, гэтая звестка чым дапаможа, выцягне за сабой нейкія другія, не ведаю.

Я замкнула пакой з сярэдзіны, каб удаць, нібыта пайшла разам з Маршанскай, згасіла святло і легла адпачываць. Аднастайна, як катрынка, грала фісгар-

монія, і гучаў спеў. З-за дзвярэй я пачула ўпэўненыя крокі — нехта ішоў на ніз, неўзабаве — тыя ж крокі наверх, шчоўкнуў ключ. Потым нехта прабег калідорам на ніз, а потым мне падаўся нейкі шолах, я наслухалася, на калідоры нехта крадком — ледзь чутна шорх, шорх і стаіўся перад маімі дзвярыма, я спыніла дыханне. Клямка бязгучна павярнулася і стала на месца. А потым ізноў — шорх, шорх — аддаліўся, недзе ледзь чутна зачыніліся дзверы.

Я думала спачатку, што гэта ты, Марцін, але ж пачула музыку і зразумела, што ты не адыходзіў ад клавішаў. Потым я падумала: гэта Маршанскі вырашыў спраўдзіць, ці пайшла я з ягонай жонкай, відаць, так яно і было, але ўсё адно мне сталася страшна, я падціснула пад сябе ногі і стаілася на канапе.

Гэтая выспа, ноч, туман, грукат электрастанцыі нервавалі мяне, я ад самага пачатку стала тут баяцца за сябе, за іншых.

Я ляжала, і тут зноў ледзь чутныя крокі, толькі ўжо другія, і лёгкі шчаўчок у філёнгу. «Гражына!» — прагучаў шэпт. Я пазнала голас, адамкнула, да мяне зайшла Маршанская, яна зноў была раззлаваная, але гэтым разам не на мяне. Яна відавочна змерзла. Я прапанавала ёй, каб не заўважыў муж, распрануцца ў мяне і пайсці ў гасцёўню выпіць келішак каньяку.

Астатняе адбывалася ў вас на вачах. Калі пачула крык і ўсе кінуліся ў лазню, я нібыта не зразумела, не асэнсавала, засталася сядзець, а потым успомніла пра дзённік і пабегла ў кабінет. На стале было пуста, я павыцягвала шуфляды і стала шукаць там. Пасля з'явіліся вы і Марцін. Вось на разе і ўсё.

Гражына змоўкла і пачала глядзець у акно, паверх Сакавай галавы.

— Добра,— Сак падаўся наперад,— каго ты, уласна, падазраеш?

— Асабіста нікога. Хоць, як мне здаецца, у кожнага маглі быць свае матывы, але я ведаю ўсіх вельмі мала, каб рабіць такія высновы.

— Добра, я трошкі змяню пытанне: ці заўважыла ты за кім адхіленні ў адносінах з Даўгалевічам?

Гражына хітнула галавой.

— Пачнём з таго, што я не ведаю, якія адносіны ў іх былі раней, але ж не, адхіленняў не заўважыла. Бачыла, як некаторыя сварыліся з ім на семінары — той жа Маршанскі і Тэрэза, як нешта з крыкам даводзіў яму Кяльміцкас, але ж сварыцца нармальна, як і смяяцца разам. З-за гэтага не забіваюць. Я мала ведаю вас усіх, каб рабіць высновы.

— Дзякуй, Гражына, можаш ісці, пакліч Маршанскую, няхай счакае пяць хвілін і падымецца.

Гражына ўзялася за клямку, як Сак раптоўна спыніў яе:

— Адно пытанне — дзе была твая торбачка, калі мы заспелі цябе ў кабінеце?

— Заставалася вісець на крэсле ў зале,— Гражына нават не азірнулася і выйшла на калідор.

— Так,— Сак заплюшчыў вочы,— пазнач, што яна магла пайсці і забіць на адцінку часу паміж адыходам Тэрэзы на шпацыр і яе прыходам. Даволі падазрона — легчы ў пакоі, замкнуць дзверы і ўдаваць уласную адсутнасць, аднак гэта мог быць і ход з боку Тэрэзы — падставіць Гражыну пад падазрэнне. Адно, што можа трохі праясніць, калі хто з дваіх — або Маршанскі, або Кяльміцкас — прызнаецца, што ён краTаў клямку ў яе пакоі, і растлумачыць, чаму вяртаўся крадком.

— Аднак калі Гражына гаворыць праўду, а той, хто хацеў да яе зайсці — забойца, ён наўрад ці прызнаецца. Ты, здаецца, шукаеш не ў тым кірунку. Варта разабрацца ў матывах. Нашто той жа Гражыне было забіваць дзядзьку Вадзіміра?

— Разумееш,— Сак сашчапіў пальцы і захрабусцеў суглобамі.— Можна мець дзесяць матываў для забойства і не забіць. Шмат даў бы дзённік, каб яго знайсці, у плане тых жа матываў, але канчаткова прывесці да мэты нас могуць толькі факты, учынкі. Адна справа жадаць, другая — зрабіць. Нешта мне не падабаецца вашая версія з каханнем, лепш раскажы праўду, і здымем яе.

— Баюся, сказанае мной толькі падмацуе тваю падазронасць,— я адчуваў сябе няўтульна за масіўным секрэтэрам, хаця мой занятак пасаваў да яго выдатна.— Нашае каханне лухта — не было нават лёгкага флірту. Гражына кахала Даўгалевіча і ўпрасіла мяне паехаць сюды разам, а каб ніхто не здагадаўся пра сапраўдны матыў, мне давялося ўдаваць закаханага. Ты ведаеш, я да яе не ў прэтэнзіі.

— Так,— Сак загнуў палец,— ад кахання да нянавісці якая адлегласць?

— Думай як хочаш,— я сцепануў плячыма,— мне асабіста ўсё адно, што Гражына, што Тэрэза, без розніцы.

Сак падняў угору палец:

— Чуеш? Ідзе.

Тэрэза зайшла няспешна, падсунула крэсла бліжэй да каміна і села. На Сака яна глядзела з лёгкай пагардай.

— Выбачай, Тэрэза, але колькі табе год?

Яна павярнулася да мяне.

— Лепш буду расказваць вам, Марцін, і лепей вы пытайцеся, так будзе лягчэй. Мне Вадзімір расказваў пра вас. Гэтая дзяўчынка, відаць, ужо абмовілася пра мой начны шпацыр, ды я сама не збіралася рабіць з яго таямніцы. Вы, пэўна, ведаеце, якія адносіны лучылі мяне з Вадзімірам?

— Збольшага,— я адклаў ручку і перасеў, каб лепей бачыць Тэрэзу.— Толькі творы Даўгалевіча, чут-

кі і плёткі не лепшыя крыніцы ў нашай сітуацыі. Мо раскажаце самі?

— Мы вучыліся разам. Я, Вадзімір і Кяльміцкас, на адным курсе. Дваццаць пяць гадоў таму. Сак паступіў пазней, мы ўжо канчалі вучобу. Мы сябравалі, дакладней, сябраваў Вадзімір з Эдмундасам, а я закахалася ў Даўгалевіча і ўвесь час набівалася да іх у кампанію, гэта было не цяжка, бо я і Вадзімір былі адзіныя беларусы на ўвесь курс, у чужым горадзе зямляцтва да нечага абавязвае.

Праз месяц Вадзімір прызнаўся мне ў каханні, і з таго часу мы былі разам. З Эдмундасам яны пастаянна сварыліся на гістарычнай глебе. Вадзімір усё даводзіў, што Кяльміцкас фальсіфікатар — крадзе беларускіх нацыянальных герояў і перарабляе іх на літоўцаў, а самае жахлівае, робіць гэта таленавіта. Эдмундас жа пярэчыў, нібыта гэта мы, беларусы, яшчэ раней прывулашчылі літоўскую гісторыю і ён толькі аднаўляе справядлівасць.

Аднаго разу яны нават пабіліся, з-за аповесці. Узялі адзін і той жа сюжэт, каб паглядзець, хто з іх лепей напіша. Не ведаю, якая была зачэпка, але ж калі я зайшла да іх у пакой — Эдмундас зацята біў Вадзіміра. Эдмундас біў, а той чамусьці не бараніўся. На іх было жахліва глядзець. Цэлы месяц яны не размаўлялі паміж сабой, але я іх урэшце пamірыла. Пасля яны паводзілі сябе больш талерантна. Толькі ўсё адно іх спрэчкі часам пераходзілі ў крык. Гэта здаралася і апошнім часам.

Пасля заканчэння вучобы мы ўсе раз'ехаліся. Эдмундас у Коўна, Вадзімір у Менск, а я ў Гародню. Мы адпісвалі адно аднаму лісты, але раптам Вадзімір некуды знік. Я званіла яму ў рэдакцыю, але там ніхто нічога не ведаў дакладна — не то захварэў, не то з'ехаў. Я падалася ў Менск. Нарэшце праз агульных сяброў даведалася — у Вадзіміра запой.

З трэцяга заходу, раней ён проста не адчыняў мне, ледзь дагрукалася ў кватэру. Я не ўшчувала яго, але ён сам абяцаў, што кіне піць. Толькі зранку зноў сядзеў на кухні і піў гарэлку, мы пасварыліся, і я з'ехала.

Праз месяц ён сам завітаў да мяне. Мы не згадвалі пра апошнюю сустрэчу. На развітанне, у аэрапорце, ён раптам сказаў, што жэніцца на маёй менскай сяброўцы — Марыі Маршанскай. Пачаў тлумачыць, што пісьменнік не можа дазволіць сабе раскошу ажаніцца з каханай. Што кожная жаніцьба — смерць для пачуццяў, што не хоча зрабіць мяне няшчаснай, бо ніколі не зможа кінуць піць. На мяне як якое здранцвенне найшло, я згодна ківала галавой і прасіла яго не хвалявацца. Ён умеў прымусіць іншых зрабіць так, як хацеў сам.

За ноч мая апатыя змянілася нейкай бессэнсоўнай дзейнасцю. Я нейкім цудам здолела за два тыдні змяніць сваю аднапакаёўку ў Гародні на пакой у Менску, знайшла працу. Мне ўвесь час здавалася, што калі я не буду побач з Вадзімірам, нешта здарыцца. Я ўспомніла, як яшчэ да паступлення ў інстытут да мяне заляцаўся брат Марыі — Сямён Маршанскі, і аднавіла нашае знаёмства.

Неўзабаве ён зрабіў прапанову — ажаніцца. Я пагадзілася, з'явіўся шанец легальна бываць у Даўгалевіча на правах сваячкі.

Пра сваё рашэнне мы і паведамілі Вадзіміру на ягоным з Марыяй вяселлі. Пачаўся скандал, і Даўгалевіч зноў зайшоў у запой. Але ж скора ўсё ўсталявалася.

Мы з мужам нярэдка бывалі ў Вадзіміра, і я радавалася кожнай сустрэчы.

Нашыя адносіны набылі сапраўды ідэальны характар, бо мы нічога не былі павінны адно аднаму. Але ж Вадзіміра пастаянна спойвалі сябры, тыя, што зайз-

дросцілі ягонаму таленту. Самі яны пілі адзін вечар і назаўтра адно пакутавалі ад галаўнога болю, а Вадзімір зрываўся на тыдзень, на месяц і не мог спыніцца.

Тады ён часам яшчэ стрымліваў сябе і пісаў паміж запоямі, пісаў так, як нікому з нас не дадзена, але пасля Марынай смерці, два гады таму, пайшоў у разнос. Зноў з'явіліся старыя сябры, і ён працягваў співацца, кінуў пісаць.

Ні я, ні мой муж ужо не мелі на яго ўплыву. З Сямёна ён увесь час здзекаваўся за тое, што піша па-расейску. Мы і на гэты семінар паехалі, і на гэтую выспу, каб яшчэ раз пагаварыць з Вадзімірам, пераканаць яго кінуць піць і вярнуцца да творчасці. Але пагаварыць не паспелі.— Тэрэза Маршанская раптоўна змоўкла і прыкрыла рукой вочы.

— Выбачайце,— мне ўсё здавалася, што я кажу недастаткова мякка ў гэтай сітуацыі,— вы выходзілі сёння на шпацыр, каб яшчэ раз сустрэцца з Даўгалевічам?

— Так,— Маршанская не адняла рукі ад вачэй,— я толькі не хацела, каб муж ведаў пра нашую сустрэчу, але цяпер усё адно. Таму і папрасіла Гражыну сказаць, нібыта яна пайшла са мной.

Я спачатку хацела зайсці ў лазню, бо ведала — Вадзімір застаўся там адзін, але перадумала: нехта мог заспець нас і сапсаваць размову.

На двары быў шчыльны туман, за пару крокаў ад сябе я нічога не бачыла, даводзілася ўсцяж трымацца за сцены.

Я падышла да акна з боку возера і пагрукалася. Святло у лазні яшчэ гарэла, але ніхто не адказваў. Я паспрабавала папхнуць шыбу, аднак без вынікаў. Не хацелася падымаць шум. Я зайшла да другога акна. Там шыба паддалася адразу. Праглядаўся толькі басейн, лавы стаялі пад акном, і не было магчымасці за-

зірнуць усярэдзіну. «Вадзімір!» — паклікала я, ён не адказаў. Раптам пачуліся крокі ў прылазніку, і я хуценька пацягнула шыбу на сябе, але акно шчыльна не зачынілася. Я адразу ж вярнулася ў дом і зайшла да Гражыны.

— Чакайце,— спыніў я,— нож ляжаў на дне басейна?

— Нож? — Тэрэза намыслілася, завагалася.— Здаецца, не, я б адразу заўважыла, такія нестасоўныя рэчы кідаюцца ў вочы.

Не, нажа не было. Я яшчэ ўзіралася ў люстэрка вады, шукала адбітак нябачнай мне паловы лазні. Але не паспела згледзець, нехта ўвайшоў у лазню, і я зачыніла акно.

— Кажаце, што нехта ўвайшоў у лазню, вы не заўважылі хто? Можа, гэта быў Даўгалевіч? — я паспрабаваў запытацца як мага больш абыякавым тонам.

— Не,— паспешліва адказала Тэрэза,— толькі чула, як нехта зайшоў у прылазнік, там жа яшчэ адныя дзверы, я не дачакалася гэтага моманту.

— А вы адразу ж вярнуліся ў дом ці чакалі, покуль гэты нехта пойдзе?

— Адразу, наколькі гэта магчыма зрабіць у суцэльным тумане, хвіліны праз дзве-тры, не болей.

— Можа, гэта дзядзька Вадзімір адчыніў дзверы ў прылазнік, таму і не чуў вас?

— Можа, так, можа, не.

— Гражына казала, што вы распрануліся ў яе і разам з ёй сышлі ў гасцёўню. Вы заходзілі да сябе ў пакой?

— Я дагэтуль там не была.

— Ты падазраеш каго-небудзь? — нарэшце ўключыўся ў размову Сак.

— Нікога, мне ўсё здаецца, гэта зрабіў нехта іншы — прыплыў на чоўне, забіў і ўцёк, а мы тут дар-

ма губляем час. Няўжо адсюль ніяк нельга трапіць на бераг?

— На жаль, нельга,— сказаў я,— застаецца чакаць і разбірацца самім.

— Шкада,— Тэрэза ўстала,— я пайду, здаецца, усё.

— Хвілінку,— Сак таксама ўстаў,— успомні, калі мы з Марцінам кінуліся з лазні ў кабінет шукаць Гражыну і потым вярнуліся ў гасцёўню, ці вісела на крэсле Гражыніна торбачка?

— Не памятаю, мне было не да таго.

Я хацеў спытаць, ці заходзіла Гражына ў гасцёўню перад тым, як выйсці на вуліцу, але Сак апярэдзіў мяне:

— Дзякуй за размову, пакліч, будзь ласкава, Кяльміцкаса, адно хай трошкі счакае.

— Калі ласка,— Тэрэза з палёгкай уздыхнула і выйшла.

— Як мяркуеш,— спытаў Сак,— яна казала праўду?

— Праўду, але не ўсю, здаецца, яна ведае больш. Адно акно ў лазні і сапраўды няшчыльна зачынена, я глядзеў. Так зачыняць з сярэдзіны не сталі б. Дастаткова было лёгка прыціснуць рукой, шыба добра заходзіла, але калі цягнуць за раму да сябе з вуліцы, то там няма за што ўхапіцца. А другое акно было забіта цвіком, апісанне супадае з яе словамі.

— Пачакай тут, пайду пераканаюся, ідаць з таго акна дзверы ў прылазнік ці не. Я скора,— Сак выбег з пакоя.

Калі Тэрэза кажа праўду і кажа, што ў басейне не было нажа, пачаў разважаць я, то застаецца адзін варыянт: той, хто заходзіў у прылазнік, і ёсць забойца. Даўгалевіч заснуў. Нож у сэрца, крок назад, нож паляцеў у басейн, потым крадком па сходах, пакратаў

клямку — ці ў пакоі Гражына, і да сябе ў пакой. Але нашто кратаць? І нашто забіваць? Кяльміцкас ці Маршанскі?

А можа, і Тэрэза? Зайшла ў лазню, забіла, прачыніла акно, каб потым ускосна давесці, нібыта была на дварэ пад час забойства. У Гражыны пачала ўдаваць, што змерзла, каб не кідалася ў вочы, як калоцяцца ў яе рукі. Тады становіцца на месца клямка. Тэрэза падкрадаецца да дзвярэй, кратае клямку, чакае і потым шчоўкае ў філёнгу: «Гражына». Вось і гатовы міфічны забойца, які прайшоў калідорам і схаваўся ў сваім пакоі. Да таго ж увязана па часе з тым, хто нібыта заходзіў у прылазнік. Адно незразумела — за што Тэрэза магла забіць Даўгалевіча?

За жаніцьбу на Марыі Маршанскай? Лухта — забіла б год дваццаць таму, і не яго, а Марыю. Можа, яна прапанавала ажаніцца цяпер, а ён адмовіўся? Але, відаць, такая размова ў іх ужо адбылася значна раней — ледзь не адразу пасля Марыінай смерці, а не праз два гады. Вось тут бы і прыдаўся дзённік. Калі яго сапраўды ўзяла Тэрэза, то яна не будзе знішчаць — рэліквія вялікага кахання. Хутчэй грунтоўна схавае. Але чаму адразу зайшла да Гражыны, а потым увесь час была паміж людзей. Ды і не можа літаратар нішчыць чужы рукапіс — прафесійнае. Але калі літаратар — жанчына?

А калі пракруціць варыянт з Гражынай? Ад яе сышла Тэрэза, Гражына ўзяла нож, забіла Даўгалевіча, а каб мець тлумачэнне на выпадак, калі б хто спрабаваў да яе ўвайсці за гэты час, прыдумвае гісторыю з клямкай і замкнёным пакоем.

Тэрэза зачыняе акно, а з прылазніка заходзіць Гражына з нажом, забівае і паспявае вярнуцца да Тэрэзінага прыходу. Але зноў — з-за чаго забіваць? Каб Даўгалевіч нікому не расказаў, што аўтограф

верша не ягоны твор? Калі яна выдумала такі фінт з вершам — то кахала дзядзьку Вадзіміра, напэўна, а значыцца, не магла забіць. І наадварот. Ды ўжо, ва ўсялякім разе, не расказвала б мне аб сваіх планах.

Аднак Сак злавіў яе на дзіўным учынку ў кабінеце. Гэта довад «за» і «супраць» — яна дзесяць разоў магла ўкрасці гэты дзённік паміж тым, як забіла і вярнулася да сябе. Да таго ж Даўгалевіч нічога пра яе, відаць, у дзённік і не запісваў. Яны знаёмыя не так даўно, а аўтограф ён зрабіў і адразу пайшоў у лазню. За стол болей, відаць, не садзіўся. Аўтограф верша — апошняе напісанае ягонай рукой.

Не супадае. Гражыне на карысць, каб быў дзённік, там абавязкова знойдуцца падставы вінаваціць каго іншага. Адно толькі — калі Даўгалевіч, моцна п'яны, падаўся з лазні, зайшоў у кабінет, зрабіў запіс аб тым, як мы з Гражынай былі ў яго і прасілі аўтограф, узяў бутэльку віна і вярнуўся. А Гражына зайшла ў кабінет, прачытала запіс, спаліла дзённік у гэтым каміне, а потым забіла Даўгалевіча, каб нікому не паспеў расказаць. Толькі як яна здолела даведацца аб запісе, калі той не быў яшчэ зроблены, загадзя ўкрала нож і разрадзіла акумулятар рацыі?

Не ведаю, да чаго дайшлі б мае развагі, але ў кабінет вярнуўся Сак, ён цяжка дыхаў:

— Ведаеш, з таго акна цудоўна відаць дзверы ў прылазнік, праўда, зазірнуць і ўбачыць лаву, на якой сядзеў Даўгалевіч, практычна немагчыма — трэба залезці на цокаль і ўсунуць галаву ў акно. Але галоўнае — яна зманіла наконт дзвярэй і хутчэй за ўсё дачакалася, пакуль забойца зайшоў у лазню. Нават пры зачыненым акне можна разгледзець праз шкло, што адбываецца перад дзвярыма. Калі яна бачыла забойцу, то ёй ёсць сэнс хаваць гэта ад

нас у адным толькі выпадку: калі забойца — Маршанскі!

— А можа, яна сапраўды не паспела заўважыць, хто зайшоў?

— Жанчыны вельмі цікаўныя,— Сак сеў на канапу,— хаця, можа, я і памыляюся ў Тэрэзе, паслухаем Кяльміцкаса, яго таксама нельга выключаць з ліку падазроных.

— Не забывайся — шкло ў лазні было запатнелае. Як тут у нас,— я накрэсліў пальцам на шыбе празрыстую літару «Н».

— «Эн» — што гэта? «Нічога»? «Ноч»? — Сак прымружыў вочы.

— Проста «Эн» — «нехта невядомы»,— а ў паветры дакрэсліў лацінкаю «Hrazyna» і дадаў амаль бязгучна: — Яна адзіная, хто раскажа мне ўсё, як было на самой справе. Уголас прапанаваў: — Можа, лепш спачатку паслухаць Маршанскага?

— Не,— Сак хітнуў галавой,— хай ён будзе апошнім.

На калідоры пачуліся ўпэўненыя крокі. Нават дыван не мог іх прыцішыць. У кабінет зайшоў Кяльміцкас і адразу ж рашуча сеў у крэсла.

— Першы раз чую настолькі ўпэўненыя крокі ў хаце, звычайна так ходзяць ва ўстановах,— я выцягнуў новы аркуш з шуфляды і накрыў ім папярэдні — спісаны дашчэнту.

— Гэта добра ці блага? — Кяльміцкас хутка павярнуўся да мяне.

— Гэта проста цікава, вось і ўсё.

— Пішы,— Сак надаў свайму твару звышсур'ёзны выгляд. — Эдмундас Кяльміцкас. 1934 года нараджэння, нацыянальнасць — літовец. Занятак — пісьменнік, аўтар гістарычных раманаў. Пазнаёміўся з Даўгалевічам у 1958 годзе на першым курсе Літінстытута.

— Хвілінку,— Кяльміцкас прыўзняў руку,— я ведаў Вадзіміра раней на два гады. Відаць, будзе лепш, калі я раскажу сам. А вы толькі ўдакладніце дэталі.

Пазнаёміўся — не зусім дакладнае слова — сутыкнуўся. Было тое ў 1956 годзе. На фальклорнай практыцы. Я прыехаў з экспедыцыяй Вільнюскага, ці, як памылкова прынята казаць у вас, Віленскага універсітэта ў літоўска-беларускае памежжа запісваць паданні; песні, не вам, літаратарам, мне гэта тлумачыць.

Дакладна назву вёскі я зараз не прыгадаю, нейкі балцкі тапонім, але на тэрыторыі вашае рэспублікі. Страшэнная глушэча. Там не было нават крамы, і, здаецца, ніхто з жыхароў не адчуваў у ёй патрэбы.

Туды ж прыехала і экспедыцыя вашага універсітэта. Так упершыню ўбачыў Даўгалевіча. Разам мы прабылі там недзе каля тыдня. Спрэс ішлі дажджы, і выбрацца з вёскі не было магчымасці ды і вялікага жадання. Ад няма чаго рабіць Вадзімір пачаў заляцацца да адной з нашых студэнтак. Але ж вы ведалі яго — што б ён ні рабіў — заўсёды імкнуўся абставіць нейкай таямніцай, рамантыкай. І таму замест звычайнага флірту пачаў разыгрываць вялікае каханне. Усё было б нічога, але дзяўчына ўзяла яго ўсур'ёз.

Я паспрабаваў пераканаць яе, давесці штучнасць ягоных пачуццяў — дарма. Тады я пераняў Вадзіміра на вуліцы і выказаў яму ўсё, што хацеў. Сустракацца з дзяўчынай ён не пакінуў. Была б яна звычайнай дурніцай, якіх хапае сярод студэнтак, мяне б гэта ўсё не кранала. Але яна была сапраўднай паэткай, яе ў тыя часы не друкавалі, не такія гэта вершы, каб друкаваць. Я чытаў іх у рукапісах, чуў, як чытала яна, і не мог спакойна глядзець на Даўгалевіча, які здзекаваўся з яе пачуццяў на вачах ва ўсіх нашых.

Для яго не было тады розніцы паміж ёй і першай

вясковай дзеўкай. Хто трапіўся пад гарачую руку, той і трапіўся. Ён не мог нават ацаніць яе паэзіі, бо не ведаў на той час мовы.

Даўгалевіч з'ехаў тады разам з экспедыцыяй нечакана. Яны звечара выпрасілі ў старшыні гусенічны трактар з прычэпам і на досвітку, паціху, нават не развіталіся, падаліся на станцыю.

А я застаўся суцяшаць дзяўчыну, якой Вадзімір няпэўна паабяцаў як-небудзь адпісаць ліст. Потым ён яшчэ наязджаў у Вільню раз у два, у тры месяцы, яны сустракаліся, і Даўгалевіч зноў тумаціў ёй галаву словамі аб вялікім ідэальным каханні. Гэта было няцяжка рабіць пры ягонай тагачаснай знешнасці ды схільнасці прыўкрашваць падзеі і ўласную біяграфію выдуманымі дэталямі, што-што, а пісьменнік ён сапраўды здольны.

Праз два гады я нечакана сустрэўся з ім на экзаменах у Літінстытуце, і мы зноў жа нечакана для сябе пасябравалі. Я ўзяў слова з Вадзіміра, што ён будзе пастаянна пісаць у Вільнюс, выбачайце, Вільню, бо помніў, як радавалася ягоная каханка, калі ў нашым коле заходзіла адна толькі размова аб ім. Вадзімір і пісаў ледзь не з прымусу, але досыць рэгулярна.

Толькі тут у нашу кампанію прыбілася Тэрэза. Даўгалевіч не ўтрымаўся. Калі тры лісты з Вільні засталіся без адказу, то чацвёрты прыйшоў да мяне. Там дапускалася што заўгодна — Даўгалевіч з'ехаў, захварэў, нават памёр, але ж толькі не кінуў яе. Я пайшоў з лістом да Вадзіміра, ён абяцаў у той жа дзень адказаць і нават пры мне сеў пісаць. Потым забег, памахаў перада мной тоўстай капэртай і знік.

Як пасля ён мне прызнаўся: там была напісана адна праўда і пра пачатак іхніх адносін, і пра тое, як я прымушаў яго апошніх паўгода пісаць лісты, пра тое, як ён сустрэў і пакахаў Тэрэзу, у канцы была просьба больш яму не пісаць.

Наступны ліст атрымаў я ад сваіх віленскіх сяброў. Яны паведамлялі, што адна нашая агульная знаёмая паэтка тыдзень таму спаліла ўсе свае рукапісы, ліставанне і ўжыла смяротную дозу соннага. Што пахаванне ўжо адбылося, але паведаміць мне тэлеграмай у час яны не паспелі, за што прасілі прабачэння.

Так і не засталося пасля яе аніводнай публікацыі. Дарэчы, большасць з вершаў, дадам, лепшых, у Вадзіміра — пераасэнсаванне яе паэзіі. Ён працягваў пісаць за яе. Гэта, дарэчы, і ўражвае ў іх: жаноцкі светапогляд, але пададзены мужчынам. Я, калі шчыра, такога больш ні ў кога не сустракаў.

Тэрэза вам, відаць, расказала, як я біў Даўгалевіча,— у той дзень да мяне прыйшоў ліст. Тэрэза не ведае, што стаіць за ўсім гэтым. Мы ёй зманілі, маўляў, не падзялілі гісторыі нашых народаў. Я баяўся, каб самагубства не паўтарылася ні з боку Тэрэзы, ні з боку Вадзіміра. Але ж абышлося. Толькі Вадзімір з таго часу пачаў піць.

Ён усё тлумачыў мне, што здзяйсняе гэтым самагубства, толькі расцягнутае ў часе, каб паспець адпакутаваць за свае грахі. Можа, мне падалося, але, відаць, ён сапраўды пакахаў тую дзяўчыну пасля яе смерці і толькі перанёс пачуцці на Тэрэзу. Таму, хутчэй за ўсё, і не ажаніўся з ёю. Бо не любіў сустракацца, затое любіў пісаць лісты, нават калі мы жылі з ёю ў адным інтэрнаце. Пісаў на самай справе не Тэрэзе, а нябожчыцы, якую кахаў.

Кяльміцкас змоўк, і ў кабінеце ўсталявалася маўчанне. Я не запісаў за ім ні слова, адно накрэсліў уніяцкі крыж на паўаркуша.

— Як было імя той дзяўчыны? — парушыў маўчанне Сак.

— Я знарок не згадаў яго,— Кяльміцкас скрыжаваў рукі,— для вас, беларусаў, яно нічога не азначае. Лепш давайце вернемся да справы, я толькі хацеў

даць тлумачэнні напружанасці ў сваіх з Вадзімірам адносінах, і толькі.

— Вы ўпэўнены, Маршанская не ведала пра гэта? — спытаў Сак.

— Хутчэй за ўсё. Інакш расказала б вам, ёй утойваць няма сэнсу.

— У адным выпадку ёсць — калі забіла яна сама. Але вернемся да нядаўніх падзей. Што вы рабілі самі і што заўважылі пасля таго, як мы скончылі гуляць у карты?

— Адразу ж пайшоў да сябе, хацеў пераапрануцца да вячэры. Дзверы я не зачыняў — сеў папаліць, пакой невялікі, а акно адчыняць — холадна. Спачатку прайшла Тэрэза ад Гражыны да сябе, потым выйшла ў марынарцы, яшчэ раз завітала да Гражыны і, відаць, пайшла на шпацыр. Я чуў, як спускалася сходамі і як зачыніліся ўваходныя дзверы.

Я дапаліў і пайшоў на кухню ўзяць перакусіць — не магу піць нашча. Калі вярнуўся, зазірнуў у прылазнік, хацеў пераканацца, ці выйшаў Даўгалевіч. Спачатку пагрукаў — ніхто не адказаў. Прачыніў дзверы — Вадзіміраў ручнік і халат ляжалі на лаўцы.

— У саму лазню вы не заходзілі? — Сак пільна глянуў Эдмундасу ў вочы.

— Не.

— І значыцца, не ведаеце, ці быў ён яшчэ жывы на той час?

— Не ведаю, бо адразу пайшоў да сябе і лёг адпачываць.

— Дзверы ў прылазнік за сабой вы зачынілі?

— Дзверы? — Эдмундас намысліўся. — Не, рукі ў мяне былі занятыя — келіх з мінералкай і канапка, дзверы я адчыніў плячом ды так і пакінуў.

— Гэта дакладна? — Сак, здавалася, знерухомеў.

— Дакладна. Яшчэ адно — я ляжаў, было ціха,

толькі фонам да гэтай цішыні гучалі фісгармоніі і спеў. Потым на мансардзе адчыніліся дзверы, нехта прабег на ніз, і літаральна праз хвіліну, відаць, той жа самы чалавек, больш не было каму, ледзь чутна пракраўся калідорам назад, каб не рыпенне масніц, то крокаў бы я не пачуў.

— Вы, калі вярталіся, то не краталі дзвярныя клямкі на мансардзе?

— Не, я ж казаў, рукі былі занятыя.

— І апошняе пытанне. Вы каго-небудзь падазраяце?

— Ува ўсіх можна знайсці матывы, але ж ні ў кога не было дастаткова важкіх падстаў да гэтага. Адна справа забіць у афекце, другая — планаваць забойства за некалькі дзён. Не, нікога канкрэтнага не падазраю. Гражыну не бяру ў рахубу, бо яе практычна не ведаю. Тут лепш спытацца ў Марціна.

Самыя напружаныя адносіны былі, відаць, у Даўгалевіча з Маршанскім, і бытавыя, і ў мастацтве. Маршанскі апошнім часам нечага дамагаўся ад Вадзіміра. Нейкія фінансавыя справы, як мне вядома. Але ж лепш пра гэта распытайце яго самога. Я паклічу,— Эдмундас устаў.

— Калі ласка,— Сак таксама ўстаў,— але ж няхай зойдзе не адразу. Добра?

— Добра,— Эдмундас выйшаў.

— Не вельмі я даю веры гэтай гісторыі,— Сак пачаў хадзіць па пакоі,— не такі быў чалавек дзядзька Вадзімір, не такі. Хто яшчэ можа пацвердзіць ягоныя словы — міфічныя віленскія сябры? Паспрабуй спытай у іх. Адно ясна — быў выпадак, калі Эдмундас ужо раз ледзь не забіў Даўгалевіча, але перашкодзіла Тэрэза, таму ён адносна і падстаўляе яе пад падазрэнне. Нібыта яна толькі цяпер даведалася пра ўсё і вырашыла адпомсціць. Ці не сам ён прыдумаў гэтую гісторыю і ўвёў у вушы Тэрэзе, каб

пасварыць іх з Даўгалевічам, але перабраў і тая забіла?

Наогул сяброўства Эдмундаса і Вадзіміра — дзіўная рэч. Яны ж не цярпелі адзін аднаго. Ім было цесна побач у нашай гісторыі. Але і той, і той — пісьменнікі з лепшых, гэта прымушала быць разам. Можа, зайздрасць? Бо ў Эдмундаса ніколі не было маральнай праваты ў спрэчках з Даўгалевічам, ён жа фальсіфікатар гісторыі, толькі Вадзімір мог абгрунтавана давесці гэта, бо яны займаліся аднымі і тымі ж праблемамі. Але чамусьці не рабіў гэтага публічна, а толькі ўшчуваў па-сяброўску. Можа, Эдмундас і шантажыраваў яго самагубствам той паэткі? Маўчанне за маўчанне. Бо адразу ж і распавёў нам з падрабязнасцямі — бачце, якая свалата ваш Даўгалевіч, дзяўчыну загубіў. Хто яго за язык цягнуў? Ён так упэўнена па чужым доме ходзіць, што яму і пасля забойства ў галаву не прыйдзе красціся.

— Ты лічыш, Тэрэза чула, як Эдмундас прачыніў дзверы ў лазню? Але ж быў нехта другі, хто пракраўся калідорам і пакратаў клямку ў Гражыніным пакоі, пра яго згадваюць усе.

— Ім мог быць той жа Эдмундас, першы раз пайшоў у разведку, упэўніўся, што ўсё нармальна, а другі раз крадком і ў лазню, з нажом у руцэ. Калі хто ўбачыць яго па дарозе назад, то будзе цяжка давесці: ішоў ён першы раз ці другі.

— Разумееш, Мікола,— з цяжкасцю вымавіў я імя, бо за вочы звык заўсёды называць яго Сакам,— мне бліжэй версія з Маршанскім, ён адзіны, хто думаў, што Гражына пайшла на двор, і таму, натуральна, захацеў у гэтым упэўніцца.

— Шчыра кажучы, я і сам схіляюся да гэтай думкі,— Сак уздыхнуў,— бо Тэрэза не магла не бачыць забойцу, калі той заходзіў у лазню. Але цішэй, чуеш, да нас падымаецца Маршанскі, садзіся за стол.

Сямён Маршанскі імпэтна зайшоў у кабінет, мінуў крэсла і сеў побач з Сакам на канапу. Было бачна, як ён хваляваўся: пастаянна то сціскаў, то расціскаў кулакі. Ягоны твар пакрывалі дробныя пацеркі поту, і колца чорных валасоў прыклеілася да вільготнага лба.

— Мікола,— шпарка пачаў ён,— я ведаю, хто забіў. Гэта Кяльміцкас, ён, толькі ён мог. Падумай сам. Тэрэза з Гражынай былі разам на вуліцы, яны не маглі. Вы з Марцінам таксама сядзелі разам. І толькі я ды Кяльміцкас заставаліся на мансардзе. Кожны паасобку. Ледзь жанчыны сышлі, я зачыніўся ў пакоі і нікуды не выходзіў, ляжаў, хацеў заснуць. І тады пачуў, як выйшаў на калідор Кяльміцкас, спусціўся на ніз і праз пару хвілін вярнуўся, а потым зноў — чую — выйшаў, але цяпер ціха, не так нахабна, як заўсёды, пракраўся туды і назад. Нашто было яму красціся? Ён, відаць, вам сказаў, што выходзіў адзін толькі раз, але ж я ведаю — двойчы выходзіў. Акрамя нас, нікога ж на мансардзе не было.

Сак выцягнуў цыгарэту з майго пачка і прыпаліў.

— Так ты, Сямён, дакладна ўвесь гэты час не выходзіў з пакоя?

— Вядома, не. Нашто мне па доме швэндацца?

— Шкада толькі, ніхто гэтага не зможа пацвердзіць.— Сак пусціў дым пад столь. — Я чуў, нібыта апошнім часам у цябе былі нейкія фінансавыя рахубы з Вадзімірам.

— Былі, пазычаў невялікія грошы, не першы ж раз, на дачу, ніяк не можам з Тэрэзай дабудаваць. Пазычаю — аддаю, аддаю — пазычаю.

— На дачу невялікіх грошай не пазычаюць,— упэўнена сказаў Сак.

Маршанскі як не пачуў яго:

— Мікола, падумай, ды хто з нашых, беларусаў, на яго руку мог узняць, што б там ні было: гро-

шы, каханне, помста. Ён жа для ўсіх нас перш за ўсё вялікі пісьменнік, гонар нацыі, і ўсе нашыя звары лухта ў параўнанні з тым. Адзіны, для каго Вадзімір быў проста чалавекам,— Кяльміцкас, яму без розніцы — ты, я ці ён, што яму да нашай культуры, ён жа літовец.

Сак гучна ляснуў далоняй па калене, Маршанскі адразу сціх.

— Ды і ты, Сямён, не беларус, ■ яшчэ і пішаш парасейску, цябе таксама культура нашая не абыходзіць. Хто б казаў, толькі не ты.

Маршанскі пачырванеў, рэзка ўстаў, сеў, сціснуў кулакі, зноў падхапіўся.

— Я сказаў, што ведаў, папярэдзіў — забойца Кяльміцкас, можаш думаць як хочаш. Усё адно не табе вырашаць, хто вінаваты, на гэта дзяржава ёсць,— ён сарваўся на крык і выбег з пакоя.

На нізе было ціха. Здавалася, мы, я і Сак адны не толькі ў доме, але наогул у свеце. Бо свет замыкаўся туманам за шклом, непранікальным ні для зроку, ні для нашых галасоў. Рытмічнае стракатанне электрастанцыі стварала ўражанне — дом вісіць, узважаны ў гэтым тумане, і адно ледзь чутна вібруе. Можна было адчыніць дзверы, выйсці на вуліцу, але нашто і куды? Сэнс рухаў, учынкаў знікаў за парогам, разняты туманам і цемрай.

Жыццё было толькі ў доме, але частку яго — лазню — ужо апанаваў туман, ён уліўся скрозь адчыненыя вокны, змяшаўся з парай над яшчэ цеплаватай вадой басейна і нават сачыўся скрозь шчыліны дзвярэй, незаўважна, спакваля паланіў дом і гасцей.

— Баліць,— Сак абхапіў галаву рукамі,— баліць. Бачыш, Марцін, сябры, сябры, а як пачнеш разбірацца, то кожны забіць мог. Колькі часу?

Я зірнуў на ўманціраваны ў секрэтэр масіўны гадзіннік.

— Чвэрць на трэцюю.

— Трэба адпачыць,— Сак расціраў скроні,— падумай, як прымусіць Тэрэзу сказаць праўду? І дзе падзеўся дзённік? Як яго не стае. Мы чулі толькі адзін бок, а ў самога ж Вадзіміра таксама былі нейкія меркаванні. Хаця б наконт лістоў з пагрозамі. Там павінны быць усе апошнія размовы з ім, хто і пра што. Але ж давядзецца абысціся без яго. Давай, Марцін, пойдзем на ніз, нас чакаюць.

У гасцёўні ярка гарэла святло, толькі ўсё адно яно выдавала нейкім нежывым з-за кантрастных нерухомых ценяў.

Гражына з Тэрэзай моўчкі сядзелі ля каміна і палілі. Кяльміцкас стаў спінай да нас і глядзеў у чорнае шкло акна. Адзін толькі Маршанскі сядзеў за сталом.

Сак спыніўся ў дзвярах.

— Панове, мы з Марцінам уважліва выслухалі ўсіх вас. Дзякую за шчырасць, з якой вы гаварылі. Але ж ёсць падставы думаць, што двое з вас сказалі не ўсю праўду. Да таго ж мне трэба яшчэ раз супаставіць усе паказанні, бо ў некаторых месцах яны розняцца, каб потым мэтанакіравана ўдакладніць дэталі. Таму ў мяне ёсць прапанова: зараз разысціся па пакоях, каб кожны сам-насам яшчэ раз узнавіў у памяці падзеі сённяшняга дня і ночы. Прапаную сабрацца тут, на нізе, праз гадзіну, а палове чацвёртай, і давесці справу да канца ўсім разам.

— Калі ты маеш на ўвазе мяне,— Тэрэза ўстала,— то я расказала ўсё, што ведала, мне ўспамінаць няма чаго.

Мы адзін за адным падняліся наверх.

Маршанскі адчыніў дзверы ў свой пакой і хацеў прапусціць наперад Тэрэзу.

— Выбачай,— сказала яна,— мне трэба пабыць

адной. Ты, Мікола, не супраць, калі я займу на гэты час Вадзіміраў кабінет? — звярнулася яна да Сака.

— Як табе лепш, так і рабі,— Сак сцепануў плячыма і падаўся да сябе.

Кяльміцкас стрымана кіўнуў нам і зачыніў дзверы. Мы з Гражынай засталіся адны ў калідоры.

— Мне трэба перамовіць з табою,— сказаў я.

— Не зараз,— Гражына паклала руку на клямку,— перад гэтым мне неабходна падумаць, пабыць сам-насам. Дзякуй, што не згадаў пра той аўтограф. Прыходзь праз паўгадзіны, пагаворым, спадзяюся, табе хопіць гэтага часу?

— Я спадзяюся таксама.

— Тады да сустрэчы,— Гражына паправіла на плячы сваю заўсёдную торбачку.

Я ляжаў на спіне і глядзеў на матава-жоўты шар свяцільніка. Ад доўгага ўзірання часам пачынала здавацца, што перада мною не столь, а падлога, што свяцільнікператварыўся ў яскравы паветраны шарык, які рваўся да мяне ўгару, а яго ўтрымліваў доўгі спіральны дрот. Відаць, сапраўды, я, як і ўсе людзі, не прызвычаены падоўгу глядзець угару. Свядомасці такое не пад сілу, і яна зноў зрабіла верх верхам, а дол долам. Вонкава не змянілася нічога. Тыя ж рэчы, на тых жа месцах, змянілася адчуванне, змянілася арыентацыя майго «я» ў прасторы, мае адносіны да ўсяго і тое, што прыцягвала мяне, пачынала адштурхоўваць.

Але адзін рух, і ўсё стала на звыклыя месцы — я сеў, выцягнуў перад сабою рукі і зірнуў на гадзіннік. Да прызначанага Гражынай часу заставалася дзесяць хвілін. Якраз выпаліць цыгарэту,— падумалася мне.

Я пацягнуўся па пачак і скінуў са стала запалкі. Тут нечакана згасла святло. Я прыслухаўся — не, электрастанцыя па-ранейшаму мерна гула, нават на-

бірала мацнейшыя абароты, відаць, электрычнасць адключылася ва ўсім доме. Генератар круціўся ўхаластую.

На калідоры асцярожна шчоўкнула клямка, і пачуўся сцішаны жаночы крык.

Я ўскочыў з ложка, кінуўся да дзвярэй, але не зарыентаваўся ў суцэльнай цемры і некалькі секунд абмацваў сцяну, нарэшце пад дзвярыма блiснула, я адшукаў клямку.

На калідоры мяне адразу асляпіла святло. З адчыненых у Гражынін пакой дзвярэй мне проста ў твар свяціў электрычны ліхтарык. Раптам сляпучы дыск зрабіў дугу і імкліва наблізіўся — ліхтар трапіў мне ў пераноссе, грымнуўся на падлогу і згас.

Закрычала Гражына. Пачуўся тупат. Заляскалі дзверы. Нехта сутыкнуўся са мной і адразу ж адскочыў назад:

— Хто тут?

Я пазнаў Кяльміцкаса па голасе.

— Гражына! — крыкнуў я і прыклаў руку да твару, адчуў пальцамі ліпкасць крыві.

— Здаецца, жывая,— сцішана пачулася з глыбіні пакоя.

— Што такое, чаму згасла святло? — пачуў зусім побач Сакаў голас, чыркнула запалка і высвеціла ягоны твар. Запалка наблізілася да мяне, я адняў руку і агледзеў акрываўленыя пальцы.

— Нармальна,— адзначыў Сак,— рухавік працуе, відаць, нехта адключыў аўтаматычны засцерагальнік, гэта на нізе, я ведаю дзе, пайшлі на кухню,— Сак глыбока ўздыхнуў. Запалка дагарэла, і ён чыркнуў новую.

На кухні, покуль Сак шукаў электрашчыток, я адкруціў кран. Зімная вада прыемна астуджвала разбіты нос, кроў хутка спынілася. Нарэшце пераключальнік шчоўкнуў; і зноў запалілася святло.

— Ты не паспеў заўважыць, хто там быў? — спытаў Сак, калі мы вярталіся на мансарду.

— Нават не зразумеў, што здарылася.

Усе стаялі на калідоры. Гражына прытулілася да шула і расцірала шыю рукою.

— Што канкрэтна здарылася? — Сак адсунуў убок Кяльміцкаса і падступіўся да Гражыны.

— Мяне душылі. Згасла святло, і адразу ж нехта ўварваўся да мяне. Я толькі бачыла ліхтарык, ён свяціў у вочы, сляпіў. Потым святло знікла, і нехта схапіў мяне за шыю, пачаў душыць. Потым, відаць, Марцін выйшаў на калідор. Тады я не разумела, што адбываецца, а гэты нехта кінуўся ўцякаць, я чула грукат, пасля мяне паклікаў Марцін.— Тут яна толькі заўважыла.— Чаму кроў на кашулі?

— Не страшна, яна ўласная. Саданулі ліхтаром у нос, я падбіў яго нагой. Пасыпалася шкло.

— Ты кажаш, нехта пачаў душыць.— Сак сцішыў голас.— Гэта быў мужчына?

— Мне так падалося. Выбачайце, мне блага, раскажу ўсё падрабязна потым,— Гражына ледзь бачна падміргнула мне і зачыніла дзверы.

— Яна сказала,— Кяльміцкас задумаўся,— святло згасла, і адразу ж нехта ўварваўся. Выбачайце, каб выключыць рубільнік на кухні і падняцца наверх, патрэбны час. Як быць з «адразу ж»?

— Вельмі проста,— я нахіліўся і падняў з дывана складзеную ў некалькі столак паперку, з якой вытыркаліся два разведзеныя на шырыню штэпсельнага раз'ёму канцы пруткa ад вялікай канцылярскай скрэпкі.— Бярэш і ўтыкаеш у разетку, тут жа, на калідоры. Замыканне — аўтамат на нізе выбівае.

— І мне яшчэ будуць даводзіць — злачынства зрабіла жанчына,— Тэрэза гучна зачыніла дзверы кабінета.

— Трымайся,— сказаў Сак і ўзяў у мяне паперку

з сагнутым прутком.— Збяромся на нізе, як прызначылі, а ты, хлопец,— зноў звярнуўся ён да мяне,— павартуй дзеўку, каб не паўтарылася.

Калі я застаўся на калідоры сам, то пагрукаўся да Гражыны.

— Заходзь, Марцін,— яна сядзела, падкурчыўшы пад сябе ногі на вузкай, што стаяла пад самым нізам скошанай столі, канапе. Я сеў на адзінае крэсла. У цесным пакоі мы апынуліся зусім побач.

— Пакажы шыю,— сказаў я.

Гражына адняла руку. Шыя як шыя, ні драпін, ні слядоў ад пальцаў.

— Нагледзеўся? — Гражына ўзяла і абкруцілася баа.— Ці павярнуцца? Са спіны тое ж самае.

— Кажаш, душылі?

— Не,— яна хітнула галавой,— нават не збіраліся. Ён, ці для дакладнасці яно, ужо ўцёк ці ўцякло, калі ты выйшаў на калідор. А да мяне нават пальцам ніхто не дакрануўся. Усё адбылося інтэлігентна. Асляпілі святлом, выхапілі з рук што трэба, і ўсё. Калі б не твой нос, можна было сказаць, абышліся шляхетна.

— Так што ж знікла?

— Не здагадаўся? Я думала, свядома ўкрываеш мяне, а ты па недасведчанасці.

— Я здагадваюся, толькі лепш раскажы сама.

— Што знікла? Што знікла? Даўгалевічаў дзённік, вось што. Думаеш, чаго я з гэтай торбачкай насілася, як дурніца? — Гражына злосна адсунула яе на самы край канапы.— Баялася, каб касметыку не пакралі? Там ляжаў дзённік, Даўгалевічаў, яшчэ дзесяць хвілін таму.

— Дзевяць,— я ўдакладніў па гадзінніку.

— Як хочаш. Калі ўсе кінуліся ад стала ў лазню, на мяне як азарэнне найшло, унутраны голас сказаў —ратуй дзённік. Я і пабегла наверх. Сшытак ляжаў на стале.

Раптам пачула — бягуць наверх. Нават не паспела зразумець, а рукі самі дзённік у торбачку, торбачку ў акно, дзякуй Богу, фортачка была адчыненая. Ледзь паспела адскочыць, тут убег ты з Сакам. Ён мяне тады каля возера і напалохаў, бо думала: забойца пацiху выйшаў, каб торбачку з дзённікам забраць, а саму ў возеры ўтапіць. Зручная сітуацыя была! Ты б сам усіх потым пераканаў — так, сама ўтапілася, з гора.

— А што там напісана?

— Я толькі чытаць пачала. На першай старонцы. Не было ж калі, хавалася. Там запісы за два дні да забойства пачынаюцца. Відаць, стары дзённік у Менску застаўся, а новы ён у Доме творчасці распачаў. Чытала пра нас з табою. Дакладней, пра цябе, мяне ён толькі раз узгадаў. Нібыта ты пішаш, як жывеш. Усе пішуць аб тым, як жывуць, а ты — як жывеш. Адчуваеш розніцу — аб тым і як?

— Ён памыляўся, наадварот, я жыву, як пішу. А больш нічога карыснага ты не вычытала?

— Не паспела, толькі прагартала. Сустракаюцца прозвішчы ўсіх нас і цэлы раздзел з Маршанскім, вельмі размашыстае прозвішча, адразу кідаецца ў вочы.

— З ліхтаром кідаецца ў вочы? — я крануў пераноссе.

— Думаеш, ён?

— А ты?

— Не ведаю, я ж не следчы і допыты не вяду, проста знаходжуся пад следствам.

— Але адно злачынства за табой ёсць — крадзеж рэчавых доказаў. Усё нібыта сыходзіцца, але ж не Маршанскага стыль, зашмат рамантыкі. Ён не так піша сваю крытыку, нічога лішняга, нічога звыш неабходнага і дастатковага. Можа, гучыць несамавіта, але такое ўражанне, што забойства здзейснена па сцэна-

рыі самога дзядзькі Вадзіміра. Туман, ноч, выспа, нож, крадзеж дзённіка, таемныя лісты, нават каханне ёсць.

— Я не крала, а ратавала. А за табой таксама адно злачынства,— Гражына зрабіла спробу ўсміхнуцца,— утойванне ад следства акалічнасцей.

— Ад следства? Я сам яго праводжу. Утойваю ад сябе? Нават калі б хацеў...

— Так ты не хочаш?

— Можаш запісаць на мой рахунак яшчэ адно злачынства: пра дзённік я таксама не раскажу.

— Проста так? І самому сабе таксама?

— Ты ж не раскажаш пра мае два злачынствы, змоўчыш за адно тваё.— Я нахіліўся і пацалаваў Гражыну ў вусны.

Яна адсунулася да сцяны.

— Гэта амаральна, зараз.

— Затое не самае жахлівае з таго, што дзеецца ў гэтым доме,— я паклаў ёй рукі на плечы.— Ну?

— Не магу зараз,— Гражына ўзяла мае далоні ў свае.

— Хачу пацалаваць, [illegible] не магу. Вось бачыш,— яна ўсперлася рукой на край канапы і дакранулася вуснамі да маіх.— Не магу. Добра, што нас ніхто зараз не бачыць, у мяне, відаць, страшэнна пакутлівы выраз твару.

Раптоўна шчоўкнула клямка, Гражына рванулася да сцяны.

У парозе стаяў Сак.

— Хлопцы,— сказаў ён,— хадзем на ніз, наўрад ці вы чакаеце пабачыць тое, што я вам пакажу. Хаця нехта ж гэта ўчыніў.

— Перапыніў на самым цікавым месцы,— я выйшаў следам за Сакам.

Святло гарэла ва ўсім доме, і, відаць, гасіць яго ніхто не збіраўся.

Сак спыніўся ў дзвярах гасцёўні, счакаў, покуль Гражына падыдзе, і тады рэзка расхінуў дзверы:

— На стол глядзіце, на стол.

На цёмным, у рэдкія белыя палосы абрусе ляжаў сшытак.

— Дзённік? — чамусьці ў мяне спыталася Гражына.

— Ён самы,— Сак жэстам запрасіў нас да стала.

— Адкуль ён тут? — Я адгарнуў першую старонку, дзённік пачынаўся наклеенай выняткай з газеты аб стане надвор'я, чырвоным алоўкам было падкрэслена: «На паўночным захадзе рэспублікі — туман».

— Сам хачу ведаць. Мо хто з вас растлумачыць?

Гражына незаўважна наступіла мне на нагу. Я пацiснуў плячыма.

— Забойца падкінуў,— Гражына зняла нагу,— спачатку ўкраў дзённік, потым прачытаў, выявіў, што нічога аб ім там няма, затое шмат памылковых версій і, каб падставіць іншых,— падкінуў. Я мяркую так.

— Даволі слушна, я і сам схіляюся да гэтай думкі,— Сак падсунуў дзённік да сябе.— Але можна паразважаць і ў іншым кірунку. Дзённік мог украсці не толькі забойца, адно з умовай — гэты нехта павінен быў ведаць аб смерці Даўгалевіча раней за астатніх, спужаўся, што абвінавацяць яго, і нікому пра гэта не сказаў, а на ўсялякі выпадак, перш чым аб забойстве даведаліся ўсе, вырашыў праглядзець дзённік. Далейшая схема — што і раней. Нічога там не знайшоў і цяпер падкінуў.

— Выбачай, Мікола,— сказаў я,— ты выпускаеш адзін момант. Хто душыў Гражыну і пабіў мне твар?

— Нічога не ўпускаю, наадварот, стараюся састыкаваць факты. Глядзіце: дзённік забраў выпадковы чалавек. Яшчэ да забойства. Можа, нават і Тэрэза, з цікаўнасці, каб пачытаць, злачынства невялікае, у рэшце рэшт, яны б з Вадзімірам потым паразуме-

ліся. Але потым, калі кожны ўчынак набыў пасля забойства іншы сэнс, засталося адно выйсце — прыхаваць дзённік. Сапраўдны забойца пачынае паляваць за ім, думае, што яго ўзяла ты, Гражына, і таму спрабуе цябе злёгку прыдушыць, каб ты аддала сшытак. Пасля гэтага здарэння Тэрэза вырашае падкінуць дзённік, каб не ствараць сітуацыі для наступнага забойства.

— Не стасуецца,— я паклаў руку на сшытак,— у такой сітуацыі забойца павінен ведаць — Гражына спазнілася забраць дзённік і трэба шукаць у іншых, а калі ён свядома пакінуў запісы на стале, то яму без розніцы, у каго яны зараз. Хутчэй за ўсё Гражына ведае нейкую акалічнасць, і забойца быў зацікаўлены знішчыць яе разам з ведамі ці проста ён так мяркуе.

— На самой справе і я прытрымліваюся такой думкі, нават ведаю дакладна, хто забіў, здагадваюся чаму. Зараз усе збяруцца тут, і я паспрабую давесці слушнасць сваіх меркаванняў. Дай Бог, каб у дзёніку знайшлося пацвярджэнне,— Сак разгарнуў сшытак і стаў чытаць, на момант узняў вочы.— Ты, Гражына, не хвалюйся, цябе я выкрасліў з чорнага спісу.

— А я з гэтай нагоды і не хвалявалася. Мне проста прыйшла ў галаву яшчэ адна версія забойства. Нехта хацеў проста напужаць Даўгалевіча, паздзекавацца з яго, падстаў, як бачыце, хапала. Спачатку даслаў ліст з пагрозай, украў нож, разрадзіў акумулятар радыёстанцыі, але ўсё гэта было не ўсур'ёз, на ўзроўні жарту, а нехта другі скарыстаў магчымасць і забіў. Жарт перарабіў на злачынства. Зрабіў першага сваім саўдзельнікам, давёў ягоную справу да лагічнага завяршэння. І калі мы будзем адкручваць падзеі з пазіцый логікі, то выйдзем на таго, хто дасылаў ліст, а забойца застанецца па-за ўвагай.

— Можа, і так,— прамармытаў заглыблены ў чытанне Сак,— можа, і не так. Ведаеце, тут адно ў адно цэлы раздзел пасуе да маіх разваг, я зразумеў, хто забіў, і змагу гэта давесці.

За дзвярыма пачуліся крокі, і ў гасцёўню ўвайшлі Кяльміцкас з Маршанскім.

— Вы заходзілі да Тэрэзы? — Сак паклаў дзённік на сярэдзіну стала.

— Так, яна зараз будзе,— Кяльміцкас адказаў не адразу, а паглядзеў на Маршанскага, але той моўчкі абышоў стол.

Неўзабаве з'явілася Тэрэза, здалёк макіяж яшчэ маскаваў пачырванелыя ад слёзаў вочы, але зблізку гэтага нельга было не заўважыць. Яна села побач з Кяльміцкасам.

Сак няспешна падняўся.

— Панове, калі я прыйшоў сюды, то на стале ўжо ляжаў гэты сшытак — дзённік Вадзіміра Даўгалевіча. Нехта з вас паклаў яго на гэтае месца перад маім прыходам. Зараз я не буду спыняцца на тым, хто і нашто яго сюды паклаў, дзе ён быў пасля таго, як знік з пісьмовага стала ў кабінеце. Гэта будзе ясна, калі я назаву імя забойцы, а вашыя сведчанні і змест дзённіка дазваляюць мне гэта зрабіць.

Сак на хвіліну замоўк. Тэрэза схіліла галаву. Маршанскі сціскаў у кулаках край абруса, нібыта збіраўся пацягнуць яго да сябе. Адзін толькі Кяльміцкас спакойна выцягнуў з кішэні цыгарэту, уставіў яе ў мундштук, прыпаліў. Пах араматызаванага тытуню нагадаў мне водар свечак на пахаванні.

— Панове,— Сак высока над галавой узняў сшытак,— тут Вадзімір згадаў пра ўсіх прысутных, перадаў размовы, што адбыліся сам-насам. Запісы ахопліваюць толькі два дні: семінар і наш прыезд на выспу. Сам Даўгалевіч не падазраваў нікога, ён не браў усур'ёз ліст з пагрозамі.

Я прачытаю апошні запіс, апошняе з напісанага ім, на гэтым дзённік канчаецца,— Сак перагарнуў сшытак і зачытаў гучным голасам, ад якога звінелі келіхі ў бары: «Некаму мала таго пекла, што існуе ў маёй душы вось ужо столькі гадоў, мала маіх пакут, ён хоча памножыць іх, прымусіць мяне баяцца смерці. Толькі дарма, хто пагражае, той не насмеліцца здзейсніць пагрозу. Звяліся людзі, здольныя забіць ворага, звяліся не толькі паміж маіх працаўнікаў, але, на жаль, і паміж сяброў. Мы развучыліся любіць, кахаць і ненавідзець па-сапраўднаму, мы можам толькі цалавацца з каляжанкай у абедзенны перапынак, дасылаць віншавальныя паштоўкі з пажаданнямі, брахаць з-за рога і пісаць ананімкі. Дзякуй Богу, што нас хапае хаця б на гэта».

Але вернемся да пачатку запісаў. Пасля разваг аб літаратуры і розных занатовак узнаўляецца першая размова сам-насам, якая адбылася ў яго з Тэрэзай Маршанскай, вось што напісана аб гэтым: «Сёння шпацыравалі з Тэрэзай. Мы не бачыліся некалькі дзён, за якія нічога не адбылося ні з ёй, ні са мной. Яна расказвала неабавязковыя гісторыі аб нашых знаёмых. Я, дзе трэба, усміхаўся, дзе трэба, спачувальна ківаў галавою. Карацей, мы абое ўдавалі, нібыта нас нічога не лучыць, акрамя гэтых гісторый. Калі мы спусціліся да ракі, Тэрэза раптам абарвала размову і пасур'ёзнела.

— Што здарылася? — спытаў я, хаця добра разумеў прычыну.

— Вадзімір,— сказала яна (людзі заўсёды, калі хочуць чаго-небудзь для сябе асабіста, пачынаюць называць другіх па імю).— Вадзімір, хочаш, я развядуся з Маршанскім, і мы ўвесь час будзем разам.

— Нашто?

— Ты ж не пішаш апошнім часам. Ты ўжо не кахаеш мяне.

— Кахаю, таму і не дазваляю табе развесціся.

— Кахаеш,— Тэрэза звузіла вочы,— я ведаю праўду, ты ніколі не кахаў мяне. Гэта твая бездапаможная жаласлівасць, ты ўсіх баішся пакрыўдзіць. Я ж ведаю цябе даўно. Ты калі пацалуеш дзеўку, то ўжо лічыш сябе абавязаным з ёй ажаніцца, не менш. Мне Эдмундас расказаў сёння. Твая жаласлівасць тычыцца ўсіх, толькі не мяне, нават нябожчыкаў, якім усё роўна, з кім ты зараз.

Я пачаў суцяшаць яе, сказаў, нібыта тую гісторыю сам прыдумаў і расказаў Эдмундасу, каб апраўдаць свой кепскі настрой пасля перапою, але перастараўся, і ён паверыў. Я папрасіў у Тэрэзы час, каб падумаць. Яна дала мне веры на адзін дзень. А на развітанне сказала:

— Калі ты не дасі згоды, я заб'ю цябе.

Самае цікавае, што сказала яна гэта звычайным тонам, як кажуць: «Добра, мы сустрэнемся заўтра».

Сак скончыў чытаць і глянуў на Тэрэзу.

— Спадзяюся, ніхто не ўзяў маю фразу ўсур'ёз? — яна так і не ўзняла галаву.

— Далей — болей,— працягваў Сак,— вось паслухайце, сустрэча з Кяльміцкасам:

«Мы сустрэліся з ім на сходах. Мы былі як на сцэне, перад вялікай залай сталовай. Толькі яшчэ ніхто не глядзеў на нас, пачалі мы з шэпту, але скончылі крыкам.

— Чаго ты нагаварыў Тэрэзе? — спытаў я даволі стрымана.

— Ты пра што? Я шмат гаварыў з ёй. Які момант расказаць?

— Мы ж дамовіліся з табой, не ні ў якія звады не ўцягваць,— ягонае нахабства пачынала злаваць мяне.

Так мы спрачаліся хвілін пяць усё грамчэй і грамчэй, дайшло да таго, што я схапіў Эдмундаса за каў-

нер і пачаў трэсці. Тут, дзякуй Богу, падаспелі людзі і разнялі нас».

— Хвілінку,— Эдмундас узняў руку,— па-першае, я сапраўды расказаў Тэрэзе гісторыю пра Вадзіміра, але выдуманую, можаце праверыць, хай яна раскажа яе. А па-другое, не Даўгалевіч ухапіў мяне за каўнер, а я яго. Каб людзі не падаспелі, не ведаю, чым і скончылася б. Я хацеў аднаго, каб ты, Тэрэза, перастала дамагацца Вадзіміра, яму і так не давалі спакойна жыць. Гэта твае дамаганні не давалі яму пісаць апошнім часам. Ён сам казаў мне: «Пасля сустрэч з Тэрэзай я нават і не спрабую садзіцца за рукапіс». А ты, калі не прыходзіла, то абавязкова званіла, і ён, каб пазбегнуць сустрэчы, напіваўся. Хаця позна гаварыць пра гэта, яго няма.

— Я не дачытаў,— Сак перагарнуў старонку,— тут яшчэ адзін сказ: «Перш чым мяне адцягнулі ад Эдмундаса, я паспеў сказаць, што напішу яшчэ артыкул пра тое, як ён фальсіфікуе гісторыю, хоць раз у жыцці ды паступлюся прынцыпамі — аддам яго не ў нашае, а ў саюзнае выданне, каб яго маглі прачытаць і ў Літве, хай пакруціцца».

— Так, сказаў гэтую фразу,— Эдмундас згасіў недапалак і схаваў мушттук. Такі артыкул ён збіраўся пісаць, колькі я яго ведаю. Намер нерэальны. Задуманая публікацыя без спасылак на гістарычныя крыніцы немагчымая. А мае літаратурныя высновы настолькі ж розняцца ад сапраўднай гісторыі, як і ягоныя. Так што напісаць такое — азначала б напісаць данос на самога сябе. Літаратура таму і не называецца гісторыяй ці навукай. Ён гэта цудоўна разумеў.

— Я яшчэ не раблю высноў,— Сак шукаў вачыма патрэбны кавалак тэксту,— проста цытую дзённік. А, вось, знайшоў, цяпер Маршанскі: «Нарэшце споўніў просьбу Маршанскага, шкада, не магу адмовіць з-за Тэрэзы, зняў з ашчаднай кніжкі сто тысяч грошай і

пазычыў яму на няпэўны тэрмін. Цікава: ён прасіў нічога не казаць пра гэта жонцы. І яшчэ цікавейшае: чым і калі ён зможа аддаць пазыку? Ці, можа, спадзяецца на маю раптоўную смерць? Хай сабе і так, грошы ў магілу з сабой не панясеш. Да таго ж аддаў не апошняе».

Тут яшчэ ёсць згадка аб Гражыне — але гэта толькі партрэтная занатоўка, не болей, развагі аб літаратуры, гэта ўсё да справы не мае дачынення. Нож і акумулятар наогул не згадваюцца.

Гэтак мы маем чатыры матывы забойства:

— Каханне і помста (Тэрэза).

— Забойства на глебе мастацтва (Кяльміцкас).

— Забойства з-за грошай (Маршанскі).

— Загадкавае забойства (Гражына).

Як пісьменніка мяне больш прывабліваюць каханне, мастацтва і загадкавасць, але як следчы я павінен аддаць перавагу фактам.

Сак закрыў дзённік:

— Тэрэза, ты ўпэўненая, што табе няма чаго нам сказаць?

Яна маўчала.

— Тэрэза, пасля таго, што ты пачула, табе ўсё адно няма чаго сказаць? — настойваў Сак.

— Наконт чаго? — Тэрэза нарэшце ўзняла галаву.

— Наконт грошай ты ведала?

— Сямён, гэта праўда ці Мікола правакуе мяне? — спытала яна ў мужа, але той не адказаў.

— Можаш прачытаць сама,— Сак падсунуў дзённік,— але ў мяне ёсць больш надзейны доказ,— ён паставіў на стол перапэцканы глеем дыпламат Маршанскага. — Ён закапаў яго на градах з паўгадзіны таму. Даўгалевіч перадаў грошы толькі ў Доме творчасці, і таму давялося вазіць іх з сабой, у дыпламаце. Пра гэта не ведаў ніхто. Было толькі чатыры радкі ў дзённіку. І ты, Сямён, паляваў за запісамі, каб зні-

шчыць. Пакуль, відаць, Гражына, у якой ты не паспеў яго забраць, не падкінула сшытак на стол, бо ледзь не паплацілася за дапытлівасць жыццём. Забіць, каб прыўлашчыць грошы.

Маршанскі памкнуўся ўстаць:

— Тэрэза, не вер яму, гэта правакацыя.

Яна моўчкі накруціла код на зашчапках дыпламата і падняла вечка. Шчыльна складзеныя пачкі грошай у банкаўскім апакаванні, вольная прастора запхана газетамі.

— Я не казаў пра іх,— Маршанскі спалохана азіраўся,— бо пасля забойства, здзейсненага кімсьці з вас, гэтая пазыка набывала іншы сэнс. Нехта з вас хоча падставіць мяне, выкарыстаць абставіны. Гэтыя грошы і так перайшлі б да нас з Тэрэзай у спадчыну, паводле тастаменту, які склаў нябожчык. Мне забіваць не мела сэнсу.

— Бач ты яго, усё расклаў і нават чужыя грошы палічыў. Перайшлі б, але калі? Відаць, спатрэбіліся сёння? — Сак зачыніў дыпламат. — Табе і зараз няма чаго сказаць, Тэрэза?

— Я маўчала, бо не верыла. Ты, Мікола, меў рацыю, я казала не ўсю праўду. Тады знадворку праз акно лазні я ўбачыла Сямёна з паляўнічым нажом у руцэ, ён узмахнуў ім і шпурнуў у басейн. Тады я нічога не зразумела, але мяне ўразіў ягоны твар — акамянела-спалоханы. Усё, больш я не глядзела. — Тэрэза выбегла з пакоя.

— Я ўжо сказаў,— Маршанскі нікому не глядзеў у вочы,— гэта правакацыя. Нож мне падкінулі ў пакой. Я знайшоў яго і хацеў паказаць Вадзіміру. Я спусціўся ў лазню, але ён ужо быў нежывы. Я спалохаўся, так, я змоўчаў, бо абставіны былі супраць мяне, але я не забіваў. Вам цяжка зразумець, але вы не былі на маім месцы, я нават не паспеў падумаць, як шпурнуў нож у басейн. Я хацеў расказаць, як было, але баяў-

ся. Вось і зараз сярод вас сядзіць сапраўдны забойца, які зрабіў так, каб усё сыходзілася на мне. Ты не маеш права судзіць, ты гэта разумееш, Сак?

— Сціхні,— Мікола ўстаў.

Маршанскага як паралізавала, ён ні пра што больш не пытаўся, нічога не даводзіў. Ён спакойна даў сябе замкнуць у кладоўцы пад сходамі. Важкі ключ ад такога ж важкага навяснога замка Сак паклаў сабе ў кішэню.

Разыходзіліся моўчкі. На развітанне Сак, калі ўжо стаяў у адчыненых дзвярах Даўгалевічавага кабінета, сказаў мне:

— Зайдзі да Тэрэзы, каб не здарылася чаго,— ён падсунуў дыпламат з грашыма пад папкі з рукапісамі ў кардонную скрыню і замкнуў дзверы.

Тэрэза глядзела ў акно.

— Не турбуйся, Марцін,— сказала яна,— са мной нічога не здарыцца, хопіць на адзін дзень і адной смерці.

На калідоры было пуста і да пранізлівасці ціха. Здавалася, што ўсё зроблена правільна. Сыходзіліся дэталі, пасаваў час і матывы забойства. Не мог я толькі паверыць у адно, у тое, што Маршанскаму быў патрэбны ўвесь гэты маскарад з лістамі, клоунскай капэртай. Але ж бачыла яго Тэрэза з нажом у лазні. Каму іншаму, а ёй маніць сэнсу няма. Ды і Маршанскі ад нажа не адмаўляўся.

І тады, калі ўжо крануў рукою клямку свайго пакоя, я раптам зразумеў, што да чаго, гэта не было ланцужковае пракручванне здарэнняў. Я проста супаставіў усе факты адразу. І яны склаліся ў цалкам паслядоўную, ідэальную сістэму. Я прыдзірліва выпрабоўваў на логіку кожны пункт сваёй версіі і баяўся зварухнуцца, але яны кожны паасобку і ўсе разам былі нязрушныя.

Гражына прачыніла дзверы і няголасна запытала:

— Ты яшчэ доўга будзеш так стаяць?

— Чакай, здаецца, зразумеў, як было на самой справе. Ідзі адпачывай.

Я таргануў дзверы Даўгалевічавага кабінета. Яны былі замкнёныя.

— Хто? — спытаў Сак.

— Марцін.

— Заходзь.

Ён адамкнуў і сеў за секрэтэр. Я ўладкаваўся на краі канапы.

— Чым займаешся, Мікола?

— Не сплю.

Сак сядзеў спінай да мяне, паклаўшы галаву на сашчэпленыя рукі.

— Мы памыліліся,— сказаў я,— калі ўзялі Маршанскага пад замок, ён не забіваў. Я прыйшоў, каб ты пачуў праўду.

— Праўда ў тым,— стомлена сказаў Сак,— што Вадзіміра няма. Астатняе мяне больш не хвалюе. Я мушу разабрацца ў ягоных рукапісах. Ідзі адпачываць ці садзіся і дапамажы.

— А тое, што сапраўдны злачынца можа забіць кожнага з нас, цябе не хвалюе?

— Калі забойца — Маршанскі, то ён пад замком. А калі хто іншы — яму няма сэнсу забіваць. Ён будзе паводзіць сябе ціха-ціха. Ведаеш, Марцін, у мяне няма больш сілы корпацца ва ўсім гэтым. Ідзі лепш адпачні, супакойся. Табе трэба выйсці з ролі следчага,— Сак змоўк.

Я глядзеў на ягоную ссутуленую постаць за сталом і ніяк не мог распачаць — маўчаў. Дом зрэдку аказваўся гукамі. Рыпенне крокваў. Ледзь чутны ва унісон электрастанцыі звон шкла, тахканне гадзінніка. Цішыня выдавала ад гэтага штучнай.

— Не табе аднаму цяжка,— нарэшце прамовіў Сак,— ты ж хаця маеш да каго ісці. Гражына, відаць,

таксама не спіць. Мы зрабілі што маглі, і можаш адпачываць. Хаця гэта і не самае лёгкае на сённяшні дзень. Табе цяжка паверыць у Маршанскага-забойцу? А мне яшчэ цяжэй сказаць тое ж пра Тэрэзу, Эдмундаса. Мы расклалі факты, і з іх вынікла праўда: Маршанскі — забойца. Чаго табе не стае?

— Ты маеш рацыю ў адным,— на мяне ціснула штучнасць навакольнай цішыні, і я казаў ледзь не шэптам,— мы расклалі факты, і з іх вынікла — Маршанскі забіў дзядзьку Вадзіміра. Але ж мы расклалі не ўсе факты, толькі тыя, якія пасавалі да гэтай версіі. А забойства планавалася загадзя. Як мінімум — за суткі. І факты, якія мы схапілі на самым версе, таксама маглі быць падрыхтаваныя. Каб забіць Даўгалевіча, Маршанскаму нож быў без патрэбы, як і ліст з пагрозамі, як і сапсаваная радыёстанцыя.

Бяром сітуацыю: моцна п'яны дзядзька Вадзімір сядзіць адзін у лазні, да яго заходзіць Маршанскі і пасяброўску раіць, каб той працвярэзіўся, скупацца ў халодным басейне. Патапіць п'янага чалавека і не пакінуць слядоў на целе — справа не цяжкая. А потым выдаць усё за няшчасны выпадак. П'яны Даўгалевіч захлынуўся ў басейне. Давесці, што гэта забойства, было б потым цяжка, нават немагчыма.

І тая ж Тэрэза, і Гражына — кожны, каму залежала проста забіць дзядзьку Вадзіміра, выбраў бы шлях імітацыі няшчаснага выпадку — ці мала што нарабіў п'яны чалавек? Захлынуўся ў басейне, зваліўся з прычала ў возера, выпаў з акна, што заўгодна, але не зарэзаў сябе нажом і не кінуў той нож у басейн. Ніхто з гэтых чатырох не падыходзіць на ролю забойцы з пункту гледжання выканання.

— Нонсенс,— Сак выпрастаўся ў крэсле,— хочаш абараніць Маршанскага — абараняй. Хаця не магу зразумець, нашто табе гэта. Акрамя гэтых чатырох, не было каму забіваць на выспе.

— Не зусім так, нас тут шасцёра.

— Хочаш сказаць, забіць мог і ты сам? — Сак павярнуўся да мяне тварам.— Не атрымаецца, мы былі разам пад час забойства.

— Мы былі разам, калі я граў на фісгармоніі, а гэта не адно і тое ж.

— Ты ж сам бачыў Даўгалевіча на ўласныя вочы перад тым, як мы селі да інструмента, і тыя чацвёра таксама бачылі, і я бачыў,— Сак хаця і пачаў злавацца на мяне, але казаў усё адно ціха, ледзь не шэптам. Мы абодва баяліся скалануць цішу.

— Забойства планавалася загадзя,— я казаў усё больш і больш упэўнена, кожнае слова дадавала мне веры ў слушнасць маіх думак,— а ў такім выпадку забойца павінен быў падрыхтаваць сабе алібі. Але ўсе чацвёра, каго ты падазраеш, яго не маюць. І таму аўтаматычна я здымаю з іх абвінавачанне ў забойстве. Алібі ёсць толькі ў нас з табой, да таго ж стопрацэнтнае, па ўсіх правілах.

— Так,— Сак сціснуў кулакі,— дагаворвай.

— Я не забіваў, гэта вядома мне самому дакладна, застаешся ты. Ты, Сак, забіў дзядзьку Вадзіміра.

— Вар'яцтва,— Сак засмяяўся,— я забіў Даўгалевіча? І чаму? Таму, што не мог забіць. А тыя чацвёра не забівалі, бо мелі магчымасці і матывы да гэтага. Маршанскага бачылі з нажом у руцэ. І ён не забіваў. А я ў гэты час сядзеў побач з табой, і я — забойца? Думай, калі гаворыш.

— Слушная парада, я думаю, і таму магу раскласці твае дзеянні ўсе па парадку, што і за чым.

— Цікава,— Сак падсунуўся з крэслам бліжэй да мяне,— я заўсёды казаў: ты, Марцін, пішаш не пра тое, што трэба. Цікава, да чаго толькі твая выкшталцонасць дайшла на гэты раз. Пісаў пра вар'ятаў, нарэшце і сам звар'яцеў. Давай расказвай. Плёткі аб самім сабе заўсёды цікава паслухаць.

Я глядзеў на ягоны са злоснай усмешкай твар і адчуваў — Сак мяне ненавідзеў у той момант, толькі здаралася такое і раней. Затое здзіўленне было непадробным, і я сам пачынаў вагацца — ці правільна ўсё пралічыў? Мо і сапраўды — вар'яцтва. Сак — лепшы Даўгалевічаў сябра і забойца ў адной асобе?

— Калі пачаў, то і скончыць трэба,— Сак відавочна ўзяў сябе ў рукі. — Мы і так столькі ўсяго адзін аднаму нагаварылі за гэтую ноч — жах. Цэлае жыццё разбірацца будзем. Я ўжо ўсіх вас, усіх ненавіджу, а цябе, Марцін, ніколі і не любіў.

Вось і зараз. Думаеш, я веру, што Маршанскі забіў, разумею, а веры няма. Хай потым суд будзе, хай яго ў турму пасадзяць, хай, урэшце, сам прызнаецца, а канчатковай веры не будзе ніколі,— Сак нахіліўся і ледзь чутна дадаў: — Бо не паверу, што Вадзіміра не стала.

Разумееш, жывы ён для мяне, ды і ты не верыш, вось і шукаеш неверагоднага, каб пераканаць самога сябе, бо ягоная смерць таксама неверагодная. Яна, як легенда, як з іншага жыцця да нас прыйшла.

Я шукаю тлумачэнні згодна са сваім светапоглядам, ты са сваім. Я ненавіджу зараз цябе, а ты мяне, нават Вадзімірава смерць не прымірыла нас. А ён жа быў здольны любіць і цябе і мяне.

Добра, можаш казаць, гэта нічога не зменіць, горш не будзе, я слухаю.

Сак нечакана для мяне палагоднеў, выняў цыгарэту і запаліў. Запалка крутанулася ў паветры, не даляцела да каміна і ўпала на дыван. Сак абыякава махнуў рукой.

— Усё пачалося з ліста,— я таксама запаліў, тонкі струменьчык шызага дыму ўздымаўся пад столь, змешваўся там з дымам Сакавай цыгарэты,— менавіта з ліста, гэта быў першы рэчавы доказ у справе за-

бойства. Тады ніхто з нас не надаў яму належнай увагі, нават сам Даўгалевіч.

А цяпер пытанне — хто імкнецца знішчыць рэчавыя доказы? Зазвычай забойца. Вось і першы ўчынак — ліст спаліў ты, Мікола, не падраў, не захаваў на памяць, а знішчыў так, каб не засталося слядоў, спаліў.

Цяпер другое — радыёстанцыя. Першымі на выспу прыплылі я, Гражына, Тэрэза і Кяльміцкас. Калі б забойцам быў хто з нас, то замкнуць акумулятар было лягчэй і надзейней да вашага прыезду. Але ж нажніцы віселі на сцяне — Тэрэза імі зразала кветкі, а потым на маіх жа вачах павесіла іх на месца. Таму нажніцы перамкнулі клемы акумулятара пасля вашага, Маршанскага і Даўгалевічавага, прыезду.

Тое ж і з нажом. Ён знік у той самы час, пасля вашага прыезду. Пасунемся далей. Хто падліваў Даўгалевічу цэлы вечар? Я ці, можа, Эдмундас? Падліваў ты, Мікола, той, хто ўсё жыццё змагаўся з ягоным п'янствам. П'янага чалавека лягчэй забіць, ці не так? Нават калі ўсе выйшлі з лазні, ты застаўся з дзядзькам Вадзімірам піць, я палічыў бутэлькі на стале. Іх на адну больш, чым было, калі я выходзіў з лазні. Ты прыхаваў яе, каб спаіць Даўгалевіча.

— Ну, ты даеш,— Сак рассмяяўся,— калі ўсё гэта ўсур'ёз лічыць абвінавачваннем у забойстве, то і мяне, і цябе, ды ўсіх, хто ў гэтым доме, трэба не выпускаць з турмы ад самага нараджэння.

— Я не скончыў, падрыхтоўка да злачынства — яшчэ не забойства. Галоўнае, дзеянне. Дык вось — усе, акрамя цябе і Даўгалевіча, пайшлі з лазні. Лазня не тое месца, куды вяртаюцца проста так, без дай прычыны. Вам гарантавана прабыць сам-насам з паўгадзіны. Да пачатку святочнай вячэры кожны з гасцей будзе заняты сваёй справай.

Ты выходзіш у прылазнік — пераконваешся: ніхто

нічога там не забыўся. На сцяне вісіць Даўгалевічаў халат і ручнік, на лаўцы ляжыць твой скрутак. Ты прачыняеш дзверы і глядзіш у гасцёўню. Дзверы там шырока адчыненыя, увесь калідор добра праглядаецца. Госці сядаюць за сталом, гуляюць у карты.

Ты апранаешся. Выцягваеш са скрутка нож і вяртаешся ў лазню.

Наступны момант я не магу ўявіць сабе, не той склад мыслення. Глядзіш ты Даўгалевічу ў вочы, калі набліжаешся да яго з нажом за спінай ці той спіць? Але дакладна ведаю адно — ты б'еш яго нажом у сэрца. Вяртаешся ў прылазнік, надзяеш ягоны халат паверх адзення, а каб не было відаць нагавіц — падкасваеш іх вышэй калена, бярэш Даўгалевічаў ручнік, замотваеш ім галаву і палову твару, нож хаваеш у рукаве і выходзіш на калідор.

Усе, хто сядзіць за сталом, пазнаюць не Даўгалевіча, як сцвярджаюць потым, а ягоны халат, шыты золатам, і п'яны поступ. За адно імгненне, калі ты праходзіш бокам да сходаў на мансарду, большага і не заўважыць: халат пазнаецца, прываблівае ўвагу. Ніхто не кранаецца з месца — гарантыя. Здзейснілася тое, чаго ўсе чакалі — Даўгалевіч кінуў піць і пайшоў наверх прыводзіць сябе да ладу.

Наверсе падкідаеш нож Маршанскаму ў пакой (да забойства замкамі тут ніхто не карыстаўся), пра грошы ты ведаў, відаць, ад Даўгалевіча. У кабінеце бярэш бутэльку і ідзеш на ніз. Зноў для ўсіх імгненная праява, гарантыя твайго будучага алібі: Даўгалевіч з бутэлькай у руках заходзіць у прылазнік. Зноў спрацоўвае халат і нядбайна закручаны ручнік.

Ты нават шчыльна не прычыняеш дзверы, бо ёсць небяспека — нехта пойдзе ўгаворваць яго не распачынаць бутэльку, а пачакаць да вячэры. Таму хутка скідаеш халат, ручнік і гаворыш у паветра: «Не, Вадзімір, я больш піць не буду, ды і табе не раю, да-

вай віно сюды». І адразу ж выходзіш з бутэлькай у руках.

Мэта дасягнута, усім даведзена — Даўгалевіч на дадзены момант сядзіць у лазні і збіраецца неўзабаве выйсці, піць яму больш няма з кім і няма чаго.

Адзінае, што выдае цябе,— гэта падкасаныя нагавіцы. Іх можна вытлумачыць толькі тым, што на табе быў раней халат. Ты падыходзіш да стала, ставіш бутэльку і прыспешваеш усіх разысціся па пакоях, маўляў, скора вячэра і трэба рыхтавацца. Аднак сам рыхтавацца не збіраешся. Табе нельга больш сыходзіць з гасцёўні, да таго ж неабходны надзейны сведка — ты затрымліваеш мяне, зачыняеш дзверы (усё, што адбываецца ў калідоры на гэты час, павінна застацца таямніцай). Фісгармонія і спеў добра чутны ва ўсім доме. Я граю — алібі. З гэтага моманту кожны, хто хаця б на хвіліну застаўся сам, трапляе пад падазрэнне.

Праз паўгадзіны ўсе зноў збіраюцца ў гасцёўні, цяпер можна спакойна спытаць: а дзе Даўгалевіч? Вы ж былі з ім гэты час побач, а не я. Ідзіце, паглядзіце, што з ім зрабілі. Забойства! Ратунку! Ты, ты, ты і ты — на лаву падсудных. Я адзіны, хто мае права судзіць вас — бо сам без віны, ды яшчэ Марцін, ён сведка маёй бязвіннасці. Перахапіць следства ў свае рукі — лепшая гарантыя поспеху ў злачынстве.

— Цябе паслухаеш, сам пабяжыш вешацца,— Сак [illegible] палёгкай уздыхнуў,— што ты лухту выдумляць любіш, я і да гэтага ведаў. Але тут не хапае адной акалічнасці і не апошняй — першай. З яе пачынаць трэба, [illegible] то можна сказаць, што я на памяле праз комін лётаў. І акалічнасць гэтая — матыў. Нашто мне было забіваць Даўгалевіча? Што я, спадчыну па ім атрымаў? Ці з Тэрэзай ажаніўся? Не сыходзяцца ў цябе, Марцін, канцы з канцамі,— Сак раптоўна пасур'ёз-

неў, падсунуўся з крэслам бліжэй. — Ну, дык матыў, матыў?

— Матыў — і ёсць самае цікавае,— я пасунуўся трохі ўбок, бо Сак практычна навісаў нада мною.— Матыў — недакладнае слова — хутчэй сцэнарый, ідэя. І кінуў гэтую ідэю, як ні дзіўна, сам дзядзька Вадзімір, ён меў рацыю, калі казаў, нібыта ў нас, беларусаў, апошнім часам не стае святых пакутнікаў, што адгэтуль ідуць нашыя беды, таму мы не можам кансалідавацца, у нас няма зараз імя сучасніка, годнага таго, каб узняць яго на штандары. Будзь ты тройчы геній, але калі памрэш сваёй смерцю ў шпітальным ложку — ты не пакутнік.

Затое прыгожы, таямнічы канец жыцця ператвараецца ў паданне, легенду. Робіць самога чалавека, няхай сабе нават сярэдніх здольнасцяў, сімвалам, і не для далёкіх нашчадкаў, а для сучаснікаў. Таямніцу загібелі можна потым лёгка перакручваць на каго заўгодна, легенда ёсць легенда, яна не патрабуе доказаў: на масонаў, на палітыкаў, чужынцаў, сяброў, суайчыннікаў, на кожнага, хто табе не даспадобы.

Ты сам зразумеў тое, што Даўгалевіч зразумеў гады два таму — ён скончыўся як пісьменнік, памёр пры жыцці. І толькі напісанае ім раней па інерцыі прымушае людзей лічыць яго сімвалам нашай літаратуры, сімвалам нацыянальнага руху, бо не было на той час, ды і на гэты лепшых, чым ён. Не хапала для ідэальнага героя, імя якога можна несці на штандарах, аднаго — пакутніцкай смерці, якую як дакор можна прад'явіць кожнаму, хто скажа слова супраць. Імідж, які стварыў вакол сябе Даўгалевіч, быў для цябе важнейшы за сяброўства, важнейшы за дзядзьку Вадзіміра як чалавека.

І вось, калі легенда пра лепшага, таленавіцейшага чалавека нацыі пайшла на спад, ты падтрымаў яе, вывеў на новы віток. Даўгалевіч прыдумаў на ўзроўні

філасофіі, а ты здзейсніў прыгожую канцоўку легенды. Ты забіў сябра, каб даць нацыі святога пакутніка. Ты забойца, Сак.

Я не паспеў адскочыць ці нават ухіліцца — Сак кінуўся на мяне і паваліў. Сам не разумею чаму, але змагаліся мы моўчкі. Сак — вялізны і моцны, як мастадонт, мёртва сціснуў мне рукі. Адно, што я змог — зачапіў яму за шыю нагу і памкнуўся скінуць. Сак захрыпеў, і нага саслізнула, моцная шыя мала чым розьнілася таўшчынёй ад галавы. Ён пачаў падцягваць маю руку сабе пад калена. Я схапіўся за край габелена над канапай. Са сцяны паляцелі цвікі, захрабусцела тканіна. Мне на запясце, да пранізлівага болю, націснула напятае Сакава калена. Імгненна, вольнай рукою ён кінуў мне на твар вялікую мяккую падушку і наваліўся на яе ўсім целам.

Я нават не паспеў адвярнуць галавы. Падушка шчыльна лягла на твар. Праз спрасаванае пер'е я не мог уздыхнуць, пачаў задыхацца. Я рвануўся што было моцы, але дарэмна. Сак трымаў надзейна. Праз сціснутыя пружыны матраца адчуваліся спінай дошкі каркаса. Жахліва не хапала паветра, кожная спроба ўздыху раздзірала болем лёгкія.

У цемры перад вачыма паплылі чырвоныя і фіялетавыя жарынкі-плямы, боль прытупіўся і адасобіўся ад мяне, цела страціла вагу. Пульсаванне крыві ў скронях змянілася далёкімі бомамі. Цяжар Сакавага цела аслаб і спакваля ссунуўся ўбок.

На імгненне яскрава бліснула святло, у лёгкія ўварвалася паветра. Я паспеў заўважыць над сабой жаночую галаву, аголеныя плечы і ззянне вакол галавы, электрычна-жоўтае. Рысы твару зліваліся, блыталіся. Раптам усё крутанулася ў вачах і правалілася ў чорнае нішто.

Колькі прайшло часу, я тады не адчуў, але свядомасць у рэшце рэшт вярнулася да мяне. Я ляжаў на

падлозе, ззянне лямпачкі было ўжо збоч ад дзяўчыны, што схілілася нада мной. Я не мог, ды і не імкнуўся ўспомніць, хто гэтая дзяўчына. Я не памятаў нават свайго імя, хто я і нашто тут, і дзе знаходзіцца гэтае тут? Адчуваў толькі, як далонь кранае мае шчокі. Нечакана прарэзаўся боль — далонь не кранала,— дзяўчына хвастала мяне па шчоках, з паўслова ўзнік голас і адчай у ім.

— ...цін, ачніся. Марцін!

— Гражына,— прамовіў я, і тут вярнулася страчанае, я ўспомніў следам за ўласным імем і размову з Сакам, і нашае змаганне.

Я абапёрся рукой і сеў, галава дагэтуль жахліва круцілася, агледзеўся. Пад рукой была Сакава нага, я глянуў далей. Сам Сак нерухома ляжаў на падлозе тварам уніз. На спіне ў яго павольна шырылася пакуль яшчэ невялікая крывавая пляма, я прымружыў вочы і згледзеў пасярэдзіне плямы мікраскапічную дзірачку, як ад вязальнага прутка. Я машынальна ўзяў пульс на Сакавай руцэ — сэрца маўчала.

— Ён нежывы, я забіла яго,— Гражына стомлена апусцілася перада мной на калені; правяла рукой па валасах. — Я пайшла за табой і падслухоўвала, што мне заставалася яшчэ? Не ты — Сак пераканаў мяне ў тваёй слушнасці, калі кінуўся душыць.

Тут толькі я згледзеў каля яе доўгае самаробнае канцылярскае шыла, якое раней ляжала на пісьмовым стале. І ўспомніў, як Даўгалевіч прашываў ім рукапісы як перфаратарам. Зноў паплылі перад вачыма чырвоныя ў фіялетавыя жарынкі, я затрымаў дыханне і азірнуўся на канапу: не было ні жадання, ні нават сілы варухнуцца, мне хацелася спыніць час. Я выцягнуў з кішэні насоўку, за ёй выпаў ключ ад лазні.

— Ад якіх ён дзвярэй? — Гражына пераняла ключ.

— За імі ляжыць Даўгалевіч,— я расціснуў пальцы,— але што з таго?

— Чакай, я зараз, чакай, я вярнуся. І маўчы,— сказала Гражына. Пачуліся асцярожныя крокі, прыцішана хруснуў ключ па той бок дзвярэй.

Я яшчэ не апрытомнеў канчаткова. Усё адно: куды, нашто пайшла Гражына, было дастаткова пачуць: «Я вярнуся» і супакоіцца. Новае забойства яшчэ не зматэрыялізавалася для мяне, існавала на мяжы ўсведамлення. Я паспрабаваў устаць, з другой спробы мне гэта ўдалося. Рука шчыльна аблягла дзяржальна шыла. Дзяржальна выдавала цёплым і зручным. «Каб не Гражына, то замест Сака мне ляжаць тут,— падумаў я і паклаў шыла на пісьмовы стол,— цікава, а што збіраўся рабіць Сак пасля маёй гібелі? Паліць труп разам з домам ці цягнуць да возера?»

Падлога хіснулася ў мяне пад нагамі, я цяжка апусціўся на крэсла, у акне мне падаліся сполахі маланкі. Паліць ці тапіць?

Мяне пачало кідаць то ў гарачыню, то ў холад. Дзе Гражына? За акном ці ў маіх вушах пачало гусці — не тое вецер, не тое дождж. Я абхапіў галаву і ўспёр локці ў стол. Дзе Гражына? Што з ёй будзе? Чаму ўсе спяць і не выходзяць з пакояў, калі дзеецца забойства? — неадчэпна кружлялі думкі.

Зноў па-змоўніцку шчоўкнуў замок. Гражына прычыніла за сабой дзверы.

— Збірайся, сыходзім,— яна паклала на стол побач з шылам скрыначку запалак.— Апрытомнеў? — Гражына імкнулася не глядзець у бок, дзе ляжаў Сак.

— Што гэта зменіць? — няпэўна адказаў я. — Дзе ключ?

— Застаўся ў замку, хутчэй,— Гражына пацягнула мяне за руку,— зараз хто-небудзь прачнецца, і будзе позна. — Ад яе выразна пахла бензінам.

Раптоўна згасла святло, але цёмна не стала. Пад

акном з боку прыбудаванай да лазні кацельні-электрастанцыі шугала полымя.

Гражына кінула маю руку і схапілася за край вялізнай, напакаванай Даўгалевічавымі рукапісамі кардоннай скрыні з-пад тэлевізара.

— Дапамажы,— яна схапіла са стала зялёны сшытак-дзённік і кінула яго паверх рукапісаў, за ім палящела яе торбачка. — Дапамажы,— яна расхінула дзверы і пасунула скрыню на калідор. Я таксама ўхапіўся за край, і мы мінулі парог.

Гражына перакруціла ключ, падсунула яго пад дзверы, пакратала клямку, ці надзейна зачыніла. Водбліскі полымя выхоплівалі з ночы акно-разетку ў канцы калідора.

— Цягні на ніз,— шэптам загадала Гражына і кінулася да дзвярэй Тэрэзы.

— Гарым! Ратуйцеся! — пачала біць у іх абцасамі.

У канцы калідора нехта, відаць, Кяльміцкас, адчыніў дзверы. Але я ўжо гэтага не бачыў, цягнуў скрыню на ніз, у гасцёўню да выйсця. Наперадзе пачуўся грукат.

— Гэй, адамкніце, пажар,— крычаў з кладоўкі Маршанскі. Ён біў у зачыненыя дзверы. — Гэй, хто тут?!

Я кінуў рукапісы і пачаў ірваць голымі рукамі прабой з шула дзвярэй.

У гасцёўні трэснула і пасыпалася шкло. Скразняк заляпаў дзвярыма. Мацней загуло полымя, і перадпакой зацягнула дымам. Кашляючы, па сходах збеглі Тэрэза з Гражынай.

— Цягніце скрыню! — крыкнуў я ім, успёрся нагамі ў сцяну і з усяе сілы пацягнуў прабой за замок. Рыпела шула, трушчылася атынкоўка, але прабой не зрушыўся. Маршанскі біў не ў той бок дзвярэй, завесы былі яшчэ мацнейшыя за замок, я крычаў яму, але ён, відаць, не разумеў мяне.

З мансарды збег Эдмундас і пачаў ірваць дзверы ў лазню.

— Там Вадзімір!

Полымя, ледзь толькі ключ перакруціўся ў замку, расхінула дзверы і, падхопленае ветрам, ірванулася ў калідор. Эдмундас падбег да мяне. Жар апякаў і сцягваў скуру на твары.

— Дзе Сак?! — крыкнуў Эдмундас. — Ключ у яго!

— Позна шукаць! — Я рваў замок з усяе моцы, Кяльміцкас павіс на ім таксама. За сцяной кашляў ад дыму і лаяўся Маршанскі.

Эдмундас кінуў замок, прыкрыў галаву пінжаком і знік у дзвярах гасцёўні, што раз-пораз узнікалі ў разрывах дыму. Раптоўны парыў ветру падхапіў полымя, і я ледзь паспеў згасіць валасы. З дыму ўзнік Эдмундас, пінжак на ім курэў, а твар быў перапэцканы вуголлем, у руках ён сціскаў гарачую качэргу.

— Сямён, мы зараз! — Кяльміцкас прасунуў качэргу пад замок, і мы разам павіслі на ёй. Завішчала па дрэве сталь. Металёвы прут сагнуўся, і прабой павольна падаўся следам за качэргай. Маршанскі яшчэ раз ударыў, гэтым разам куды трэба. Замок адляцеў у сцяну, а мы з Эдмундасам адскочылі ўбок. Маршанскі стомлена прываліўся да шула. Кяльміцкас схапіў яго за руку:

— Хутчэй.

Мы выбеглі. Было светла, як на праспекце. Жанчыны ўсё яшчэ як заведзеныя сунулі скрыню далей ад пажару.

— Хопіць,— крыкнуў я ім і азірнуўся на дом. Ён яшчэ не страціў у агні архітэктурных формаў. Шыфер на даху трэскаўся і разлятаўся вогненнымі пырскамі. Ахопленыя полымем вінаградныя лозы адна за адной адгаралі і падалі са шпалераў.

— Дзе Сак?! — крычаў Маршанскі і кідаўся ад

мяне да Эдмундаса, ад Эдмундаса да жанчын. — Дзе Сак?!

Гражына не паспела адказаць, як у доме ўзарваліся балоны з газам. Вялізны палымяны шар, падобны да сціснутага кулака, ударыў у нізкія хмары. Хіснуліся і заваліліся кроквы. Ад выбуху пераламаліся драўляныя апоры цыстэрны з палівам для рухавіка. Пачуўся цяжкі ўдар, і новы слуп полымя ўзвіўся над выспай. Вогненны паток шугануў на бераг і паплыў возерам. Вецер гнаў яго, разбіваў на вогненныя выспы. Паверхня вады зіхацела жоўтым і чырвоным, успыхваў і падаў узбярэжны чарот.

Усіх спыніла гэтае відовішча. І самае страшнае — я адчуваў ягоную прыгажосць. Я ўпершыню адчуў, што прыгажосць можа быць страшнай.

— Ён застаўся там? — Эдмундас паказаў рукой на дом, што чарнеў у воблаку полымя.

— Хто ён? — спытаў я.

— Сак,— Эдмундас апусціў руку.

Гражына села на зямлю, закрыла твар рукамі:

— Я грукалася да яго, ён у сваім пакоі, сказаў, што зараз выйдзе, не адамкнуў. Прасіў, каб мы ратавалі Даўгалевічавы рукапісы, а ён паспрабуе ўратаваць ад агню цела, але, відаць, не паспеў,— Гражына расплакалася.

І тут я зразумеў, як уратаваць яе самую, успомніў жарт дзядзькі Вадзіміра з неіснуючым дротам у цемры.

— Глядзіце,— крыкнуў я і наўздагад паказаў на возера,— глядзіце! Там за агнём човен, нехта ўцякае адсюль. Уцякае забойца! Ён хаваўся на выспе, падпаліў дом і ўцякае! Глядзіце! — Я падбег да Тэрэзы і пачаў ледзь не ўпрошваць яе. — Бачыце, вунь там, за агнём, маленькі човен, бачыце, уцякае. Не, не тут, трошкі правей. Чорт, за дымам зараз не відаць. Вось, вось, зноў з'явіўся. Ну, глядзіце ж, знікне ў цемры!

Эдмундас прыўзняў руку і пачаў пільна ўзірацца. Маршанскі стаяў побач з ім і разгублена глядзеў у полымя.

Тэрэза раптам схапіла мяне за плячо:

— Бачу, вунь, сапраўды,— падбегла да Кяльміцкаса з Маршанскім,— глядзіце, човен, далёка, я ж адразу казала, забіў нехта другі, старонні. Ніхто з нашых не мог пайсці на такое.

— Бачу! — Маршанскі пачаў трэсці Кяльміцкасу руку. — Глядзі ж, уцякае, свалата, нічога, мы яго яшчэ знойдзем.

— Сапраўды,— спакойна сказаў Кяльміцкас,— трэба запомніць, у які бок ён кіруе, каб потым лягчэй было шукаць.

Яны ўтрох падышлі пад самы бераг. Іх постаці выразна вымалёўваліся на фоне агню. Галасы нішчыў шум пажару.

Я сеў на траву побач з Гражынай, абняў яе за плечы і паклаў яе галаву сабе на калені. Сам прытуліўся да кардоннай скрыні з Даўгалевічавымі рукапісамі. Гражына ўсё плакала, раз-пораз уздрыгвала.

Я прагнуўся, выцягнуў са скрыні першае, што трапіла ў руку,— дзённік. Разгарнуў. Паміж вокладкай і першай старонкай укладзены аркуш тоўстай фактурнай паперы. Дакладны, разборлівы почырк дзядзькі Вадзіміра — аўтограф Гражынінага верша, лепшага ў яе жыцці санета.

Пад расцягнутымі па гарызанталі і сціснутымі па вертыкалі радкамі то ўспыхвала, то згасала ў водблесках полымя дата Даўгалевічавай смерці, упэўнена накрэсленая ягонай уласнай рукой.

Я заплюшчыў вочы і ўявіў пасмяротны збор твораў, які будзе пачынацца факсімільным перадрукам гэтага верша і датай з легенды. Датай, аб якой напішуць кнігі даследаванняў, артыкулы, якую будуць называць экскурсаводы ў адноўленым доме-музеі на гэ-

тай выспе. І ўсе хрэстаматыі нашай літаратуры змесцяць гэтую дату як пачатак легенды жыцця і смерці святога пакутніка, нацыянальнага гонару.

Легенда будзе існаваць і стане мацнейшай за нейкія доказы і абгрунтаванні, мацней за нас саміх, што стварылі яе. Бо толькі такія легенды і маюць права на існаванне.

Так я думаў у тую ноч, што паступова пераходзіла ў ранак, так я думаў, і так яно здзейснілася...

## Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Клімковіч Максім Аляксандравіч**

*Мяжа па даляглядзе*

Аповесці, дэтэктыўны раман

Рэдактар *А. П. Рыбак.* Мастак *В. У. Беліцкая.* Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд.* Тэхнічныя рэдактары *Г. П. Тарасевіч, І. І. Дуброўская.* Карэктар *К. У. Дзмітрыенка.*

Падп. да друку з арыгінал-макета 11.02.94. Фармат 70×100[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7,15. Ум. фарб.-адб. 7,48. Ул.-выд. арк. 7,96. Тыраж 6000 экз. Зак. 868.

Набрана на настольна-выдавецкай сістэме.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Клімковіч М.**

**К49** Мяжа па даляглядзе: Аповесці, дэтэкт. раман.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 174 с.— (Першая кніга празаіка).

ISBN 5-340-01020-1.

Першая кніжка маладога празаіка Максіма Клімковіча вабіць чытача незвычайнасцю мастацкай формы, загадкавасцю ўчынкаў герояў. Яна напісана ў традыцыях авантурна-прыгодніцкага жанру эпохі сярэдневякоўя, дзе шмат містыкі, жахаў, інтрыг, трагічных завязак і развязак, усплескаў рамантычнага кахання.

Асобна вылучаецца дэтэктыўны раман «Сцэнарый смерці», дзе прагглядваецца сучаснасць, аднак і тут аўтар не мяняе сваёй манеры пісаць «пад старадаўнасць»...

К $\frac{8820600000 - 058}{М\ 302(03) - 94}$ 35 — 93

ББК 84(4Бел)6



Максім Клімковіч нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў геадэзістам, начальнікам участка на будаўніцтве аўтамабільных дарог.

Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Бярозка».

Выдаваўся як у афіцыйным, так і ў самвыдатаўскім друку.

Максім Клімковіч адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў «Жнівеньскі праспект», «Тутэйшыя», «Паркан». Асобнымі кніжкамі выходзілі напісаныя ім у сааўтарстве з Адамам Глобусам і Міраславам Шайбаком трылеры «Заўсёды светла каля турэмных муроў» і «Каханка д'ябла».